# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК
Ц. Б. КРАЯЗНАЎСТВА
ПРЫ ІНСТЫТУЦЕ
БЕЛАРУСКАЙ
КУЛЬТУРЫ



№ 12 (15) 1926 г. СЬНЕЖАНЬ

МЕНСК.

З ПРЫЧЫНЫ ПЕРАХОДУ ЧАСОПІСУ

„НАШ КРАЙ“

НА САМААПЛАТУ

з І-га студзеня 1927 году

РЭДАКЦЫЯ СПЫНЯЕ

ДАРМОВУЮ ВЫСЫЛКУ ЧАСОПІСУ

КАБ НЯ БЫЛО ПЕРАПЫНКУ Ў РЭГУЛЯРНЫМ АТРЫМАНЬНІ ЧАСОПІСУ

РЭДАКЦЫЯ ПРОСІЦЬ

СВАЯЧАСОВА

ПРЫСЫЛАЦЬ ПАДПІСКУ НА

„НАШ КРАЙ“

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

Цэнтральнага Бюро Краязнаўства

ПРЫ

ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ.

№ 12 (15) Сьнежань 1926 г.

ВЫДАНЬНЕ
Інстытуту Беларускае Культуры.
МЕНСК.—1926.





# Краязнаўства ў гаспадарчым і культурным будаўніцтве краю.

Кастрычнікавая рэволюцыя стварыла новую эру ў краязнаўчай працы. Да рэволюцыі краязнаўства не ўваходзіла ў сфэру грамадзянскай увагі, ня шукала грамадзянскіх формаў працы, не апіралася на шырокія актыўныя колы грамадзкасьці,—краязнаўства ў дарэволюцыйны пэрыод насіла характар замкнутасьці і, нават, акадэмічнасьці. Лік краязнаўчых організацый быў вельмі нязначны і знаходзіліся гэтыя організацыі, амаль што, выключна ў сталіцах ды губэрнскіх гарадох, дзе былі спэцыялістыя вучоныя, якія і складалі краязнаўчыя аб'яднаньні.

Краязнаўства ў мінулым амаль што зусім не насіла характару практычна-карыснай працы; яно было далёка ад вырашэньня жыцьцёвых гаспадарчых і культурных проблем. Цяпер наадварот: справа краязнаўства зьяўляецца пераважна вытворчай проблемай, проблемай будаўніцтва новай гаспадаркі і новай культуры.

Перад партыяй, Савецкай уладай і перад усімі працоўнымі масамі стаіць цяпер вялікая задача гаспадарчага і культурнага будаўніцтва ў кірунку новага соцыялістычнага ладу. Нам патрэбна разьвіваць нашу прамысловасьць, падняць на належную вышыню тэхніку нашае сельскае гаспадаркі, стварыць культурныя ўмовы жыцьця і працы. Задачы, якія перад сабой ставіць рабочая кляса і Савецкая ўлада, могуць быць з посьпехам выкананы толькі пры ўмове ўсебаковага вывучэньня прыродных багацьцяў і асаблівасьцяй краю, яго насельніцтва, культуры і быту гэтага насельніцтва. Вывучэньне і вырашэньне проблем сельскай гаспадаркі, умоў разьвіцьця нашай прамысловасьці, укладу экономічных і бытавых узаемаадносін маюць для нас у сучасны момант ня толькі адмыслова-тэорэтычнае значэньне, але і практычную неабходнасьць.

Для разьвіцьця сельскае гаспадаркі нам неабходна добра ведаць усе прыродныя і соцыяльна-экономічныя ўмовы данай мясцовасьці, становішча сельска-гаспадарчае тэхнікі, культурны ўзровень насельніцтва гэтае мясцовасьці і г. д.; нельга разьвіваць прамысловасьці таго ці іншага віду, не дасьледваўшы належным чынам усіх магчымасьцяй гэтага разьвіцьця: налічча сыравіны, запасаў энэргіі, працоўнае сілы, выгаднага транспорту, попыту на вырабляемыя продукты; нельга з посьпехам праводзіць культурныя мерапрыемствы без належнага ўсебаковага вывучэньня псыхолёгічных, бытавых, гістарычных і соцыяльна-экономічных умоў жыцьця насельніцтва. Мы маем цэлы шэраг прыкладаў няўдачлівых спроб культурнага і экономічнага будаўніцтва з прычыны таго, што адсутнічалі папярэдні ўчот і дасьледваньне мясцовых умоў і асаблівасьцяй, пры якіх праводзіліся тыя ці іншыя мерапрыемствы. Для кожнае ўстановы, для кожнае організацыі, для ўсякага працаўніка павінна быць ясна, што трэба і можна карысна працаваць толькі тады, калі падлічаны ўсе мясцовыя мажлівасьці і перашкоды. Адсюль для партыйных, савецкіх і гаспадарчых установ і працаўнікоў, для шырокіх працоўных мас вынікае патрэб-

насьць усебаковага вывучэньня сваёй мясцовасьці, сваёй краіны. Агроном, доктар, настаўнік, палітасьветны працаўнік—павінны ня толькі ведаць чарговыя задачы, якія пастаўлены партыяй і Савецкай уладай у галіне іх працы і праводзіць іх па прынятым трафарэце, але кожны з працаўнікоў і ўсе разам павінны найлепш разьвязаць гэтыя задачы ў данай мясцовасьці пры даных умовах. А трэба прызнацца, што мы ў нашай практычнай працы зусім ня лічыліся ў мінулым і мала лічымся ў сучасным (па старой прывычцы) з мясцовымі экономічнымі і культурнымі асаблівасьцямі, між тым як праца ў нас, на Беларусі, вымагае асаблівай уважлівасьці, асаблівай асьцярожнасьці, калі прыняць пад увагу мінулае нашай рэспублікі, яе неаднолькавы нацыянальны склад і вельмі абвостранае раней нацыянальнае пытаньне.

Вывучэньне сваёй краіны, свайго раёну асабліва патрэбна цяпер, калі пасьля праведзенага раёнаваньня масцовым савецкім установам (РВК) прадастаўлена шырокая ініцыятыва ў культурным і гаспадарчым будаўніцтве. Паднімаюцца пытаньні аб утварэньні нацыянальных саветаў і адчыненьні нацыянальных школ, аб пабудове фабрык мясцовага значэньня і г. д., а між тым належнае ўсебаковае фактычнае вывучэньне гэтых пытаньняў вельмі часта адсутнічае, што вызывае непаразуменьні і часамі непатрэбныя шкадлівыя матар'яльныя затраты.

Зразумела, што адміністрацыйна-гаспадарчым і культурна-асьветным органам самім па сабе з гэтай вялікай задачай усебаковага вывучэньня сваёй мясцовасьці, сваёй краіны для плянавай карыснай працы справіцца вельмі трудна, нават немагчыма. Неабходна прыцягнуць да гэтае справы самыя шырокія працоўныя масы і перш на перш мясцовыя краязнаўчыя організацыі—таварыствы і гурткі, якія да гэтага часу сваю працу праводзяць яшчэ без належнай сувязі з мясцовымі савецкімі, плянуючымі і гаспадарчымі ўстановамі і з гэтае прычыны ня маюць цьвёрдага, ясна вызначанага кірунку ў сваёй працы.

Вялікая і адказная задача стаіць перад усімі краязнаўчымі організацыямі, задача вывучэньня сваёй мясцовасьці перш за ўсё дзеля практычных мэт дапамогі працоўным масам і органам савецкай улады ў іх гаспадарчым і культурным будаўніцтве.

Другая Ўсесаюзная Конфэрэнцыя па краязнаўству (у сьнежні м-цы 1924 г.) з задаваленьнем адзначыўшы, што „Краязнаўчы рух на мясцох у сваім аснаўным зьмесьце будуецца галоўным чынам на грунце ўсебаковай дапамогі справе гаспадарчага і культурнага будаўніцтва нашага Саюзу“ прапанавала „мясцовым краязнаўчым установам у далейшай працы аддаць максымум сваёй увагі галоўным чынам справе ўсямернай і рознастайнай дапамогі гаспадарчаму і культурнаму ўздыму краю, адзначаючы пры гэтым, што правільнае вырашэньне вялізных і складаных проблем будаўніцтва патрабуе організацыі ўсебаковага вывучаньня розных месц краю ў сучасным і мінулым іх прыроды і насельніцтва“. (Рэзолюцыя па дакладах ЦБК, Галоўнавукі і з месц).

Дзеля гэтага краязнаўчым організацыям трэба будаваць плян сваёй працы, выходзячы з мясцовых чарговых задач Савецкае ўлады, увязваць сваю працу з практычнай працай савецкіх устаноў. Толькі ў такім выпадку праца краязнаўчых організацый будзе жыцьцёвай і карыснай для працоўных мас і органаў Савецкае ўлады.

Такія пытаньні, як інтэнсыфікацыя сельскай гаспаркі, рацыяналізацыя лясной гаспадаркі, мэліорацыя, разьвіцьцё мясцовай прамысловасьці, коопэрацыі, правядзеньне культурных мерапрыемстваў (народ-

ная асьвета, ахова здароўя) і інш. могуць быць вырашаны савецкімі органамі на мясцох у значнай меры пры дапамозе краязнаўчых арганізацый і савецкай грамадзкасьці.

Агульным зьявішчам яшчэ да гэтага часу зьяўляецца слабая сувязь гаспадарчых органаў з краязнаўчымі арганізацыямі; у пераважнай большасьці краязнаўчых арганізацый (як гэта выявілася на Першым Усебеларускім Краязнаўчым Зьезьдзе і потым на апошнім пашыраным пленуме ЦБК) працаўнікі гаспадарчых установаў амаль што адсутнічаюць; самая праца гаспадарчых установаў вядзецца чыста ведамсьцьвеным парадкам, што далёка не адпавядае прынцыпам уцягненьня ў соцыялістычнае будаўніцтва шырокай савецкай грамадзкасьці.

Органам плянуючым, гаспадарчым і коопэрацыйным установам і працаўніком неабходна бліжэй падыйсьці да краязнаўчых арганізацый, устанавіць з апошнімі цесную сувязь дзеля сумеснага культурна-гаспадарчага будаўніцтва краю. Неабходна, каб вытворчыя пляны гаспадарчых і культурных установаў з аднаго боку і пляны працы краязнаўчых арганізацый з другога—былі ўзгоднены і цесна, органічна між сабой увязаны. Краязнаўчыя арганізацыі вывучаюць пытаньне, усебакова дасьледуюць, даюць належныя матар'ялы; гаспадарчыя і плянуючыя органы выкарыстоўваюць гэтыя матар'ялы для ажыцьцяўленьня вывучанага пытаньня. Трэба зразумець, што краязнаўчая праца ёсьць праца ня толькі краёвага, але і дзяржаўнага значэньня; гэта належным чынам трэба ацаніць, выкарыстаць прыметны краязнаўчы рух на мясцох у мэтах культурна-гаспадарчага будаўніцтва і ўсімі мерамі дапамагчы разьвіцьцю гэтага руху.

Адказы на неадкладныя пытаньні сучаснасьці, дапамога ў культурна-гаспадарчым будаўніцтве сваёй краіны—вось кірунак краязнаўчай працы сягоньняшняга і заўтрашняга дня.

Цяпер некалькі слоў аб школьным краязнаўстве. Ці павінна яно насіць які-колечы ўтылітарны, практычны характар? Бязумоўна так. Паколькі наша Савецкая школа ставіць сваёй задачай актыўны ўдзел у вакружаючым жыцьці, пасільную дапамогу насельніцтву ў культурна-гаспадарчым будаўніцтве, пастолькі ўся яе дасьледчая краязнаўчая праца павінна насіць практычны характар: ня толькі дасьледваць, ня толькі вывучыць пытаньне, але нешта пасільнае і зрабіць, калі не самастойна, дык пры дапамозе тых ці іншых арганізацый і ўстаноў. Зьмест школьнага краязнаўства выцякае з праграм, але самыя праграмы, патрабуюць вывучэньня вытворчых сіл данай мясцовасьці і ўдзелу школы ў жыцьці. Праца-ж спэцыяльных школьных гурткоў павінна быць узгоднена з вытворчым плянам самае школы з аднаго боку і з мясцовымі краязнаўчымі і гаспадарчымі арганізацыямі з другога. Школьнае краязнаўства павінна насіць вытворчы ўхіл і быць грамадзка-карысным і неабходным, напрыклад: вывучэньне санітарна-гігіенічнага становішча вёскі з мэтай палепшыць яго, абсьледваньне сельскай гаспадаркі і барацьба за павышэньне яе тэхнікі.

В. Самцэвіч.




М. Касьпяровіч.

# Організацыя краязнаўчага руху.

## 1. Гурток краязнаўства.

Там, дзе ёсьць хоць-бы адзін, шчыра зацікаўлены краязнаўствам працаўнік, ён не павінен адмовіцца ад спробы заснаваць краязнаўчую організацыю адпаведнага ўмовам маштабу. Калі зацікаўленасьць да краязнаўства сярод пэўных працаўнікоў, часткі насельнасьці ёсьць, трэба скарыстаць яе пры організацыйным афармленьні, а калі няма— выклікаць гэтую зацікаўленасьць усебаковым тлумачэньнем мэт і значэньня краязнаўства. У краязнаўчай працы ў першую чаргу павінна быць зацікаўленасьць да разьвіцьця вытворчых сіл краю, вывучэньня яго і замілаваньне краем наогул. Пры паказаных умовах ужо лёгка пачаць організацыю гуртка. Зразумела, што яшчэ лепш, калі ёсьць і іншыя спрыяючыя ўмовы для організаваньня: хата-чытальня, ці падобная ўстанова для сходак, куток, пакой для музэю, грамадзка-культурныя сілы, як агроном, настаўнік, доктар, актыўная моладзь, зацікаўленасьць да справы адміністрацыйнай улады і д. т. п. Орыентаваўшыся ва ўсім гэтым, ініцыятар павінен параіцца з бліжэйшай краязнаўчай організацыяй—гуртком, а яшчэ лепш раённым ці акруговым таварыствам краязнаўства і атрымаць адтуль мажлівую дапамогу.

Атрымаўшы адтуль неабходны статут, ініцыятар павінен добра яго вывучыць, каб мець дакладнае ўяўленьне як аб задачах, так і аб структуры будучай організацыі і знаёміць з гэтым другіх.

Пасьля гэтага ініцыятар павінен згуртаваць з найбольш зацікаўленых асоб ініцыятыўную групу, якая агульнымі сіламі зробіць крокі да організацыі. Карысна будзе, калі члены гэтай групы скарыстаюць кожную сходку некалькіх чалавек у любым месцы, вечарынку і г. д., каб расказаць аб краязнаўстве, выклікаць жаданьне вывучаць свой край, або выступаць аб значэньні гэтай справы на тым ці іншым агульным сходзе.

Пасьля таго як глеба ў організацыйным кірунку будзе падрыхтавана, ініцыятыўная група склікае свой першы агітацыйна-інформацыйны сход. Чым з большага ліку катэгорый людзей сход будзе складацца, тым лепш. Трэба запрасіць сялян як старых, так і маладых, членаў партыі, савецкіх працаўнікоў, агрономаў, комсамольцаў, вучняў і іншую мясцовую інтэлігенцыю. У парадку дня павінен быць даклад

аб значэньні краязнаўства і яго мэтодах і аб утварэньні мясцовай краязнаўчай організацыі. Будзе карысна ў канцы дзелавой працы організаваць паказ з сьпяваньнем мясцовых песень, апавяданьнем казак і д. т. п.

Організацыі, заснаваныя без папярэдняй падрыхтоўчай працы, на сходзе выпадкова папаўшых асоб, яны часьцей за ўсё хутка паміраюць, як хутка заснаваліся. Дзеля гэтага трэба імкнуцца да таго, каб організацыя, хоць-бы і пры дапамозе з боку, вырастала сама ў поўнай сьвядомасьці сваіх задач.

Вышэйпаказаны агульны сход павінен быць дасканала падрыхтаваны як з боку памяшканьня, так і апавяшчэньня аб ім і захаваньня парадку на ім. У выніку ўсебаковага абгаварэньня пытаньняў павінна атрымацца ня толькі пастанова, але і пераконаньне аб неабходнасьці ўтварэньня організацыі і ўступленьня ў яе шэрагі. На сходзе абвяшчаецца, дзе, калі і ў каго адбываецца запіс аб жаданьні ўступіць у організацыю, а можа тут-жа адбывацца і самы запіс.

Калі за тыдзень або за іншы тэрмін выявіцца пэўны лік жадаючых працаваць, трэба склікаць організацыйны сход, знашоўшы адпаведнае памяшканьне, падрыхтаваўшы яго, апавясьціўшы ўсіх (пажадана пісьмова, калі шмат) і г. д., словам, падрыхтаваўшы яго належным чынам. У парадку дня гэтага сходу павінна стаяць пытаньне аб утварэньні краязнаўчай організацыі, прыёме статуту і выбары праўленьня і рэвізыйнай камісіі.

Форма мясцовай краязнаўчай організацыі бывае самая рознастайная: гурток аматараў і дасьледчыкаў мясцовай флёры або гісторыі, народнага мастацтва, ці інш.; камісія для організацыі краязнаўчага музэю; гурток краязнаўства і д. т. п. Форма гэта залежыць цалкам ад складу асоб сходу і зацікаўленасьці тым ці іншым пытаньнем, галінаю досьледаў і погляду ініцыятыўнай групы. Але напэўна ў даным месьце не зьбярэцца шмат асоб, зацікаўленых вузкім пытаньнем і жадаючых адасобіцца ў сваёй працы ад іншых. Дый захоўваючы індывідуальныя жаданьні кожнага, усё-ж трэба згадзіцца, што вельмі непажадана драбніць працу па дасьледваньні і вывучэньні свайго краю сярод вялікага ліку розных організацый, тым больш пры пэўным паралелізьме ў іх працы і малым ліку працаўнікоў. Затым карысна аб'яднацца для працы ў гурток краязнаўства, які меў-бы мэтаю ўсебаковае вывучэньне свае тэрыторыі ў пэўных межах па галінах: грамадзка-экономічнай, прыродна-географічнай і культурна-гістарычнай і ўжо пры гатоўцы членаў гуртка, зацікаўленых пэўнай галінай дасьледваньня, організаваць у яго межах сэкцыі, камісіі і інш. часткі гуртка тым больш, што гэта пазбаўляе ад лішніх клопатаў па рэгістрацыі, перапісцы і ім падобным. Гэтым не навязваецца агульная форма, трафарэт організацыі, але пазбаўляецца анархічная розмастайнасьць організацый пры захаваньні самай шырокай розмастайнасьці працы, пры больш адзінай і ўзоравай (стандартызаванай), так кажучы, форме організацыі.

Вырашыўшы пытаньне аб форме організацыі, організацыйны сход павінен прыняць статут, констытуцыю яе. Лепш за ўсё для гэтага скарыстаць так званы нормальны, узоравы статут, тым больш, што ён, будучы зацьверджаны як тыповы, ня выкліча спрэчак пры зацьверджаньні яго мясцовым органам Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў: раённым ці акруговым выканаўчым камітэтам. Прачытаўшы статут цалкам, сход павінен прыняць яго па пунктах. Такім спосабам у процэсе дакладнага вывучэньня статуту пры прыёме яго, члены добра пазнаё-

мяцца з пабудовай гуртка, мэтодамі яго працы, правамі і г. д. Апрача таго, у гэтым нормальным статуце трэба запоўніць пэўныя месцы, каб ён стаўся статутам данае організацыі.

Значыць, апрача прыёму параграфаў статуту, сходу прыдзецца вырашыць пытаньне аб назьве гуртка і інш. Лепш за ўсё называць гурток па месцы знахаджэньня яго праўленьня, як напр. Страліщчанскі, Кармянскі, Чашніцкі, Чэрвенскі, і г. д. Калі сход захоча ўшанаваць памяць мясцовага краязнаўцы, ці дзеяча культуры з свае мясцовасьці і назваць гурток яго імем, ён можа дадаць яго да тэрыторыяльнай назвы, як напр., Труханавіцкі імя Цяпінскага гурток краязнаўства, Слабадзкі імя Ф. Скарыны гурток краязнаўства і г. д.

Дальш трэба вызначыць раён дзейнасьці, тэрыторыю, якую будзе вывучаць і дасьледваць гурток. Яна можа складацца з аднае вёскі з усімі яе палямі і інш., з мястэчка, сельсавету і нават раёну, так што гэты пункт можна формуляваць так: „У межах вёскі Марчонкі з аколіцамі“, „у межах Горкаўскага сельсавету“, або „мястэчка Сялібы з аколіцамі“ ці „Койданаўскага раёну“. Ня варта імкнуцца да абхопу вялікай тэрыторыі, бо гэта вельмі цяжка, а да таго краязнаўца павінен вывучыць маленькі кавалачак зямлі дакладна, бо бяз гэтага, ня вывучыш большага.

У склад гуртка можа ўвайсьці кожны грамадзянін, не пазбаўлены выбарчага права, незалежна ад свае адукацыі. Мала і зусім няпісьменны селянін можа прынесьці часамі ня меншую карысьць гуртку, чым сталы вучоны. Апрача гэтага, гурток можа згуртаваць працу і ня членаў гуртка, але карысных для гуртка сваёй працай у кірунку выкананьня пастаўленых сабе гуртком задач. Самымі першымі членамі гуртка зьяўляюцца заснаваўцы, члены організацыйнага сходу ў ліку ня менш 5 асоб. Усе іншыя прымаюцца на чарговых агульных сходах па пісьмовай заяве іх аб гэтым. Членскія ўзносы вызначаюцца ў разьмеры прынятым у раённым таварыстве краязнаўства, членамі якога аўтоматычна залічаюцца члены гуртка. Калі раённае таварыства яшчэ не організавалася—агульны сход гуртка вызначае разьмер узносаў па сваімпоглядзе, а таксама вырашае і іншыя пытаньні ў паразуменьні ў адпаведных пунктах з Акр. Т-вам Краязнаўства.

Пасьля прыняцьця статуту прыдзецца абраць праўленьне і рэвізыйную камісію гуртка. Першае абіраецца ў ліку ня менш 3 асоб і 1 кандыдата. Калі лік заснаваўцаў менш 7, рэвізыйная камісія не абіраецца да павялічэньня ліку членаў гуртка, а яе абавязкі выконвае агульны сход, рэвізыйныя матар‘ялы якому дакладвае член гуртка па выбары агульнага сходу.

Урэшце падпісваецца статут гуртка ў 3 экз. ня менш чым пяцьма заснаваўцамі. Краязнаўства нават больш клясава, чым звычайная навука і ў буржуазных старонках мае зусім іншыя краязнаўчыя задачы, а значыць і формы і затым у нас у кожнай краязнаўчай організацыі павінен быць захованы пролетарскі клясавы характар, аб чым неабходна не забывацца з самага пачатку дзейнасьці.

Падпісаны статут у 3 экз. пры заяве і протоколе організацыйнага сходу разам з сьпісам заснаваўцаў пасылаецца ў Райвыканком ці Акрвыканком на зацьвярджэньне. Неабходна заўважыць, каб гэты протокол, як і іншыя ў наступнай працы гуртка, меў поўныя даныя аб сходзе і загаловак: які сход (грамадзян, членаў прэзыдыуму і г, д.), каго (в. Альшанікі, Астапаўскага гуртка краязнаўства і г. д.), №, дата (дзень,

месяц, год) сходу, лік прысутных і пералічэньне іх, або дадатак сьпісу іх да протоколу; час адчыненьня і зачыненьня; месца; старшыня і сакратар; парадак дня; кароткі зьмест дакладаў, пытаньняў, якія пытаньні ўзьняты і хто іх падымаў, пастановы і подпісы прэзыдыуму. Сьпіс заснаваўцаў павінен быць укладзены па адпаведнай форме.

Калі заснаваўцаў вельмі шмат, лепш для палягчэньня працы падпісаць статут і запоўніць сьпіс 5—7 чал., а іншыя проста лічыць членамі гуртка. Для ўступленьня ў гурток таксама трэба запоўніць адпаведную анкету.

У выпадку адмаўленьня ў зацьверджаньні статуту трэба падаць мотываваную скаргу ў Агруговы Выканаўчы Камітэт, лепш цераз Акруговае Таварыства Краязнаўства.

Адначасна з падачай статуту на зацьверджаньне праўленьне гуртка павінна паведаміць раённае таварыства краязнаўства аб організаваньні, паслаць адбітак протоколу і сьпіс членаў. Калі апошняга няма,— Акруговаму Таварыству Краязнаўства. Адбіткі ўсіх папер павінны захоўвацца ў справах гуртка, якія спачатку складаюцца з сшытку протоколаў сходаў і паседжаньняў, выхадных папер, уваходзячых папер і прыбыткова-выдатковага сшытку.

Пасьля організацыйнага аформленьня гурток павінен пачаць сваю працу, для чаго павінен быць укладзены пэўны плян і ўзгоднены з раённым таварыствам краязнайства, а ў выпадку адсутнасьці апошняга— Акруговым. Першымі крокамі гуртка павінна быць уцягненьне ў свае шэрагі большага ліку асоб і популярызацыя краязнаўства сярод шырокіх колаў, а таксама падлік краязнаўчых сіл, установ і літаратуры. Пры гэтым трэба памятаць, што актыўнасьць яшчэ ня ёсьць продукцыйнасьць, а рух—дзеяньне і што ў краязнаўчай справе павінен быць захаваны цалкам прынцып дабрахвотнасьці і поўная сьвядомасьць задач гуртка пры ўступленьні ў яго шэрагі. Затым набывае асаблівую вагу так званая папярэдняя падрыхтоўка асоб, якіх пажадана ўцягнуць у гурток. Лепш мець менш членаў гуртка і тую ці іншую працу гуртка, чым шмат членаў бяз працы гуртка.

На першых часох і да таго пакуль гэта ні насьпее ня варта дзяліцца на сэкцыі ў гуртку. Тады-ж, калі лік членаў і інш. умовы дазваляць гэта, дык лепш за ўсё організаваць сэкцыі: культурна-гістарычную, прыродна-географічную і грамадзка-экономічную. У складзе апошніх, апрача таго, могуць працаваць пэўныя камісіі: бібліографічная, мўзэйная і д. т. п.*)

Аб'яднаўшы мясцовых краязнаўцаў, гурток складае частку раённага таварыства краязнаўства, бо ўсе члены гуртка лічацца членамі таварыства і маюць мэту дасьледваць пэўную частку раёну, а таварыства— увесь раён. Разам з тым у сваіх узаемаадносінах, як і наогул ва ўзаемаадносінах паміж краязнаўчымі організацыямі, павінна заўсёды захоўвацца самастойнасьць краязнаўчых організацый меншага маштабу з аднаго боку і мэтодычнае, а часамі і організацыйнае кіраўніцтва організацыямі большага маштабу з другога, пры адсутнасьці наймалога элементу камандваньня і лепш за ўсё і самахвотнай згодзе організацыі меншага маштабу прыняць гэта кіраўніцтва пад увагу.

*) Апрача краязнаўцаў, на Беларусі працуе шмат аматараў сьветазнаўства. Ім лепш за ўсё аб'яднацца ў камісіі сьветазнаўства прыродна-географычнай сэкцыі гуртка, ці проста пры гуртку.




І. К. Гэмбіцкі.

# Валочная памера Бабруйскага староства ў XVII ст.

Докумэнты, якія паслужылі крыніцамі для гэтай працы, сабраны ў XXV т. „Актов Виленской комиссіи“. „Актаў, якія выдаваліся Віленскай камісіяй для разбору старажытных актаў“, зложаны на польскай мове і складаюцца з: 1) Выпісу з уставы 1560 г., зробленага па просьбе мяшчан Менскім кашталянам у 1584 г.; 2) Уступу да інвэнтару, зложанага Еўстафам Кердзеем падсудкам Горадзенскім у 1639 г.; 3) з 10 лістоў караля Рэчы Паспалітай Жыгімонта III-га да Бабруйскага старасты, да камісараў-рэвізораў, якія праводзілі валочную памеру, да насельніцтва староства і бліжэйшых да яго зямель, з лістоў падскарбіяў земскіх да камісараў-рэвізораў, якія праводзілі валочную памеру, да насельніцтва староства і аколічных зямель і лістоў падскарбіяў земскіх, да камісараў-рэвізораў, пісаных у розныя часы паміж 1611 і 1626 г. г. і 4) з інвэнтароў замку гор. Бабруйску і валасьці.

Докумэнты гэтыя сабраны ня поўнасьцю. У выпісу з уставы 1560 г. ёсьць матар'ялу менш 2-х старонак, зусім няма першага ліста караля да камісараў-рэвізораў, уступ да інвэнтару ня мае 8-х старонак, няма дзьвёх апошніх старонак 11-га ліста, няма пачатку ў апісаньні Любоніцкіх сёл [1]), няма канца уставы павіннасьцяй і вольнасьці для падданых валасьці [2]).

Ня глядзячы на гэта, на падставе маючагася матар'ялу можна прасачыць за тымі цікавымі асаблівасьцямі, якія былі зьвязаны з памерай на валокі і выклікаліся блізасьцю Бабруйскага староства да ўсходняй граніцы.

Бабруйскае староства, згодна канстытуцыі 1638 г., было прызначана каралеве Рэчы Паспалітай Рэнаце для забесьпячэньня пасагу. У канцы XVI сталецьця і пачатку XVII ў ім было мала насельніцтва, з прычыны блізасьці ўсходняй граніцы. Блізасьць, аднавернай для большай часткі насельніцтва, Маскоўскай дзяржавы давала магчымасьць насельніцтву староства бяскарнага ўцёку, а параўнаўчая адда-

[1]) Том. XXX Актов, издав. Виленск. Комис., стар., 305. [2]) Ibid., стар. 329.

ленасьць тагачаснага шляху зносін ад адміністрацыйнага цэнтру, якім у той час зьяўлалася Вільня, парашкаджала ўраду спыняць паўстаньні і пасяляць спакой і парадак, тым больш, што ўрад ня мог прымаць рашучых мер, бо быў заняты колёнізацыяй гэтага староства, у якім, як мы ўбачым далей, было занята сялянамі менш 50% вымераных для засяленьня валок.

Гор. Бабруйск упяршыню быў перамеран у 1560 г. рэвізорамі Рыгорам Валовічам, маршалкам караля, і Мікалаем Нарушэвічам, сакратаром караля [1]). У выпісу з уставы 1560 г. пасьля пераліку гарадзкіх угодзьдзяў, ёсьць паказаньне аб аблажэньні 233 мер „подлого“ грунту: „ зъ меръ двухсотъ трыдцати трохъ к грунту подлого отъ кажъдой меры по грошу одному, пенезей осми и двухъ трети, шафуючы пры чыншу з служъбы зупольное за жыто грошей десеть, за овёсъ грошей шесть, кгдыжъ съ тых застенковъ повинъностей некоторых нет“ [2]). Дзеля гэтага можна думаць, што ўся занятая насельніцтвам зямля староства, была перамерана ўжо ў 1560 г., але насельніцтва не сялілася ў сёлах, а заставалася па дварах і дворышчах, прычым грашовы падатак быў устаноўлены па ліку зямлі, згодна праведзенай памеры, а натуральны падатак, як і раней, вылічаўся з гаспадарак, падатак-жа жытам і аўсом пераводзіўся на грошы. Таму, што выпіс з уставы 1560 г. зроблен па просьбе мяшчан гораду, магчыма, што падаткі сялян ня былі ўлучаны поўнасьцю ў гэты выпіс. Параўнаньне разьмераў падаткаў паводле ўставы 1560 і 1639 г. г. будзе зроблена пры разглядзе падаткаў сялян. У 1598 г. рэвізоры Пётра Кавэцкі і Мацей Палубінскі перамералі на валокі Любоніцкія сёлы, прычым сёлы гэтыя ў другі раз не перамяраліся, а весткі аб ліку валок у іх браліся рэвізорамі з ведамасьцяй аб чыншавых запісах [3]).

Пачаткам памеры, распачатай у XVII сталецьці, трэба лічыць 1611 г. калі кароль Жыгімонт III зьвярнуўся з лістам да Івана Корсака, сакратара Вялікага Княства Літоўскага, і да земскага пісара Ашмянскага павету Мікалая Мархача-Пузалеўскага, прокурора Вялікага Княства Літоўскага, назначаючы іх камісарамі-рэвізорамі для правядзеньня памеры ў Бабруйскім старостве, але гэты ліст згублен. Адначасна кароль напісаў лісты да Бабруйскага старасты Пётры Трызны [4]), да паноў суседзяў і да сялян і мяшчан староства з папярэджаньнем, што ён прызначыў вышэйпамянёных камісараў-рэвізораў для правядзеньня памеры, якім трэба было даць поўную дапамогу. Падскарбі земскі Вялікага Княства Літоўскага, у той самы час, у лісьце да тых-жа рэвізораў, падрабязна паказваў, што ім належыць адправіцца ў Бабруйскае староства, перамераць зямлю на валокі, пасадзіць на валокі сялян, мець на ўвазе ўсе крыніцы прыбыткаў і скласьці ўставу, па прыкладу ўстаў іншых дзяржаў, якая павялічае прыбыткі караля, але не кладзецца цяжарам на сялян воласьці. У гэтым лісьце адзначалася, што да іх прыбудзе трэці рэвізор Адам Шаблоўскі, які служыць пры скарбе Вялікага Княства [5]).

У лісьце да Адама Шаблоўскага Ярош Валовіч паведамляў аб прызначэньні яго трэцім рэвізорам з спэцыяльнай мэтай абараняць інтарэсы скарбу, перасьцерагчы паданных ад цяжкіх падаткаў і сваячасова паведамляць урад аб ходзе памеры [6]). Але ўжо ў 1613 г., кароль у лісьце да рэвізораў, патрабаваў хутчэйшага сканчэньня па-

[1]) А. В. К. XXV, стар. 329-330. [2]) Ibid., стар. 330. [3]) Ibid., стар. 305. [4]) Ibid., стар. 114. [5]) Ibid., стар. 117. [6]) Ibid., стар. 117.

меры, паведамляючы іх, што хоць большая частка старства і была перамерана, але сяляне пачалі псаваць вымераныя валокі, не хацелі працаваць на іх і плаціць падаткі [1]). Дзеля гэтага рэвізорам загадвалася выявіць прычыны адмаўленьня сялян ад валок, пакараць вінаватых і папярэдзіць усіх, каб працавалі на вымераных валоках і не псавалі іх. У 1619 г., пасьля сьмерці рэвізора Корсака, кароль прызначыў замест яго Адама Шаблоўскага, аб чым паведамляў ясобным лістом і Бабруйскага старасту Пётру Трызну [2]). Хрыстафор Нарушэвіч, які зьмяніў падскарбія земскага Яроша Валовіча ў 1621 г. па просьбе Бабруйскага старасты загадаў рэвізору Шаблоўскаму адправіцца ў Бабруйскае староства для скончэньня памеры і вучоту „добр“ пасьля памёршага пана Жарчынскага [3]), якімі ён валадаў. Адзінаццатым лістом кароль у 1626 г. прызначыў замест памёршага рэвізора—Мікалая Мархача-Пузалеўскага—Сьцяпана Рагозу, земскага пісара Рэчыцкага павету [4]). Урэшце, у ўступе да інвэнтару староства паказваецца, што ён складзен у 1639 г. „устраіцелем“ і рэвізорам Еўстфем Кердзеем з Радзівоніч [5]).

Бабруйскі замак быў пабудован на беразе ракі Бярэзіны. Каля яго знаходзіўся горад, які пачынаўся з будынкаў старога двара. Воласьць дзялілася на дзьве паловы—Трокскую і Віленскую. У Віленскую палову ўваходзілі 22 сялы і 2 маёнткі, а ў Трокскую—33 сялы, 1 маёнтак і 1 фальварак. Замак быў пабудован з дрэва. У ім было 10 пакояў з вокнамі, часткаю шклянымі, у валавяных рамах, часткаю з пухіроў; печы з зялёнае кафлі з вялікімі комінамі, з лавамі і куфрамі каля сьцен. Да яго прылягалі некалькі гаспадарчых будынкаў: сьвірны для збожжа, пякарня, хатка для вартаўніка, 3 паграбы і турма ў падвале. Двор займаў цэлы морг зямлі, быў абведзен ровам і абгароджан высокім тынам з дубовых калоў. Гэта быў адміністрацыйны цэнтр староства.

Для абароны замка былі 2 гарматы, 3 марціры і 54 стрэльбы, утрыманьне якіх у парадку і абслугоўваньне, у выпадку патрэбы, было абавязкам двух пушкароў. У час небясьпекі пасылалася варта для папярэджаньня аб надыходзе ворага ў Мазыр, Рэчыцу і Лоеў [6]).

У ўставе, выдадзенай мяшчанам, адзначалася, што банды насельніцтва часта самавольна зьбіраліся і далучаліся да ворага, ад чаго замак, як відаць, быў заўсёды падрыхтован для абароны, а насельніцтва гораду і воласьці давала падатакі і на наём варты і на клікуноў пры замку. Да замку належала 7 азёр, у якіх маглі лавіць рыбу толькі дзесяць рыбаловаў, млын, паром пры рацэ і карчма.

Горад Бабруйск пачынаўся з будынкаў старога двара, дзе быў вялікі драўляны дом, другі дом меншы, будынак для гародніны, пякарня, кухня і ўсё гэта было абгароджана. Каля старога двара стаяла стайня з вазоўняй, два бровары і царкоўны шпіталь.

Гэта быў гаспадарчы цэнтр староства. З двух замкавых млыноў адзін аддаваўся старасьце, а другі, разам з карчмой і паромам, здаваўся ў арэнду мяшчанам гораду. Калі да гэтага дадаць 15 „прутоў“ саду ў самым горадзе, 5 дамоў, з якіх 3 былі для гасьцей, 1 для падстарасты і 1 для харунжага, некалькі гародаў, сенажаці і 2 выганы для жывёлы каля гораду, то ўсё гэта складзе маемасьць, непасрэдна належачую замку.

[1]) Ibid., стар. 118. [2]) Ibid., стар. 119. [3]) Ibid., стар. 120. [4]) Ibid., стар. 120. [5]) Ibid., стар. 114. [6]) Ibid., стар. 153.

Горад Бабруйск не карыстаўся Майдэборскім правам. Ён займаў плошчу больш 3-х валок. На рынку, які знаходзіўся ў цэнтры гораду, было 75 крам, якія гандлявалі пераважна гароднінай[1]). У горадзе было 409 дамоў на 15 вуліцах і 2-х завулках, касьцёл і пры ім больніца, якую абслугоўвалі айцы езуіты, і 3 царквы. Пры кожным доме было ад 1 да 6 „прутоў" сялібнай зямлі, у сярэднім па 2 „пруты". У самым горадзе гародаў было мала, але за горадам было занята імі 2820 „прутоў" зямлі. Такая вялікая плошча гародаў сьведчыць, што гародніцтва было распаўсюджана галоўным чынам у горадзе і па маёнтках. Аб гэтым сьведчыць і той факт, што ў 75 крамах прадавалася пераважна гародніна. На 391 гарадзкую гаспадарку, якія плацілі падатак, было падзелена 77 валок і 746 маргоў пахаці, так што ў сярэднім на кожную гаспадарку, якая мела рабочую сілу, прыпадала па палове валокі пахаці.

Ападаткованай сенажаці было 503 маргі, якая разьмяркоўвалася паміж насельніцтвам гораду, згодна з старажытным звычаем[2]). Для жывёлы мяшчан было 3 выганы.

Прадстаўніком вышэйшай улады ў старостве быў стараста, які жыў у замку або ў старым двары. Памоцнік яго, падстараста жыў у горадзе і, як відаць, вёў вучот усяе маемасьці гаспадара[3]). Агульную ўладу ўсяго староства складалі: харунжы, які жыў у горадзе і генэрал (возны), які жыў у сяле Качэрычах. На абавязку першага з іх было кіраўніцтва абаронай замку і староства, а другі быў прадстаўніком выканаўчай судовай улады і карыстаўся дзьвюма валокамі зямлі зволенымі ад падатку.

Пры замку знахозіліся два пушкары, на абавязку якіх было ўтрыманьне ў парадку агнястрэльнага аружжа і абслугоўваньне ў выпадку патрэбы гармат і марцір. Іх служба, як відаць, цанілася высака, таму што кожны з іх карыстаўся вольнымі ад падаткаў—сялібнай землёй, гародам і дзьвюма валокамі пахаці. Для пасылак з лістамі і грашмі служылі 4 „путных" баярыны або казакі, якія жылі ў горадзе, дзе за сваю службу мелі вольную ад падаткаў сялібную зямлю, гароды і па 1 валоцы пахаці. Пры старастах яшчэ да Пётры Трызны баяры карысталіся за сваю службу 8-ю валокамі пахаці, але Пётра Трызна 4 валокі перадаў айцам езуітам[4]). Да правядзеньня памеры, для выконваньня працы пры замку жылі рамесьнікі: каваль, бондар і тры плотнікі, якім давалася за службу 5 валок замкавай зямлі, але ў часе апошняй рэвізіі яны заявілі, што ім пры такіх умовах цяжка несьці службу і кінулі яе разам з зямлёй. Кароль з пакінутых рамесьнікамі 5 валок зямлі 2 аддаў на касьцёл, а 3 далучыў да замку, з тым, каб рамесьніцкая праца спаўнялася за кошт староства[5]). Урэшце пры замку была варта для „глашения по ночам" і для іншай працы, прычым горад даваў сродкі на наём аднаго вартаўніка, а ад воласьці іх наймалася некалькі чалавек, на ўтрыманьне якіх з насельніцтва браўся асобны падатак.

Прадстаўнікамі адміністрацыі гораду былі войт і падвойт, якія знаходзіліся ў поўнай залежнасьці ад старасты[6]), дзеля таго, што Бабруйск не карыстаўся Майдэборскім правам. Іх абавязкі складаліся з падтрыманьня парадку ў горадзе, разьмеркаваньня грашовых збораў паміж мяшчанамі, кіраўніцтва зборамі падатку з мяшчан, збору

[1]) А. В. К. стар. 126. [2]) Ibid., стар. 144. [3]) Ibid., стар. 305. [4]) Ibid., стар. 123. [5]) Ibid., стар. 123. [6]) Ibid., стар. 156.

мяшчан для разьмеркаваньня тэрміновай працы і падаткаў. Падвойт жыў на сродкі мяшчан і павінен быў выконваць даручэньні ўраду і войта.

Насельніцтва гораду складалася з мяшчан, пераважна праваслаўнае веры, і каталікоў. Каталіцтва падтрымоўвалася мясцовай уладай. Пры касьцеле была больніца, якую абслугоўвалі айцы езуіты, і дом, у якім яны жылі, кароль запісаў касьцёлу 3 сялы і зямлю каля гораду. Айцу Феафілу прышлося прад'явіць многа прывілеяў, каб утрымаць за царквой сьвятога Мікалая востраў Бажылоў, які знаходзіўся паміж сёл Кісялевічы і Пабаковічы. З прозьвішч насельніцтва відаць, што ў старостве ня было яўрэяў. Аб рамесьніках можна судзіць толькі па прозьвішчах, на падставе якіх можна налічыць у горадзе 18 рамесьнікаў: фэльчар (які пускаў кроў), цырульнік, злотнік, рымар, 3 сьлесары, півавар, пекар, каваль, шавец, 2 гарбары і 3 плотнікі.

Апрача мяшчан, якія мелі нярухомую маемасьць, у горадзе жылі яшчэ „чернокунцы“ або „падсуседкі“, якія ня мелі нярухомай маемасьці, але маглі карыстацца гарадзкімі ўгодзьдзямі на правох мяшчан. Даных аб ліку іх няма, але ўжо самы факт іх існаваньня паказвае значнае разьвіцьцё гандлёвага капіталу, які даваў ім працу і сродкі да існаваньня.

З шляхты ў горадзе жылі трое, занятків якіх высьветліць не магчыма. На чале насельніцтва воласьці стаялі „старцы“, па адным на Віленскую і Трокскую паловы. Іх абавязкі складаліся з кіраўніцтва дзейнасьцю падуладных ім заказьнікаў, нагляду за зборам падаткаў з насельніцтва, рэгулярнай праверкі граніц раз у тры гады, засяленьня пустых валок „добрымі людзьмі“, аддачы вольных валок на апрацоўку і „борцей“, зьбіраньня падаткаў на наём замкавай варты, разьмеркаваньня грашовых збораў паміж сялянамі, вырашэньня пытаньня разам з урадам і прадстаўніком ад войска—ці даваць войску „стацыі“ натурою ці грашмі і вырашэньне сумесна з „мернічым“ дробных зямельных спрэчак. Яны ня мелі права караць сялян—біць іх, апрача злачынцаў, а непапраўных сялян „старцы“ маглі саджаць у турму. За сваю службу „старцы“ карысталіся 2-ма валокамі зямлі, зволенымі ад падаткаў [1]).

Заказьнікі, па адным на сяло, загадзя абвяшчалі насельніцтву сваіх сёл аб часе здачы падаткаў і прысутнічалі самі пры гэтым, прысутнічалі ў часе працы на дзяржаву сялян іх сёл, аглядалі і сьведчылі ўсялякія шкоды і нарушэньні меж, а таксама папсуцьце платоў. Яны адказвалі за парадак у сёлах, абіраліся з лепшых людзей сяла і за сваю службу карысталіся аднэй валокай зямлі, зволенай ад падаткаў.

Мернічы раз у год павінен быў са „старцам“ або адзін аглядаць і папраўляць межы. Зямельныя-ж спрэчкі павінен быў вырашаць су-

---

[1]) У. І. Пічэта на стар. 242 сваёй працы „Аграрная реформа Сигизмунда-Августа в Литовско-Русском Гусударстве“, ч. I кажа, што „в противоположность волостным старцам дореформенной эпохи последние назначались правительством“, а не абіраліся, між тым у Уставе яснага паказаньня аб гэтым няма. Хоць на 326 стар. А. В. К., у Уставе для воласьці сказана „заказники в селах по одному люди добрые, не подозреваемые, веры годные должны выбираться“, а аб парадку назначэньня на пасаду „старцаў“ нічога не гаворыцца, але гэтага яшчэ мала, каб гаварыць, што па Уставе „старцы“ павінны назначацца ўладай. Аўтары Уставы не маглі так рашуча парушаць старасьветчыну, аб якой яны самі ўпамінаюць на стар. 325 А. В. К. Можна думаць, што аўтары Уставы, імкнуўшыся правесьці ў праўленьні цэнтралізацыю, сумысьле не закранулі пытаньня аб назначэньні на пасады „старцаў“, з тым, каб урад мог праводзіць на гэтыя пасады сваіх кандыдатаў.

месна са „старцам“ і разам з ім раз у тры гады аглядаць і папраўляць межы ва ўсім старостве. За гэта ён меў валоку зямлі, зволеную ад падаткаў, але павінен быў мець добрыя шнуры для вымерваньня зямлі ў сухую і вільготную пагоду.

Насельніцтва воласьці складалася толькі з цяглых людзей, якія плацілі чынш з грошай, дзякла, мезьлева, паншчыны, талок, гвалтаў і падводнай павіннасьці. У Бжоскім фальварку на дваровай зямлі жылі 13 гароднікаў, з якіх адзін быў, разам з тым, бондарам, адзін плотнікам, адзін піваварам і адзін гнаў сьпірытус. Абавязкам іх было выконваць рамесьніцкую працу, па спэцыяльнасьці, палоць гароды і адносіць лісты, куды патрэбна [1]). У воласьці былі дзьве царквы—у сяле Дваранінаве і Чэрніне.

Такім чынам, насельніцтва Бабруйскага староства складалася з некалькіх груп:

1. Прадстаўнікі адміністрацыі: а) мясцовай, агульнай для ўсяго староства—стараста, падстараста, харунжы і генэрал (возны); б) гарадзкой адміністрацыі—войт і падвойт і в) валасной—„старцы“, мернічы і заказьнікі.

2. Групы насельніцтва, якія карысталіся прывілеямі: а) езуіты, каталіцкае і праваслаўнае духавенства, б) шляхта, в) пушкары і г) баяры путныя або казакі

3. Вольнае насельніцтва: а) рамесьнікі, б) мяшчане і в) чарнакунцы.

4. Насельніцтва нявольнае, але меўшае права перасяленьня ў межах воласьці: цяглыя людзі.

5. Насельніцтва нявольнае, якое ня мела права перасяленьня: гароднікі.

У горадзе налічвалася 32 сям‘і з сябрамі, у воласьці іх было менш. У інвэнтарох з 1652 г. аб сябрыных сем‘ях больш не гаворыцца, бо к гэтаму часу яны раскідаліся.

За прут прысялібнай зямлі пры рынку мяшчане плацілі падатак—7$^{1}/_{2}$ пенязей, пры вуліцах 5 пенязей, за гародную ўгноеную зямлю 2$^{1}/_{2}$ пенязі, за гародную палявую зямлю 1 пенязь, за 1 валоку пахаці 48 грошай і за морг сенажаці 3 грошы.

Калі лічыць, што ў сярэднім гарадзкая гаспадарка мела па 2 пруты прысялібнай зямлі, па 2 маргі сенажаці, па 15 прутоў гароднай зямлі і па поўвалокі пахаці, то падатак з такой гаспадаркі дасягаў 30 грошай 46$^{1}/_{2}$ пенязей. Калі да гэтага дадаць бірчае—3 грошы і 2 пенязі, то ўсяго трэба было плаціць 33 грошы 50 пенязей, апрача расходу на ўтрыманьне падвойта і вартаўніка—клікуна.

Сяляне плацілі ад валокі: добрага грунту 120 грошай, сярэдняга—90 і дрэннага—60. Натуральны падатак з валокі складаўся з бочкі [2]) жыта і бочкі аўса, гуся, 2-х курыц, 20 яек, 10 жмень лёну, аднаго возу сена, 10 вазоў дроў і аднае фурманкі ў год, не далей, як на 60 міль. Апрача таго, сяляне павінны былі працаваць два дні ў тыдзень са сваім хлебам, адбываць 12 дзён талок, гвалтаў і розныя замкавыя працы ў працягу 4-х тydняў у год. Пры здачы падаткаў сяляне плацілі бірчае або пішчае для ўраду па 3 грошы з валокі. На наём замкавай варты давалася старцу ад дыму па 6 грошай і па асьміне (3 пуды) жыта. Пасьля здачы падаткаў „гаспадару“, сяляне павінны былі даць старцу па 2 грошы, па рэшату аўса і па аднэй

[1]) А. В. К. стар. 175. [2]) Бочка Віленскай меры мае 24 пуды аўса ці жыта.

курыцы. Устава загадвае на асаду браць ня больш як на год і дапушчае замест працы сялян далёкіх валасьцей, браць з іх па 60 грошай.

У першай палове XVII ст. Рэч Паспалітая вяла войны з Маскоўскай дзяржавай і дзеля гэтага патрабавалася шмат сродкаў. Пасьля таго, як „серебщина“ пачала мала даваць прыбытку ўраду, бо зьбяднеўшая ад вайны насельнасьць плаціла ўсё менш падаткаў, „гаспадар“ прымушан быў зьвярнуцца да другое крыніцы—к сваім „добрам“. Амаль усе маёнткі караля былі перададзены за пэўную суму грошай шляхце ў дажывотнае ўладаньне. Таксама было перададзена і Бабруйскае староства, якое належала да каралевы Рэнаты. Так, з 22 сёл і 2 маёнткаў Віленскай паловы—адно сяло абслугоўвала замак, тры сялы кароль запісаў касьцёлу, адно сяло і адзін маёнтак належалі да старасты і 17 сёл і 1 маёнтак належалі да бацькі старасты, ваяводы Пярноўскага. З 33-х сёл, аднаго маёнтку і аднаго фальварку Трокскай паловы—14 сёл і 1 фальварк належалі да старасты, 16 сёл і 1 маёнтак—Петранэлі Пац, удаве харунжага Вялікага Княства Літоўскага, пахадзіўшай з Трызнаў, адно сяло належала да шляхціца Л. Маціашкевіча, адно сяло—да Сьцяпана Рагозы, земскага судзьдзі Рэчыцкага павету і 1 сяло—да рэвізора Адама Шаблоўскага. Усе гэтыя сёлы, маёнткі і фальварак былі перададзены ў дажывотнае ўладаньне за пэўную суму грошай, апрача сяла, запісанага каралём рэвізору Адаму Шаблоўскаму.

Экономічны стан шляхты быў розны. Ваявода Пярноўскі з сынам, Бабруйскім старастам [1]), мелі 32 сялы, 2 маёнткі і 1 фальварак, а яго дачка мела 16 сёл і 1 маёнтак, ды Сьцяпан Рагоза, земскі судзьдзя Рэчыцкага павету, меў у Бабруйскім старостве толькі адно сяло, як і шляхціц Л. Маціашкевіч, а „пан Прокопій Балыка за данинай короля держит“ пры сяле Пабокавічах толькі адну пустую службу [2]).

Двары або дварцы-маёнткі, якія былі аддадзены магнатам у дажывотнае ўладаньне, мала чым адрозьніваліся ад маёнткаў памешчыкаў сярэдняга дастатку дарэволюцыйнага часу. Двор Бжоскі, пабудаваны на сродкі Пётры Трызны, ваяводы Пярноўскага, складаўся з 2-х вялікіх дамоў, 2-х дамоў па 2 пакоі, 1 дома з 2-ма пакоямі і кухняй і 1-го дома з пакоем, каля якога былі склеп і пякарня, стайня з жолабамі і засекамі, вазоўня і 2 сьвірны. Двор быў абгароджан. Да яго прылягаў фальварак тэй-жа назвы. У ім былі такія будынкі: дом рыкуньні, пякарня, сырніца, 2 куратнікі і 6 хлявоў, абгароджаныя жэрдкамі, гумно з 2-ма такамі для малацьбы, варыўня і сушыльня. За невялікай сажалкай стаяла віньніца з 10 горнамі, у якіх гналі сьпірытус, пякарня і памяшканьне для віньніка. Каля віньніцы знаходзіўся хлеў для кормных сьвіней. Пры дварэ пахаці было 10 валок, сенажаці 75 маргоў. На дворнай зямлі жылі 13 гароднікаў, аб якіх было сказана пры ўказаньні складу насельніцтва воласьці. У паблізу Бжоскага двара знаходзілася сяло Бяроза, насельніцтва якога апрацоўвала зямлю і выконвала гаспадарчыя працы на гэтым дварэ разам з гароднікамі.

У Віленскай палове воласьці аселых валок было $37^1/_2$%, а пустых—$62^1/_2$; у Трокскай палове—аселых валок і пустых было па 50%. Гаспадаркі сялян па сваім дабрабыце былі розныя: у Віленскай палове на аселую валоку ў сярэднім прыпадала па 5 валоў і 2 кані, а ў Трокскай па $3^1/_2$ валы і па 2 кані [3]). Разам з тым кожная палова воласьці мела гаспадаркі з 10 валамі і 4 коньмі на 1 валоцы зямлі і сустракаліся

[1]) А. В. К. стар. 307 і 329. [2]) Ibid. стар. 166. [3]) Пры вылічэньні прымаліся пад увагу гаспадаркі тых сёл, паводле якіх былі даныя лічбы аселых валок і рабочай жывёлы.

гаспадаркі без рабочай скаціны, але іх было ня больш 10%. У сёлах Аўсімовічы, Варатынь і Вітлін не паказана колькасьць рабочай скаціны. Такім чынам, ужо ў той час наслаеньне сялян было значным і побач з заможнымі сялянамі пападаліся бедн*я*кі.

Прымаючы пад увагу, што толькі з пераходам на валокі насельніцтва прымушана было перайсьці да трохпольля, нельга думаць, што яно мела лішкі хлеба. Можна лічыць, што вялікая плошча заліўных сенажацяй давала насельніцтву магчымасьць займацца жывёлагадоўляй і промысламі, ад чаго і атрымоўвала сродкі на куплю рамесьніцкіх вырабаў і рэчай гарадзкога гандлю.

Як відаць, рамесьніцтва ў горадзе было вельмі пашырана: мяркуючы паводле прозьвішч, як паказана вышэй, можна выявіць, што ў горадзе было 18 рамесьнікаў і таму стараста ня трымаў рамесьнікаў пры замку, а наймаў іх у горадзе.

З промыслаў самымі пашыранымі былі: рыбалоўства, лоўля баброў, „гоны“ якіх былі ў кожным сяле, і бортніцтва. Менш пашырана было паляваньне на зьвяроў, бо яны пераходзілі з іншых мясцовасьцяй. Але і прахадзячых вялікіх зьвяроў сяляне не маглі забіваць бяз ведама ўлады, а лось і дзікая каза аддаваліся старасьце. Меншых зьвяроў можна было прадаваць насельніцтву, а баброў раней усяго трэба было прапанаваць старасьце. Пры гэтым воўк і лісіца расцэньваліся казной па 40 грошай, а куніца 24 грошы.

Гандаль у горадзе ня меў значнага разьвіцьця, ня гледзячы на тое, што тут была судаходная рака, і мы ведаем, што ў 75 крамах прадавалася пераважна гародніна. Але забарона ўставай скупкі і продажы тавараў у воласьці і дазвол гандляваць толькі ў горадзе, сьведчыць, што гандлёвы капітал пашырыўся і ў воласьці.

Прамысловасьць толькі пачыналася; так, мы ведаем, што было тры гуты, дзе выраблялася жалеза, у сёлах Кольчыцы, Бярозе і Парычах [1]).

Параўнаньне падаткаў паводле ўставы 1560 і 1639 г. г. можна зрабіць з наступнай табліцы: (Гл. стар. 18 і 19).

З усяе воласьці падлягала збору па ўставе 1639 г.: грашыма—72.600 грошай, жыта—11.904 пуд., аўса—12.096 пуд., мёду—922 п., гусей—510 шт., курэй—1.029 шт., яек—10.440 шт., лёну каля 30 пуд., сена 445 вазоў і дроў 4.210 вазоў. Апрача таго, горад плаціў яшчэ—30.960 грошай. Арэнда права на збор за гандаль у горадзе, арэнда карчмы і перавозу—2.400 грошай ішлі на ўрад.

Дзеля таго, што выпіска з уставы 1560 г. рабілася па просьбе мяшчан г. Бабруйску, то магчыма, што падаткі сялян у выпісцы зьмешчаны ня поўнасьцю, апрача таго, у выпісцы не гаворыцца аб велічыні меры, але трэба думаць, што гэта была валока [2]).

Раўнуючы падаткі паводле ўставы 1560 і 1639 г. г. мы бачым, што для мяшчан яны павялічыліся вельмі мала—за пахаць, сенажаць і засьценкавую зямлю, што сьведчыць аб іх экономічнай моцы і ўплыве на мясцовую ўладу. Для сялян, наадварот, падатак значна павялічыўся—зямля дзялілася па сваёй якасьці на 3 гатункі, а ня лічылася ўся „подлого грунту“, чынш з яе значна павялічыўся і ўведзена паншчына па 2 дні ў тыдзень. Аб натуральных падатках нельга казаць, бо ў уставе 1560 г. аб іх толькі сказана: з мер 233 „подлого грунту“,

[1]) Рудня, або гута, дзе выраблялася жалеза, звычайна знаходзілася пры вадзяным млыне, дзеля чаго прыходзіцца думаць, што распрацоўвалася жалезная руда.

[2]) А. В. К. стар. 330.

| №№ | ПАДАТКІ ПАВОДЛЕ ЎСТАВЫ 1560 Г. | Колькасьць | | |
|---|---|---|---|---|
| | | Шт. | Грошай | Пенязей |
| | **І. Мяшчане:** | | | |
| 1 | Пабудова вежаў у выпадку патрэбы . . | 2 | | |
| 2 | Штогодна ад „прута": сядзібнай зямлі пры рынку . . . | 1 | — | $7^{1}/_{2}$ |
| 3 | Штогодна зямлі пры вуліцы . . . . . | 1 | — | 5 |
| 4 | Штогодна ўгноенага гароду . . . . | 1 | — | $2^{1}/_{2}$ |
| 5 | Штогодна няўгноенага гароду . . . | 1 | — | 1 |
| 6 | Штогодна ад меры ворнай зямлі . . . | 1 | 42 | — |
| 7 | Штогодна ад моргу сенажаці . . . | 1 | 1 | — |
| 8 | Штогодна ад меры засьцянковай зямлі . . | 1 | 2 | 2 |
| 9 | Вартаўнік у замак пачарзе . . . . | 1 | — | — |
| 10 | Варта ў Рэчыцу, Лоеў, Мозыр, у выпадку патрэбы, ад дыму па | — | — | 6 |

| №№ | ПАДАТКІ ПАВОДЛЕ ЎСТАВЫ 1639 Г. | Колькасьць | | |
|---|---|---|---|---|
| | | Шт. | Грошай | Пенязей |
| | **І. Мяшчане:** | | | |
| 1 | Пабудова вежаў у выпадку патрэбы . . | 2 | | |
| 2 | Штогодна ад „прута": сядзібнай зямлі пры рынку . . . | 2 | — | $7^{1}/_{2}$ |
| 3 | Штогодна сядзібнай зямлі пры вуліцы . . | 1 | — | 5 |
| 4 | Штогодна ўгноенага гароду . . . . | 1 | — | $2^{1}/_{2}$ |
| 5 | Штогодна няўгноенага гароду . . . | 1 | — | 1 |
| 6 | Штогодна ад валокі ворнай зямлі . . . | 1 | 48 | — |
| 7 | Штогодна ад моргу сенажаці . . . | 1 | 3 | — |
| 8 | Штогодна ад моргу засьцянковай зямлі . . | 1 | 3 | — |
| 9 | Штогодна на наём вартаўніка ў замак . . | 3 п. жыта | 6 | — |
| 10 | Варта ў Рэчыцу, Лоеў, Мозыр, у выпадку патрэбы, ад дыму па . | — | — | 12 |
| 11 | Утрыманьне падвойтага | Невядома | | |
| 12 | Бірчаеці пішчаеʼ ад дыму | 1 | — | 2 |
| 13 | Бірчае ад валокі ворнай зямлі . . . . | 1 | 3 | — |
| 14 | Мельнікі ад умалоту . | $^{2}/_{3}$ | — | — |
| 15 | Разьнікі : лапатку альбо грудзінку ад забітай жывёлы і жыру гавяжага, у год . . | 48 ф. | — | — |
| 16 | Рыбакоў 10 ч. пры замкавых вазёрах: рыбу ў посныя дні і „тоні". | 9 | — | — |
| 17 | Гвалты . . . . | — | — | — |
| | **II. Чарнакунцы:** | | | |
| 1 | У блізкую дарогу з лістамі . . . . | — | — | — |

| №№ | ПАДАТКІ ПАВОДЛЕ ЎСТАВЫ 1560 г. | Колькасьць Шт. | Грошай | Пенязей |
|---|---|---|---|---|
| | **III. Сяляне:** | | | |
| 1 | Пабудова верху ў вежах у выпадку патрэбы . | 2 | — | — |
| 2 | Штогодна ад меры ворнай зямлі подлага грунту . . . | 1 | 1 | $8^2/_3$ |
| 3 | За жыта } „Шачуючы пры чыншу служъбы | — | 10 | — |
| 4 | За авёс } зуполъные" | — | 6 | — |

| №№ | ПАДАТКІ ПАВОДЛЕ ЎСТАВЫ 1639 Г. | Колькасьць Шт. | Грошай | Пенязей |
|---|---|---|---|---|
| | **III. Сяляне:** | | | |
| 1 | Штогодна ад валокі ворнай зямлі: | | | |
| | добрага грунту . | 1 | 120 | — |
| | сярэдняга грунту | 1 | 90 | — |
| | дрэннага „ . | 1 | 60 | — |
| 2 | Жыта ад 1 валокі—24 п. альбо . . . . | 1 бочка | — | — |
| 3 | Аўса ад 1 валокі—24 п. альбо . . . . | 1 бочка | — | — |
| 4 | Гусей ад 1 валокі па . | 1 | — | — |
| 5 | Курэй „ „ „ . | 2 | — | — |
| 6 | Яек „ „ „ . | 20 | — | — |
| 7 | Лёну „ „ „ . | 10 жменяў | | — |
| 8 | Сена „ „ „ . | 1 возу | — | — |
| 9 | Дроў „ „ „ . | 10 вазоў | | |
| 10 | Мёду па ліку борцяў | | | |
| 11 | Падвода не далей 60 міль у год . . . . | 1 | — | — |
| 12 | Праца ў тыдзень, дзён . | 2 | — | — |
| 13 | Талака . . . . | 12 | — | — |
| 14 | Замкавай працы, тыдняў | 4 | — | — |
| 15 | Гвалты . . . . | | | |
| 16 | Мельнікі ад умалоту . | $^2/_3$ | — | |
| 17 | Бірчае ці пішчае ад валокі . . . . | — | 3 | |
| | На старца, пасьля здачы падатку: | | | |
| 18 | Грашыма ад дыму па . | — | 2 | — |
| 19 | Аўса „ „ „ . | 1 рэшата | — | — |
| 20 | Курэй „ „ „ . | 1 | — | — |

Падаткі здаваліся ў Бабруйскім замку між 29/IX і 11/XI.





ад меры па 1 грошы і 8 пенязей і $^2/_3$, згодна ўставы „шачуючы пры чыншу з служъбы зупелъное“ за жыта 10 грошай, авёс 6 грошай, „когдыжъ с тыхъ застенковъ повинъности некоторыхъ нетъ“.

Калі ў сельскай гаспадарцы ўстава ўтварыла рэволюцыю, прымушаючы ўсіх сялян перайсьці да 3-х польля, то ў адносінах разьвіцьця гандлю былі ўведзены аднолькавыя меры вагі і сыпучых цел: так камень меў у сабе 6 бязьменаў, бязьмен 8 фун., а бочка зьмяшчала ў сабе 4 корцы па 6 пуд.

Гандлёвы капітал у той час быў ня толькі ў горадзе, але пашыраўся і ў воласьці: устава забараняе мяшчанам і іншым асобам, якія не належалі да купцоў, скупліваць у воласьці продукты пад пагрозай штрафу ў 300 грошай для прадаўца і пакупца і адабраньня рэчы, якая прадаецца. Улада сурова карае вінаватых у зьмяншэньні даходаў скарбу, кажучы, што ад гэтага, як быццам, парушаюцца інтарэсы саміх сялян, якія прадаюць таемна, без конкурэнцыі [1]).

Устава ня любіць сходаў насельніцтва і зьяўленьня прышлых неаселых людзей. З гэтае прычыны яна загадвае рабіць сходы насельніцтва з дазволу і ў прысутнасьці прадстаўнікоў мясцовай улады, галоўным чынам, для разьмеркаваньня збораў паміж насельніцтвам. Утава абавязвае насельніцтва паведамляць заказьнікаў і суседзяў аб усіх неаселых людзях, якія пасьля 3 дзён павінны выбірацца з данай мясцовасьці, бо паміж іх было шмат бягуноў, якія прыносілі шкоду і падбухторвалі сялян уцякаць з воласьці.

Грамадзяне былі вольнымі людзьмі, але не карысталіся пэўнымі грамадзянскімі правамі, хоць устава і супакойвала іх тым, што для большай вольнасьці „мещане его королевского величества“ бяз віны карацца ня могуць.

Калі здараліся справы аб пабоях, дык у выпадку замірэньня, абвінавачаны плаціў 5 грошай, а пацярпеўшы—20; калі прызнавалася віноўнасьць, то засуджаны плаціў 300 грошай. За запіс скаргі ў кнігу бралі грош, за выпіс з кніг пастанаўленьня—4 грошы. З асуджанага па грамадзянскім іску бралася ад 60 грошай—2 грошы на мясцовую ўладу, а пры апраўданьні абвінавачаны плаціў „памятного“ 4 грошы. За „децкование“ плацілі ад мілі 1 грош у вабодва бакі, турэмнага 1 грош. Калі нявеста, выходзячы замуж, ішла ў другую воласьць, то ад яе бралася шлюбнай куніцы—12 грошай, а ад удавы—30 грошай. З грошай, якія выплачваліся пры рашэньні судовых спраў, $^2/_3$ ішло ў скарб, а $^1/_3$—на мясцовую ўладу.

У выпадку прыбліжэньня ворага насельнікі гораду павінны былі пабудаваць 2 вежы ў замку, запасьці рагаткі на вуліцы, а пры прыходзе ворага ўсё насельніцтва павінна было абараняць воласьць, горад і замак.

Цікава адзначыць, што хоць насельніцтва воласьці і адбывала паншчыну, але кожны селянін меў права прадаць свае будынкі і ўсю гаспадарку, паведаміўшы перш урад, калі пакупец мог выплачваць падаткі, якія ляжалі на гэтай зямлі; аднак, сяляне маглі перасяляцца ў горад або іншыя мясцовасьці, якія знаходзіліся ў межах староства.

Ва ўсім іншым рэвізія і памера праводзіліся, як і ў іншых маёнтках караля. У спрэчных пытаньнях прымаліся пад увагу даныя рэвізіі 1560 і 1600 г. г., так што, калі па гэтых рэвізіях землі былі далучаны да Бабруйскага староства, а ўладаўшая імі асоба не магла

---

[1]) А.В.К. стар. 154.

прад'явіць „прывілей" караля на права ўладаньня імі, то землі прыпісваліся да Бабруйскага староства.

У тых сёлах, дзе глеба была вельмі дрэнная, зямля разьбівалася на маргі, а сяляне заставаліся ў дворышчах і не перасяляліся ў сёлы. Пры правядзеньні-ж памеры лепшай зямлі, яна адразу разьбівалася на валокі ў трох зьменах, чым прымусова ўвадзілася трохпольле. Пры разьмеркаваньні дрэннай зямлі даваліся „наддаткі" ў кожнай зьмене ад 1 да 8 маргоў. Усе будынкі пераносіліся на выгаднае мейсца пры першай або другой зьмене зямлі і толькі пры адсутнасьці аднаго выгаднага мейсца ставіліся пры двух зьменах зямлі, у двух мейсцах. Затым вымяраліся засьценкі, сенажаці, вызначаліся ўгодзьдзі, падаткі з усяго сяла і паказваліся яго межы.

З лістоў караля Жыгімонта III да старасты Пётры Трызны можна выявіць, што апошні ўціскаў насельніцтва або ўводзіў „новіны", бо насельніцтва часта скардзілася каралю на старасту [1]).

Гэтыя скаргі былі формальнай прычынай для правядзеньня памеры, бо ўлада імкнулася да повялічэньня даходу ад маёнткаў, што было экономічнай політыкай ураду, які дамагаўся ўстанавіць аднастайныя падаткі, высьветліць усе крыніцы даходу, каб не абцяжарваць вельмі сялян, прычым адзінкай аблажэньня была толькі вызначаная мера зямлі—валока [2]).

Такім чынам, з цікавых асаблівасьцяй памеры Бабруйскага староства, якія выклікаліся блізасьцю да ўсходняе граніцы, можна адзначыць такія: 1) асьцярожныя адносіны ўраду да правядзеньня памеры, якія адбіліся ў лістах караля да насельніцтва, абвяшчаўшых насельніцтву аб задачах памеры і ў назначэньні спэцыяльнага рэвізора, абавязкам якога было сваячаснае паведамленьне караля аб ходзе памеры і абарона інтарэсаў сялян пры памеры; 2) працяжнасьць яе, якая цягнулася да 28 год, што тлумачыцца перапынкамі яе ў час войнаў з Маскоўскай дзяржавай; 3) няпрыхільныя адносіны насельніцтва да памеры, з прычыны значнага павялічэньня падаткаў, прымусовага перасяленьня з дворышчаў у сёлы, бо гэта патрабавала грашовых страт на пераноску будынкаў, капаньне студняй і г. д.; 4) насельніцтву даваліся правы перасяленьня ў межах воласьці, каб насельніцтва думала, нібы яно вольнае і 5) зварот да натуральных падаткаў, дзякуючы сходным умовам для замежнага гандлю—павялічанаму попыту і блізасьці замежнага рынку.

З кароткіх даных, якія можна было знайсьці ў апісаньні інвэнтару староства, мы можам часткаю прасачыць тую ступень культурнага і экономічнага стану, на якой стаяла ўсходняя частка Беларусі.

Памера праводзілася ў першай палове XVII сталецьця, якая была для ўсходніх частак Беларусі пераходнай эпохай ад фэўдалізму да капіталізму, і нам яскрава малююцца ўсе адзнакі гэтага пераходнага часу: мы бачым нядаўных фэўдалаў, цяперашніх магнатаў, на службе ў караля, але яны і іх жанкі яшчэ ўладаюць, праўда толькі да сьмерці і за пэўную суму грошай, дзесяткамі сёл; мы бачым шляхту, якая, як і „господарь" грунтуе сваю гаспадарку на працы прыгонных сялян, якая выклікана сходнымі ўмовамі замежнага гандлю; мы сустракаем вольных рамесьнікаў у маёнтку караля, і зусім мала застаецца быўшай

[1]) А.В.К. ст. 114. [2]) Устава Бабр. староства 1639 г. падрабязна пададзена ў I ч. „Аграрная реформа Сигизмунда-Августа" В. И. Пичета на стар. 240—248 і ў прадмове XXV т. А.В.К.

чэлядзі нявольнай—гароднікаў і разам з тым рамесьнікаў, якія ў хуткім часе далучацца да прыгонных сялян. Адначасна з пераходам фэодала ў магнаты—шляхціц і мешчанін атрымоўваюць усё больш „прывілей“, а селянін усё больш уціскаецца і становіцца прыгонным пана, і самага вялікага з іх—„господара“.

Часова зьнясілены, але заўсёды імкнуўшыся да волі, селянін карыстаецца цяжкім часам, які перажывае краіна, і разам з нападам ворага, стараецца скінуць ярмо паноў і ўлады.

Але ўсе спробы сялян застаюцца дармовымі да таго часу, калі аб‘яднанымі сіламі лепшых людзей—барацьбітоў за волю прыгнечаных—гэтае ярмо будзе скінута назаўсёды, дзеля таго, каб і селянін мог карыстацца тым шчасьцем, якое дае свабода.

## Сьпіс населеных мейсц у Бабруйскім старостве ў 1-ай палове XVII ст.

1. Замак Бабруйскі 2. Горад Бабруйск.

ВІЛЕНСКАЯ ПАЛОВА:

3. с. Дзямідковічы, востраў Віньніцкі, востраў Дабрычэўскі, востраў Бажылаў, 4. с. Кольчыцы, 5. с. Панюшковічы, 6. с. Данброва, 7. с. Пабаковічы, 8. с. Кабылічы, 9. двор Бжоскі, 10. с. Бяроза, 11. с Макаровічы або Ворсічы, 12. с. Коўчыцы, 13. с. Козьмічы, 14. с. Казловічы Старыя, Казловчы Новыя, 15. с. Зелянковічы, 16. с. Пятровічы або Ляхавічы, 17. с. Гарбачэвічы, 18. с. Панкратовічы, 19. с. Тажыловічы, 20. с. Кабылічы, 21. двор Ольса, 22. с. Ольса, 23. с. Берда, 24. с. Валасовічы, 25. с. Палковічы, 26. с. Ілейчыцы.

ТРОЦКАЯ ПАЛОВА:

27. с. Цейковічы, 28. с. Мішковічы, 29. фальварак Ясналескі, 30. с. Качэрычы, 31. с. Хомічы, 32. с. Глыбаковічы або Дабосна, 33. с. Паўловічы, 34. с. Дваранінавічы, 35. с. Міхалева, 36. с. Плоса, 37. с. Кавалева, 38. с. Аўсімовічы, 39. с. Варатынь, 40. с. Вітлін, 41. с. Покалічы, 42. двор Парычы, 43. с. Парычы, 44. с. Кнышэвічы, 45. с. Сякерычы, 46. с. Чэрніна, 47. с. Лашэвічы, 48. с. Паганцы, 49. с. Здучыцы, 50. с. Чырковічы, 51. с. Шаціловічы, 52. с. Казулічы, 53. с. Падрэчча, 54. с. Марховічы, 55. с. Уласавічы, 56. с. Бялевічы, 57. с. Сяргеевічы, 58. с. Кострычы, 59. с. Слабодка, 60. с. Стоўпішча, 61. с. Жарабцы.

*Агульныя ўвагі:*

1) Падзел староства на Віленскую і Троцкую паловы, відаць, паходзіць ад такога паддзелу дзяржавы, што зьяўлялася адбіткам старажытнага часу: пры адначасовым кіраваньні Альгерда (1345—1377) і Кейстута (1345—1379), першы з іх кіраваў Віленскай паловай дзяржавы, а другі—Троцкай (М. Любаўскі).

2) Адзін грош, па яго купчай магчымасьці, трэба раўнаваць, прыблізна, да рубля даваеннага часу (1914 г.); пенязь — $^{1}/_{10}$ гроша.

3) Рыкуны служылі па маёнтах і мелі абавязак агульнага догляду за жывёлай гаспадаркай, якая непасрэдна злучалася з жывёлагадоўляй.

Заўважаныя памылкі: а) на стар. 10-ай у зносцы [1]) надрукована „том XXX“ замест „том XXV“, на стар. 11, рад. 1 зьверху надр. „тагочаснага шляху зносін“ замест „пры тагочасных сродках зносін“.

М. Зьбіткоўскі.

# Ліпа.

## Tilia cordata Mill.

Ліпа ёсьць усім вядомае і вельмі карыснае дрэва; яна жывуча і не вымагае для сябе асаблівых умоў. Належыць яна да сям'і ліпавых (Tiliaceae). Мяккая белая драўніна ліпы ўжываецца на выраб дробных хатніх рэчаў, рознага начыньня, модэляў, дошак для маляваньня і г. д. Ліпавыя карыты цэняцца гаспадынямі за іх лёгкасьць [1]). Кара маладых галінак ліпы ўжываецца на лыкі. Валакняны пласт, які знаходзіцца паміж карой і драўнінай і які бывае таўсты на ствале і старых галінках,—называецца лубам; луб ідзе на пляценьне рагожы. Абвугленая драўніна дае вугаль, які ўжываецца ў мэдыцыне і для маляваньня. Лісьцё ліпы можа ўжывацца на корм скаціны. Ліпа каштоўнейшае мёданоснае дрэва. Дзе ёсьць пчалярства, там трэба разводзіць і ліпу для пчол. „Ліпец“ па смаку і паху больш каштоўны, чым іншыя гатункі мёду. У хатнім ужытку „ліпавы цьвет“ п'юць замест гарбаты і як патагонны сродак. У кветках ліпы зьмяшчаюцца гарбоўныя матэрыі, сьлізь, воск, цукер і сьляды этарнага алею. Апошні дадае кветкам прыемны пах [2]), а прычынай патагоннага дзеяньня зьяўляецца сьлізь, якая запаўняе сітавінкі ліста. Распушчаецца ліпа з паловы траўня. Варта панаглядаць, як маладыя лісьцікі спачатку складзены напалам, як яны звычайна пакрыты белымі валаскамі і ў першы час зьвешваюцца ўніз— усё дзеля таго, каб захаваць сябе ад высыханьня. Цьвіце ліпа з паловы чэрвеня. Кветкі яе сабраны ў суквецьці, якія складаюцца з 5—7 кветачак (паўпарасонік). Галінка, якая нясе на сабе кветачку, зрастаецца з сярэдняй жылкай белаватага прыкветніка, які і застаецца пры плодзе ў якасьці парашута; з дапамогаю апошняга плады змогуць далей адляцець ад матчынага дрэва. Кветкі ліпы маюць бледна-жаўтаваты колер і прыемны пах, які зьнікае пры высушваньні кветак. Пчол вабіць да кветак мёд, які выдзяляецца падвяночкавымі лісьцікамі. Ласуючыся мёдам, пчолы пераносяць і пылок. Самазапылкаваньне кветак ліпы немагчыма таму, што тычачкі пасьпяваюць і рашчыняюць пыльнікі раней, чым у той жа кветкі пасьпее і рашчыніцца лычок слупка. Гэта сустракаецца часта і ў іншых расьлін [3]) і носіць назву „протэроандрыя“.

На першы погляд у кветцы ліпы можна згледзець многа тычачак, а калі разглядзець зблізку, дык заўважваецца, што супроць кожнага пялёстка сядзіць пучок рашчэпленых тычачак. Такіх пучкоў усяго пяць.

Ліпавы цьвет; сабраны разам з прыкветнікам і высушаны, зьяўляецца прадметам гандлю, для патрэб аптэк, а ў большай колькасьці

[1]) Удзельная вага драўніны ліпы ад 0,46 да 0,52.

[2]) Пах кветак мае тую асаблівасьць, што лепш ён адчуваецца на некаторай адлегласьці, чым зблізку.

[3]) Напрыклад, у кукаля (Agrostemma githago), скрыпеня вузкалістага (Epilobium angustifolium L), генцыяны (Gentiana pneumoanthe L), у васілька (Centaurea Cyanus) і інш.

ўжываецца ў вытворчасьці каньяку і лікёру, куды і патрабуецца штогодна некалькі тысяч пудоў сушанага ліпавага цьвету.

Пры зборы для гэтай мэты патрэбна асаблівая чыстата—г. зн. каб, ня было адцвіўшых кветак, каб ня было галінак з пладамі, а таксама патрабуецца старанная сушка.

Сушка адбываецца проста на сонцы. Кветкі рассыпаюцца на падсьцілцы тонкім пластом. З 100 частак сьвежых кветак атрымоўваецца 30 частак сухіх. Сухія кветкі ліпы павінны быць сьветла-жоўтага колеру з слабым пахам і сьлізавата-саланаватымі на смак. Пабурэўшыя кветкі, плады, пакрышаныя часткі кветак павінны выдаляцца. Унутраны рынак паглынаў больш 1.000 пудоў, а для вывазу за граніцу патрабавалася звыш 1.000 пудоў. У 1923 годзе загатоўчая цана 1 пуду ліпавага цьвету была ў 6 рублёў.

Для культуры ліпы абавязкова трэба сабраць насеньне [1]) у восень і стратыфікаваць [2]) іх. Апошняе робіцца так: у гаршчок або скрынку насыпаюць вільготнага пяску, а на яго пласт насеньня ў поў цалі таўшчынёю. Засыпаўшы насеньне пластом пяску, насыпаюць ізноў пласт насеньня і г. д. Пяску павінна быць выстарчаючая калькасьць, а насеньне не павінна ляжаць тоўстым пластом і ня болей як 5—6 пластоў у пасудзіне. Стратыфікаванае такім чынам насеньне закопваюць у зямлю або трымаюць у склепе. Насеньне ліпы прарастае ня скора, яно павінна праляжаць у зямлі 2—3 гады, а тады набывае ўсходнасьці; Мэта стратыфікацыі—пратрымаць насеньне ва ўмовах, якія прысьпяшаюць усходнасьць насеньня. Апрача звычайнай ліпы з сэрцаватымі невялікімі лісьцямі, цікава вялікалістая ліпа [3]) (T. grandifolia scop) тысячагадовае дрэва, серабрыстая ліпа (T. tomeutasa Mauch) і іншыя віды ліпы, якія служаць аздобаю паркаў.

---

[1]) Праўдзівей сказаць: плады ліпы—арэшкі; з іх выціскаюць алей (ад 2,5 проц.—8 проц.) і пажыўную макуху.

[2]) Таксама стратыфікуюць і костачкі вішань, сьліў зараз-жа пасьля збору, а насеньне яблыні і грушы стратыфікуюць з канца лютага.

[3]) Адно маладое дрэва гэтага віду я бачыў у парку Оленовіцкага РВК.




Зьм. І. Даўгяла.

# Цыганы на Беларусі.

(Гістарычны нарыс).

## I.

## Аб крыніцах.

Па гісторыі цыганоў на Беларусі дагэтуль мы ня маем дакладнай працы. Але ў працах, беларускіх дасьледчыкаў, як напрыклад: П. Шпілеўскі [1]) Е. Р. Раманаў [2]), М. В. Доўнар-Запольскі [3]), К. Т. Анікіевіч [4]), ёсьць паасобныя старонкі прысьвечаныя цыганом. Артыкул агульнага характару аб цыганох ёсьць у расійскім энцыклёпэдычным слоўніку Брокгаўза і Эфрона (т. 75, стар. 304—308).

Гістарычных справак больш за ўсіх дае артыкул Шпілеўскага. Трэба заўважыць, што ён скарыстаў амаль што ўсю літаратуру, якая ў той час была аб беларускіх цыганох. Крыніцы яго былі наступныя: а) расійскі часопіс „Северный Архив“ за 1826 г. [5]) і б) віленскія польскія выданьні, як: Даніловіча Ігн.—Аб цыганох [6]), Нарбута Т.—Гістарычны нарыс цыганоў [7]) і Чацкага Т.—Аб цыганох і ў артыкуле аб Літоўскім Статуце [8]). Апошнія выданьні лічацца цяпер досыць рэдкімі.

Да гэтага можна дадаць добрую працу аб цыганох на польскай мове ў „Вялікай агульнай ілюстраванай энцыклёпэдыі“ т. XIII, Варшава, 18)4, стар. 527—532, а, галоўным чынам, акты і дакуманты аб цыганох, якія трапляюцца ў Віленскіх і Віцебскіх актавых выданьнях.

Вельмі абмяжована колькасьць матар'ялаў па гісторыі цыганоў на Беларусі. Яго мала для дасканалага высьвятленьня проблемы і можна толькі намаляваць адносіны да цыганоў з боку тых урадаў, якія ў розныя часы існавалі на Беларусі.

---

1) Путешествие по Полесью и Белорусскому краю, „Современник“, 1853 г., август, стар. 58—65.

2) Матеріалы по исторической топографіи Витебской губ. Витебск 1898 года, стар. 58—60.

3) Полное описаніе Россіи под ред. В. П. Семенова, т. IX. Белоруссія и Верхнее Приднепровье. Спб 1905 г. стар. 225—227.

4) Сенненскій уезд, Мог. губ. Могилев 1907 г., стар. 102—104.

5) „Сев. Архив“ за 1826 г. ч. XIX—XX.

6) Danilowicz Ign.—O cyganach, Wilno 1824.

7) Narbut Th.—Rys historyczny ludu cygańskiego, Wilno 1830.

8) Czackj Tad.—O cyganach (Pomniki hist. lit. polskiej Wiszniewskiego t. II, str 59—86).

II.

## Статыстычныя рыскі.

Ува ўсей этнографічнай Беларусі цыганоў лічылася паводле перапісу 1897 г. менш, як тры з чвэрцю тысячы чалавек. Робім выпіску з гэтага перапісу ў наступнай таблічцы:

| ПА ГУБЭРНЯХ. | У гарадох | | У паветах | | Разам | | Агулам | Агульны лік нас. у мільёнах |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | | |
| Віленскай | 14 | 14 | 77 | 77 | 91 | 91 | 182 | 1,60 |
| Віцебскай | 34 | 19 | 474 | 527 | 508 | 546 | 1054 | 1,49 |
| Горадзенскай | 43 | 9 | 88 | 66 | 131 | 75 | 206 | 1,60 |
| Менскай | 47 | 48 | 202 | 201 | 249 | 249 | 498 | 2,15 |
| Магілеўскай | 3 | 5 | 319 | 310 | 322 | 315 | 637 | 1,69 |
| Смаленскай | 2 | 1 | 336 | 322 | 338 | 323 | 661 | 1,52 |
| Разам | 143 | 96 | 1496 | 1503 | 1639 | 1599 | 3238 | 10,05 |

Адгэтуль відаць, што ў 1897 годзе найбольшы лік цыганоў быў у Віцебшчыне; за ёй ідзе Смаленшчына, затым Магілеўшчына, на чацьвертым месцы стаіць Меншчына, на пятым—Горадзеншчына, і на апошнім Віленшчына, і што гэта колькасьць цыганскага насельніцтва налічваецца ледзь сотнямі на кожную частку Беларусі.

У 1897 годзе цыганы складалі толькі каля 0,04 проц. усяго насельніцтва Беларусі.

Лічбы гэтыя выглядаюць штучнымі; напрыклад, быццам у Віленшчыне ў 1897 г. цыганоў мужчын і жанчын ня толькі ў гарадох было асоба ў асобу (14+14), а так сама і на паветах (77+77). Амаль тое самае назіраецца і па Меншчыне (47+48; 202+201).

У 1898 годзе Раманаў спыняецца на статыстыцы цыганоў па Віцебшчыне. І вось што знаходзім у яго.

Паводле офіцыйных вестак Віцебскага Статыстычнага Камітэту за 1870 г. агулам цыганоў налічвалася 177 мужчын і жанчын. Але Раманаў у адным Себескім павеце лічыў іх 59 асоб і па губэрні дае лічбу 971 асобу, прымаючы пад увагу, што ў Вяліскім, Гарадзецкім і Лепельскім паветах ужо ў 1870 г. было чатыры вёскі з цыганскім насельніцтвам па 80 чалавек. Раманаў знаходзіць, што лічба, дадзеная Віцеб. Стат. Камітэтам, вельмі зьменшана, што бліжэй да праўды лічба Кеппэна—607 чалавек.

Параўнаньне цыфры цыганоў паводле Раманава (971 ч.), з аднаго боку, і па перапісу 1897 году(1054 ч.), з другога, дае недахоп (1054—971=) на 183 асобы. Усё гэта сьведчыць аб заблытанасьці статыстыкі цыганоў.

У 1907 годзе дае статыстыку цыганоў па Сеньненскім павеце Анікіевіч—86 асоб. Большая з іх частка, паводле яго дасьледваньня, прыпісана да Расьнянскай воласьці, дзе ён называе дзьве вёскі з цыганскім насельніцтвам: Лапатнікі (16 м. і 12 ж.) і Мяшчанцы (11 м. і 10 ж.). Калі параўнаць з лічбай перапісу 1897 году дзе паказана цыганоў у Сеньненскім павеце 66 асоб (36 м. і 30 ж.), то, здаецца, тут маем, як

выключэньне нешта блізкае да праўды: за дзесяць гадоў відаць нейкі ўзрост насельніцтва цыганскага (86—66=20 асоб). Але процант прыросту (31% надзвычайна высокі, дзеля таго зноў лічбу перапісу 1897 г. нельга адважыцца лічыць правільнай.

У сучасны момант нельга даць статыстыкі цыганоў, бо ў ЦСУ БССР ніякай статыстыкі цыганоў няма, апроч перапісу 1897 году. Толькі дэмографічны перапіс 1926 году павінен даць цьвёрдыя лічбы цыганскае народнасьці на Беларусі.

Агульны лік цыганоў на ўсей зямной кулі—адзін мільён, прычым цыганы ёсьць ува ўсіх часьцінах сьвету. З гэтае лічбы ў Эўропе—каля 600 тыс., ў Эўрапейскай Расіі—каля 45 тыс. Такім чынам, у Беларусі каля 0,3 проц. агульнай колькасьці цыганоў у сьвеце і 8 проц. цыганоў, якія ёсьць у Эўрапейскай Расіі.



Цыганскі табар каля Менску ў восень 1926 г.
(Фот. „Наш. Краю").

III.

## Радзіма цыганоў і зьяўленьне на Беларусі.

Цыганы вандруюць па ўсей кулі зямной. Няма дзяржавы, дзе-б іх ня было. Але радзімы сваей яны ня ведаюць, як не адкажуць нам на пытаньне:—чаму яны маюць гэту назву—„цыганы"?.. Так завуцца яны ў Беларусаў, Маскоўцаў, Украінцаў і ўва ўсіх славянскіх землях, у Туркаў, Румынаў, у Немцаў. Аднак, яны маюць і іншую назву, падобную да назвы „Эгіпцяне". У Ангельцаў яны—„гіпсы", у Гішпанцаў—гітаны, у Грэкаў—гюфты. Вэнгры завуць іх „фараонамі".

Апошняя назва ня высьветлена навуковымі досьледамі. Назвы-ж цыганы, гюфты, гіпсы, гітаны ўжо дакладна вытлумачаны. Першая пайшла ад назвы „ацінгані", або „атсінканы" і дадзена ім Грэкамі, калі вандроўны невядомы народ зьявіўся ў іх старонку з пярэдняй Азіі, дзе ў Фрыгіі і Лікаоніі жылі ў пачатку сярэдніх вякоў сэктанты, якіх Грэкі называлі „ацінгані", „атсінкані". Што датычыцца назвы гюфты і іншых

падобных, то яна пайшла не ад Эгіпту, але ад грэцкай гары „Гюф“ (у паўднёвым Пэлёпонэсе).

Нацыянальнае пахаджэньне цыганоў было правільна выяўлена толькі ў 1783 годзе. Нямецкі вучоны мовазнаўца Грэльман вывучыў цыганскую мову і знайшоў, што яна мае сьціслую сувязь з старой індыйскай мовай, якая кавалкамі захавалася і ў іншых т. з. Інда-Эўропейскіх народаў (у тым ліку ў славян, грэкаў, германцаў і г. д.), дзеля чаго цыганоў трэба лічыць народам крэўным Эўропейцам, а радзімай іх—Індыю.

Адсюль яны выйшлі, як высьветлена зноў на падставе вывучэньня мовы, не раней X сталецьця нашае эры. Гэта была самая нізкая кляса—судры, аб чым добра сьведчыць іх аднажонства, адсутнасьць уласнае рэлігіі, абрадаў і духоўнікаў, пісьмовае мовы і пераконаньне ў сваім нізкім пахаджэньні.

З XI веку судры зрабіліся вандроўнікамі. Толькі к пачатку XIV сталецьця гэтыя індыйскія ўцекачы дайшлі да Міжземнага мора. У пачатку XIV ст. яны сустракаюцца на адным з вострываў гэтага мора—на Крыце, каля 1370 г.—у Італіі, у 1416 г.—у Чэхіі, у 1417 г.—у Вэнгрыі. У 1501 г. прывандравалі ў Польшчу і к 1512 г. дайшлі да апошняе часткі Эўропы—да Швэцыі.

Калі-ж цыганы прыйшлі ў Беларусь?

Першы дакумант, у якім успамінаюцца цыганы на Беларусі, ад 25 мая 1501 г. Гэта прывілей вялікага князя літоўска-беларускага Аляксандра Казімеравіча, пісаны ў Вільні. Прывілей захоўваўся ў Нясьвіскім архіве Радзівілаў. Надрукованы ў Вільні Даніловічам у вышэйпамянёнай працы аб цыганох, на польскай мове.

Вось гэты цікавы прывілей:

„Біў нам (вял. князю) чалом старшы войт Васіль і яго цыганы і прасілі нас, гаспадара, каб мы іх просьбу і чалабіцьце задавальнілі і каб таго войта зацьвердзілі. Дзеля чаго гэтым лістом нашым вызначанага Васіля, войта цыганскага, зацьвердзіўшы і ўстанавіўшы, надаем яму моц і правы судзіць цыганоў і разьбіраць усялякія спрэчкі паміж імі. Войт Васіль і яго цыганы ўва ўсіх землях нашых Вялікага Княства Літоўскага і ў яго валасьцёх павінны мець поўную свабоду паводле даўных правоў, звычаяў і даўных княскіх лістоў“.

Мы ня маем нічога супроць аўтэнтычнасьці гэтага прывілею. Таму лічым, што ён заслугоўвае на ўсебаковы аналіз з гістарычнага боку.

1. У цыган, якія былі ў Вял. Кн. Літоўскім у 1501 г., быў яшчэ адзін войт. Вял.-княская грамата лічыць адпавядаючым справе пісаць „войт Васіль і яго цыганы“—двойчы на працягу якіх дзесяці радкоў, чым выразна падкрэсьлівае нейкую асобную ўладу названага Васіля над цыганамі, якія былі ў гэты час у Літоўска-Беларускім Вялікім Княстве. І недарма ён атрымлівае зацьверджаньне ў сваім урадзе ад вышэйшай улады ў дзяржаве. Гэта сьведчыць аб існаваўшай паміж цыганоў у гэту пару арганізацыі.

2. Цыганы ў 1501 г. зьяўляюцца для літ.-белар. улады досыць вядомымі з боку іх арганізацыі. Значыць, яна добра ведала—хто і адкуль гэтыя вандроўныя людзі? Мала гэтага, яна ведала аб нейкіх даўных правох, абычаях і даўных княскіх лістох цыганом на свабоду ва ўсіх землях і валасьцёх вандраваць, жыць і карыстацца забясьпекай дзяржаўнага законапарадку.

3. Відаць, што гэткія адносіны не маглі ўтварыцца раптам у 1501 годзе. Нявольна думка схіляецца к таму, што спатканьне з княскім Кадваром, з літоўска-беларускім урадам было не ў часы Аляксяндра Казімеравіча (1492--1501), а значна раней і што цыганы мелі ад літоўска-беларускага князя і ўраду дзеля свайго жыцьця на Беларусі такія граматы, якія ў 1501 г. лічыліся „даўнымі лістамі“, „даўнымі правамі“ і „звычаямі“.

На жаль, у гэтым прывілею не паказаны даты гэтых даўных лістоў.

На падставе ўсяго сказанага, трэба прысьці да пераконаньня, што цыганы зьявіліся на беларуска-літоўскай тэрыторыі шмат гадоў раней, чым часы вялікага князя Аляксандра. Магчыма, пры яго бацьку Казіміру (1444—1492), а можа і ў часы Вітаўта (1392—1430).

Е. Р. Раманаў догматычна выказвае думку, што цыганы на Беларусі паявіліся ў *палове XV* сталецьця. Гэта вельмі блізка да праўды, але патрабуе пэўнае крыніцы, якая павінна даць фактычную падставу для гэтае даты.

IV.

## XVI сталецьце.

Актавыя матар'ялы даюць весткі аб занятках і жыцьці цыганоў на Беларусі ў XVI ст. Так, у Горадзеншчыне ў 1530-х гадох цыганы гандлявалі коньмі, а разам з тым ня цураліся і злоўжываньняў у гэтай цыганскай профэсіі. У кнігах гродзкіх судоў сустракаюцца процэсы паміж цыганамі. Адзін жаліцца ў суд на другога—„узяў, дей, у мяне каня-храпуна, і дзержыць яго і зьвярнуць ня жадае“ (Акты Віл. Кам. т. 17, стар. 40,50).

Цыганы ў некаторых маёнтках так блізка стаялі да шляхты, што апошняя брала цыганоў да сябе на службу па конягадоўлі. Каморнік гаспадарскі Мацей Быстрыцкі ў сваім маёнтку Чарлены, на Горадзеншчыне, меў цыгана Бубеніцу за машталера, г. зн. наезьдніка, які аб'яжджаў маладых коней (Акты Віл. Кам. т. 17, стар. 409).

Відаць, цыганы ня толькі вандравалі. Нейкая колькасьць іх садзілася на мясцох.

З паловы XVI сталецьця назіраецца пералом у вадносінах улады да цыганоў. У этнографічнай Польшчы ўжо ў 1557 годзе была выдадзена констытуцыя з пагрозай, што цыганы, як „людзі непатрэбныя“, будуць выгнаны з зямлі, і затым, праз сем год, было рашуча абвешчана: „як праз цыганоў у Кароне чыніцца шмат злога, то пастанаўляецца, каб іх ужо ад гэтага часу ў Кароне і ва ўсіх нашых панствах ня было“ (1562 г.). Пад уплывам гэтых констытуцый мяняюцца адносіны да цыганоў і на Беларусі.

Тут у 1565 годзе абвешчана ўрадам такая пагроза: „Калі які стараста выганіць цыганоў, каб іх ніхто ня прымаў“.

Затым у наступным 1566 г. праведзены быў закон, якім забаронена забіраць цыганоў у войска. Цыганы жабруючыя—звальняліся ад падаткаў. Зладзеяў і шпіонаў прапанована выганяць. Усе іншыя цыганы, якія заставаліся ў дзяржаве і ня імкнуліся выходзіць з яе межаў, павінны былі асталявацца пад панамі, князямі, шляхтай або гаспадаром.

Застаецца пытаньнем, чаму гэтае констытуцыі няма ў вядомай рэдакцыі другога Літоўскага Статуту (1566 г.), між тым як Чацкі проста адносіць гэтую пастанову да 2-га Статуту.

Адсюль мы бачым, што супроць цыганоў у гэтых законах ня было з боку літоўска-беларускай улады якога абураньня, але высунута для іх новая форма быту: касуецца вандроўнае цыганства і выказваецца плян засяленьня цыганоў па панскіх землях. Відаць, цыганоў хацелі зрабіць земляробамі.

Але, здаецца, гэты плян ня зьдзейсьніўся. У 1577 г. было абвешчана: „цыганы маюць быць выгнаны з зямлі і ніколі ня прыпушчаны да яе“.

Цыганы папалі ў шэраг бяспраўных: яны ня мелі права карыстацца з зямлі. Плян далучэньня цыганоў да земляробскай клясы праваліўся.

І усё-ж цыганы заставаліся на вёсках. Там іх „перахоўвалі“ паны. У 1578 годзе была выдадзена такая констытуцыя: „Па статуту цыганы выгнаны. Аднак іх перахоўваюць. Хто будзе іх прымаць і перахоўваць, такога кожны, які-б жадаў пачаць гэту справу, аддае ў гродзкі суд“.

Такім шляхам утварылася для цыганоў цяжкое становішча. Кожны мог у любы момант дабіцца выгнаньня цыганоў, прыцягваючы да адказнасьці паноў, на землях якіх сядзелі цыганы.

Усе гэтыя констытуцыі яскрава адбіліся на артыкуле 35 Літоўскага статуту 1588 г. (разьдзел XIV) „аб цыганох“, які мае наступны тэкст:

„Иж цыгани суть люди непотребные и порожнуючые, которые не толко жадное послуги, пожытку нам и никому в речи посполитой не чынят, але и овшем шкода через них в ошукиванью простых людей и в крадежи, а снать и в збываню потаемном немалая ся дееть, а часом, выходечы до иншых земель, звлаща неприятельских, шпекгами и вожами до злого могли бы ся ставати. А прето уставуем, абы их конечно от того часу нигде в панстве нашом Вел. Кн. Литовском и в землях, до него належачых, далей не было ховано. Чого старостове пограничные и иные державцы нашы мають с пильностью постерегати, абы до земли нашое не входили, а кгды их который из них з староства и враду своего выпудить, абы жаден зыншых станов подданых нашых через то их не прыймовал и на именьях своих не перехововал, под виною до скарбу нашого дванадцатми копами грошей“ (Врем. О-ва ист. и древ. 1854 г. № 19).

Такі срогі закон, паводле якога цыганы прызнаваліся шкодным элемэнтам і выганяліся за межы Вялікага княства Літоўскага, па сутнасьці зрабіў іх жыцьцё бяспраўным. Аднак, конкрэтна яны тут заставаліся, як і дагэтуль. Ад 1589 і 1590 г. захаваліся констытуцыі па Вялікаму Княству Літоўскаму, з вызначэньнем з цыганоў пагалоўшчыны ў суме 15 грошай літоўскіх з кожнага,

У часы 3-га Статуту Літоўскага ўся Беларусь, як вядома, зноў увайшла ў склад Вялікага Княства Літоўскага, ад якога была адарвана маскоўцамі (1566—1587 г.) у пару другога Статуту.

Гэты факт, відаць, гостра адбіўся на цыганох. Мы бачылі, што з 1567 г. пачалося прыгнечаньне цыганоў у Польшчы. І вось яны пачалі ўцякаць у Літву і Беларусь. Як заўважыў Раманаў, яны накіраваліся на поўдзень і, затым, з Магілеўшчыны прайшлі ў Віцебшчыну. „Паводле паданьняў цыганоў,—дадае Раманаў,—паны сустрэлі іх тутака спачатку лагодна, давалі зямлю, дапамагалі абсталявацца. Магчыма, што ад гэтага часу існуюць на Беларусі і цыганскія вёскі“.

Гэта думка Раманава зьяўляецца гіпотэзай, якая мае характар пэўнасьці, але патрабуе дакумантальных матар‘ялаў.

V.

## XVII сталецьце.

У XVI сталецьці цыганы на Беларусі трапілі пад абарону паноў. Пад гэтым кіраўніцтвам яны жылі ў працягу наступнага XVII сталецьця. Гэтая апека была настолькі моцнай, як моцна была сама шляхта ў той час. Дзякуючы ей артыкул 35 разд. 14 трэцяга Літоўскага Статуту ня меў фактычнага зьдзяйсьненьня.

Але цыганы не абсталяваліся на зямлі. У большасьці яны засналіся па гарадох і мястэчках, дзе можна было ўцячы ад панскай ласкі пад ахову майдэборскага права і „Зерцала Саксонскага“.

Трэба, аднак, адзначыць, што з часоў XVII ст. мы маем аб цыганох вельмі мала фактычнага гістарычнага матар‘ялу. Ён яшчэ ў архівах.



Цыганскі табар каля Менску ў восень 1926 г.
(Фот. „Наш. Краю“).

Актавы матар‘ял усё-ж досьць характэрны для справы высьвятленьня гісторыі цыганоў у гэты час на Беларусі.

Сойм 1607 году абавязаў старостаў „выганяць цыганоў і гультаёў“.

Гэта, магчыма, толькі падтрыманьне або паўтарэньне артыкулу 35 разд. 14 Літоўскага Статуту 1588 г. Быў нейкі надзвычайны наплыў цыганоў на Беларусь у гэты час, што можна тлумачыць вандраваньнем іх з Вэнгрыі.

Далей, ад 1624 г. ёсьць новая характэрная констытуцыя:

„Валохаў і сэрбаў, неаселых на зямлі, ніхто ня мае права,—пад карай штрафам, які накладаецца на цыганоў,—пераховаць“.

Відаць, што хваля вандроўнікаў у гэты час больш павялічылася. Яшчэ ня стрымана была цыганская, як узьнялася новая—зьявіліся валохі-румыны і сэрбы. Урад высунуў у гэты час у якасьці сродку для барацьбы—грашовы штраф.

Цыганы на Беларусі адчувалі сябе ня вельмі кепска. Яны былі ўжо прасякнуты тымі поглядамі, якія характарызуюць гэты палітычны момант.

Цыган Пятрок Лукашэвіч скардзіўся ў Мсьціслаўскім гродзкім

судзе на цыгана Марку Раслонкавіча у тым, што апошні набраў казакаў і маскоўцаў і зрабіў гвалтоўны наезд 21 верасьня 1663 году на яго гасподу ў сяле Сьленеве, якая належала да пана Пракопа Камінскага. Пры гэтым была ўзята пара коняй, якія каштавалі 500 залатых. Затым 25 верасьня быў зроблены другі наезд і было паграблена: срэбны кубак, які каштаваў 30 залатых, „рондзік на тасьме ядвабнай срэбрный“, які каштаваў 70 залатых, грошай гатовых капейкамі 1 руб. 10 кап. „Пры тым айца майго на імя Лукаша Маркавіча ўзяў з сабой у палон з малжонкай яго і з двума дзецьмі, сёстрамі маімі і ня ведаць, гдзе дзеў, а я сам ледва ўшоў толькі з адной маей сястрой“ (Акты Віл. Кам. т. 34, № 279).

Гэты выпадак, паводле нашае думкі, сьведчыць аб тым палітычным узроўні, у якім у гэты час была цыганская маса на Беларусі. Адзін цыган зрабіў два наезды на двор другога цыгана, і забраў ня толькі маемасьць, але і самога гаспадара з жонкай і сям‘ёй у палон. Так у той час звычайна цешылася шляхта. Цыганы ад іх, як відаць, не адставалі.

## VI.

## XVIII сталецьце.

Нормы жыцьця беларускіх цыганоў, якія існавалі ў XVIII сталецьці, перайшлі ад польскай рэчыпосполітай у расійскі пэрыод.

Восемнаццаты век для цыганоў на Беларусі быў найбольш спакойным часам. Па мястэчках і гарадох яны выбіралі сваіх старшынь. Галоўным абавязкам старшыні быў суд і расправа над тымі цыганамі, якія чым небудзь правінаваціліся ў канакрадзтве, або наогул у крадзежы.

Старшынь вызначаў кароль, ад якога вызначаны атрымліваў надежны ліст. Вызначалі іх на Беларусі і магнаты.

Ад 3 сакавіка 1731 году захаваўся прывілей Аўгуста II, якім улада цыганскага старшыні пасьля сьмерці Ўржуліцкага была дадзена Якубу Тржцінскаму, а пасьля сьмерці апошняга Францішку Багуслаўскаму.

У 1767 годзе такім старшынёй над цыганамі ў Магілеўшчыне быў Гедройц, маёнтак якога быў у Чаўскім павеце—Каменка. Жыўшыя на землях гэтага пана цыганы, па яго загадах, утваралі разбойныя наезды і грабествы. Так, напрыклад, „па загаду Гедройца“ гэтыя цыганы з Каменкі наехалі на Ахорскі праваслаўны манастыр. Ігумен Арэст, які запісаў гэты факт у сваім летапісе, падае наступныя дэталі: „Падыходзячы к манастыру цыганы сустрэлі селяніна вёскі Усьця і, баючыся, каб гэты селянін не павядоміў аб іх прыходзе, прывязалі яго ў лесе да дрэва, дзе ён, праз тры дні і памёр. Самі-ж прышлі ў ночы ў манастыр Ахорскі, павязалі манастырскіх парабкаў, якія знаходзіліся на скотным двары, затым білі манахаў і некаторых да сьмерці замучылі, дапытваючыся, дзе грошы схаваны. Узялі сто рублёў масянжовых грошай, схаваных пад прастолам у царкве і аграбілі манастыр. Грошы ўзяў сабе Гедройц, а рэчы аддаў цыганом“ (Археолог. сборник т. II, ст. LXX).

У гэтым апавяданьні цікавы як факт наезду цыганоў на манастыр, так, галоўным чынам, тое кіраўніцтва, якое меў над цыганамі пан Гедройц, мясцовы шляхціц.

Гэтыя старшыні ў XVIII сталецьці празываліся „каралямі цыганскімі“.

Сярод „цыганскіх каралёў“ на Беларусі ў XVIII сталецьці першае месца паводле матар'ялаў, якія да нас дайшлі, займае Ян Марцінкевіч. Паходзіў ён з мяшчан мястэчка Мір, б. Менскага ваяводзтва, і быў з. цыганоў.

22 ліпня 1778 году Марцінкевіч атрымаў асобны ліст ад князя Карла Станіслава Радзівіла, які больш вядомы пад тагачаснай мянушкай „пане каханку“. Марцінкевіч гэту „каралеўскую“ пасаду заняў пясьля сьмерці „цыганскага караля“ Сьцяфановіча.

Да сваёй сьмерці (1790 г.) Ян Марцінкевіч у працягу дванаццаці год кіраваў у Міры—і вельмі ўславіўся сваімі дзівацтвамі.

Этыкет, якім абкружыў сябе „цыганскі кароль“ Ян Марцінкевіч, быў таксама дзівачны.

Апранаўся папольску. Замест шаблі за пасам меў бізун. У руках насіў ляску з буздыганам. Калі трэба яму было ехаць, то звычайна ўперадзе ехалі дзесяць сьпевакоў з кіраўніком (паўкерам), які біў рэмнем па кацялкох. За сьпевакамі ехаў сам „кароль“ на добрым кані, вельмі хараша прыбраным. Ззаду за ім—сем цыганоў—у markdown рознакаляровым убраньні. За імі вялі некалькі троек парожніх коняй. Затым, у старасьвецкім рыдване, які быў вымаляваны ў пунсовы колер, ехала „каралева“ на васьмёрцы коняй.



Цыганскі табар каля Менску ў восень 1926 г. Фот. „Наш. Край“.

Пасьля Яна Марцінкевіча атрымаў гэту пасаду яго сын, які праз нядоўгі час эміграваў з ардой цыганоў у Турэччыну.

У Лідзкім павеце ў часы Марцінкевіча „цыганскім каралём“ быў шляхціц Якуб Знамяроўскі (1795 г.), які карыстаўся ўсялякімі злоўжыцьцямі, дзеля чаго супроць яго ў 1799 годзе ўзьняўся цыганскі бунт. Цыганы схапілі яго, завязалі ў мяшок, які прывязалі да бэлькі, і пачалі біць.

Сын гэтага Знамяроўскага, абраны пасьля бацькі за „цыганскага караля“, уцёк з ардой цыганоў у Турэччыну.

Апошнія часы свайго існаваньня ў XVIII ст. урад Рэчы Паспалітай хацеў зрабіць цыганоў аселымі на зямлі.

29 студзеня 1791 г. быў выданы ўнівэрсал камісіі паліцыі з вызначэньнем тэрміну (адзін год) для пасяленьня цыганоў на вёсках. За выкананьнем гэтага закону павінны былі сачыць ваяводзкія камісіі і ўлада на мясцох.

Але, здаецца, гэта мерапрыемства пажаданых вынікаў ня мела. Цыганы засталіся вандроўнікамі.

VII.

## XIX сталецьце.

У расійскіх законах ні саслоўных, ні нацыянальных, ні рэлігійных даных аб цыганох нічога няма за XIX ст.

Расійская ўлада ў сваіх адносінах у XIX ст. да цыганоў на Беларусі карысталася поглядамі Рэчы Паспалітай XVIII ст.

18 сьнежня 1783 г. расійская ўлада выдала ўказ, каб цыганы на Беларусі абралі сабе „определенный образ жизни". Відаць, што на мэце было—абмежаваць вандроўства і прымусіць цыганоў на Беларусі да аселасьці.

Праз 16 гадоў (указ 23 лютага 1799 г.) гэты ўказ быў зноў зацьверджаны (Полн. Собр. Зак. № 18.871).

Пасьля гэтага 1 студзеня 1812 г. Расійская ўлада выдала трэці ўказ, у якім быў вызначаны цыганом тэрмін, каб запісацца па гарадох і мястэчках „к мешчанскому сословію".

Залічыліся больш багатыя з цыганоў у купцы, а бяднейшыя ў мяшчане. Але пры рэвізіі 1847 г. выявілася, што шмат з іх страціла свае мяшчанскія дакуманты. Усе такія былі залічаны ў шэраг „казенных крестьян".

Аднак і цяпер цыганы засталіся вандроўнікамі. Бязумоўна, сама цыганская прырода цягне іх да вандроўнага жыцьця. Розьніца, можа, у тым, што вандроўкі цыганоў на Беларусі сталі больш абмяжованымі. На падставе сваіх назіраньняў Раманаў піша (1898 г.): „раён вандровак цыганоў Віцебскай губэрні абмяжоўваецца 2—3 паветамі. Напрыклад: Віцебскія вандруюць па Віцебскім, Сеньненскім і Лепельскім паветах; Себескія—па Себескім, Невельскім і Апочацкім".

Шмат цыганоў маюць дамы ў мястэчках і гарадох, хаты ў вёсках. Пачынаюць арандаваць гароды,

Да рэволюцыі сярод цыганоў пачало прымячацца імкненьне да зямельнай уласнасьці. Каб набыць танней зямлю пры дапамозе б. Сялянскага Дзяржаўнага Банку, некаторыя цыганы залічваліся ў сялянскае вобчаства (з мяшчан) і куплялі зямельныя вучасткі.

VIII.

## Агульны вывад.

Аглядаючы гістарычны шлях, якім прайшлі цыганы на Беларусі да рэволюцыі, трэба зазначыць, што стан цыганоў быў заўсёды больш або менш прыгнечаны, заблытаны і цяжкі.

Ня гледзячы, аднак, на тое, што іх гоняць, іх цураюцца, цыганы зьліваюцца з беларускай народнай гушчай. Мэтызацыя ўсё-ж ёсьць, як, напрыклад, яна констатуецца ў Сеньненскім павеце.

Супольнае гістарычнае жыцьцё добра азнаёміла беларуса ў масе з цыганамі. Беларус шчыра ўпэўнены, што з цыганамі ён мае падставу для далейшага жыцьця.

Цікава адзначыць яшчэ тое зьявішча, што на тэрыторыі Беларусі знойдзем досьць значную колькасьць назваў урочышч, рэк і вёсак з кораням „цыган"... Цыганы—вёска, Цыганкова ніва, Цыганоўская рэчка, Цыганоўскі ручэй... Гэты „язык" зямлі сьведчыць аб даўняй сувязі цыганоў з Беларусю і служыць, з свайго боку, гістарычнай крыніцай.




М. Касьпяровіч.

# Краязнаўства ў сучаснай графіцы.

Найбольш дэмократычны спосаб распаўсюджаньня контраснасьць і хуткі тэмп жыцьця, а таксама лёгкасьць успрыйманьня злучэньня чорнага і белага, побач з іншымі прычынамі, выклікалі ў нас даволі шырокі для сучаснага стану мастацкага разьвіцьця Беларусі развой графікі. Шэраг мастакоў, што стала жывуць у нас на Беларусі—Тычына, Мінін, Грубэ, Гуткоўскі, Ахол і інш. выяўляюць сваю творчасьць толькі ў графіцы (Мінін і інш.), або побач з дзейнасьцю ў іншых галінах мастацтва (Ахол і інш.). Адначасна працуюць у галіне графікі і мастакі, што ў апошні час зьяўляюцца ў нас гасьцямі—Юдовін, Аксэльрод і інш., але належаць да Беларусі.

Творчасьць у графіцы, як і ў іншых галінах, зьяўляецца вышэйшаю формаю працы, комбінаваньнем новых вобразаў, форм з старых і новых уражаньняў. Графік ёсьць таксама цалкам продуктам свайго атачэньня. Адмовіцца ад сваіх успрыйманьняў, уражаньняў ён ня можа, як нельга адмовіцца ад кантаўскіх катэгорыяў мысьленьня—прастору, часу і г. д. і што-б ён не тварыў—у яго творчасьці адаб'ецца або непасрэдна акаляючы аго краявід, быт, жыцьцёвае змаганьне, або іншыя, чужыя данаму краю, ўспрыйманьні пераломяцца цераз сьвядомасьць, выгадаваную мясцовымі ўспрыйманьнямі.

Затым зусім натуральна ў нашых графікаў побач з адбіткам агульнанацыянальных мотываў—адбіваецца і мясцовая архітэктура або помнікі („калёна 12 году“ Мініна, „касьцёл Антона“ Юдовіна і інш.), мясцовыя тыпы (Юдовіна, Мініна, Гуткоўскага і інш.), мясцовы краявід (Мініна, Тычыны, Юдовіна і інш.) і г. д.

Усьвядомленая неабходнасьць даваць чулы водгук на акаляючае жыцьцё, удзел графікаў у новым культурным будаўніцтве ня толькі мастацкаю, але і мастацка-грамадзкаю працаю, больш за ўсё па галіне краязнаўчай (Тычына, Мінін і інш.), спрыяюць глыбокаму вывучэньню акаляючага жыцьця графікамі і зноў-жа пасіляюць іх творчасьць у краязнаўчым стасунку, удасканальваючы, разам з тым, яе. Апрача больш дакладнага, удалага і мастацкага азбражэньня свайго атачэньня ў шырокім сэнсе слова, ад вывучэньня жыцьця ў гістарычнай пэрспэктыве, часьцей па галіне сваёй творчасьці, атрымліваецца і пэўны характар апошняй. Так, у выніку вывучэньня рэчаў старога яўрэйскага мастацтва С. Б. Юдовіным атрымалася ў яго творчасьці своеасаблівая стылізацыя ўсяго, што ім азбражаецца, а ў выніку вывучэньня Міні-

ніным старой Магілеўскай і Віленскай гравюры эпохі беларускага адраджэньня і пазьнейшай атрымліваецца клясычная монумэнтальнасьць у яго творчасьці, здаровы рэалізм, не пазбаўлены новых тэхнічных дасягненьняў і г. д. Паколькі гэты процэс яшчэ ня скончыўся—канчатковых вывадаў рабіць нельга.

Але большае разьвіцьцё за самамэтную графіку, графічныя творы самі па сабе, атрымала прыкладная графіка. Традыцыя беларускага



Е. Мінін. **Помнік 12 году.** 1926 г.

селяніна аздабляць сваю палку нарэзамі (дарэчы—злучэньнем чорнага і белага), лыжку, пугаўё, усё, што яго акаляе, тым ці іншым спосабам, знашла сабе найбольш спрыяючыя ўмовы ў новым культурным будаўніцтве і пераважна ў кніжнай справе. Часьцей няўмела, не памастацку, але амаль што заўсёды новая беларуская кніжка, часопіс аздабляецца ілюстрацыямі, застаўкамі, канцоўкамі, пачатковымі літарамі і д. т. п.

Большасьць гэтых кніжных аздоб, і бадай самыя лепшыя, маюць

краязнаўчы характар (Тычыны, Гуткоўскага, Мініна, Юдовіна і інш.), адбіваючы пэўныя бакі мясцовага жыцьця.

Да апошніх належыць і адна з кніжных аздоб—ex libris, або кніжны знак, што адрадзіўся бадай што ў самыя апошнія часы на Беларусі і абмінуць якога нельга. Кніжны знак належыць не да друкарскіх аздоб, а да тых, якія ўжывае ўласьнік кнігі. Вялікае практычнае яго значэньне ў тым, што ён разьвівае мастацкі густ, замілаваньне да кнігі і інш. у шырокага чытача, калі ўжываецца бібліотэкамі або паасобнымі людзьмі.



Е. Мінін. **Над Віцьбай.** 1926 г.

Першаўзорам кніжнага знаку ў нас, як і ў іншых старонках, быў, так званы, укладны запіс, што паказваў прыналежнасьць кнігі. Кніжны знак зьявіўся ў Нямеччыне ў 1480 годзе. З Заходняй Эўропы ён перайшоў і да нас.

Ярлыкі, вэнзэлі і штэмпэлі ня могуць лічыцца экслібрысамі, хоць і паказваюць прыналежнасьць кнігі. Экслібрыс, злучаючы ў сабе моц і прыгожасьць графікі—рытм ліній, суадносіны мас і плям [1]) па-

[1]) В. Адарюков. Русский книжный знак. М. 1921.

вінен аздабляць кніжку, быць дэкорацыйным, адбіваючы дух бібліотэкі, яе характар, уласьцівасьці, чаго ня можа рабіць ні ярлык, ні штэмпэль і г. д. Экслібрыс—сымболь. Да рэчы—экслібрыс, будучы пэўнаю карцінаю невялікага разьмеру, часьцей за ўсё наклейваецца ў верхнім левым рагу другой старонкі вокладкі, перад загалоўным лістом кніжкі.

Экслібрысы бываюць геральдычнымі, портрэтнымі, краявіднымі і інш. Пэўная частка сучасных беларускіх экслібрысаў мае краязнаўчы



Е. Мінін. **Стары.** 1926 г.

характар, адбіваючы тыя або іншыя дэталі мясцовага краю. Беларускім-жа экслібрысам лічыцца той, які зроблены для беларуса, незалежна ад таго, мастаком якой нацыянальнасьці ён зроблены.

Зважаючы на краязнаўчы характар сучаснай графікі, нашы краязнаўчыя арганізацыі павінны распачаць яе колекцыянаваньне, клясыфікацыю і апрацоўку. У іншых старонках існуюць цэлыя музэі графікі і паасобных відаў яе, як экслібрысу, робяцца выстаўкі, выдаюцца часопісы, як „Труды Ленинградского О-ва экслибрисистов“ і г. д. У нас-жа была спроба колекцыянаваньня і апрацоўкі толькі паасобнымі краяведамі ў стасунку да гравюры С. Б. Юдовіна.

Як матар'ял, зьбіраць трэба ўсё, што складае графіку і адносіцца да графікі па дзьвёх лініях: таго, што адбівае свой край і таго, што зроблена графікамі родам з мясцовага краю, або ў мясцовым краі.

Зразумела, што пры гэтым колекцыянаваньні, як і іншым, неабходна да кожнай рэчы мець пашпарт, у якім неабходна занатаваць наступныя весткі: нумар, аўтара, назву, памер, зьмест і хто або што было натураю, ці выклікала гэту рэч; дзе і калі зроблена, матар'ял—дрэва, цынк і д. т. п., дзе знаходзіцца, надпісы, спосаб друкаваньня і свае заўвагі. Выданьні аб графіцы запісваюцца згодна з звычайнымі бібліографічнымі правіламі.




Шмідт. 1902.

Такім чынам, да зьмешчаных да гэтага артыкулу графічных карцін у довад краязнаўчага зьместу сучаснай графікі могуць быць зроблены такія запісы:

№ 1. Е. С. Мінін. „Калёна 1812 г.“ 130 × 73 мм. З помніку вайне 1812 г. у Віцебску. Віцебск, красавік 1926 г. Ксілёгравюра. Уласнасьць Мініна (Віцебск., вул. Леніна, 32). Бяз подпісу і надпісаў. Аўтарскі адбітак.

№ 2. Е. С. Мінін. „Над Дзьвіной“. 117 × 81 мм. З высокага берагу Дзьвіны, недалёка ад палацу Акрвыканкому. Віцебск, май 1926 г. Ксілёгравюра. Уласнасьць Мініна (Віцебск, вул. Леніна, 32). Бяз подпісу і надпісаў. Аўтарскі адбітак [1]).

№ 3. Е. С. Мінін „Стары“. 119 × 79 мм. З натуры (?) Віцебск, кастрычнік 1926 г. Ксілёгравюра. Уласнасьць Мініна (Віцебск, вул. Леніна, 32). Бяз подпісу і надпісаў. Аўтарскі адбітак. Лепш, зразумела, рабіць запіс больш падрабязны.

Для організацыяў—колекцыянэраў паасобных відаў графікі, як напр., экслібрысу, гэты пашпарт можа быць крыху відазьменены: нумар; уласьнік экслібрысу; чыя праца; матар'ял—дрэва, цынк і д. т п.;

[1]) У колекцыі можа быць адбітак і з друкарні.

форма; памер; колер; месца; час; тыраж (для цынкагр. і пад.); апісаньне кніжнага знаку; надпісы; склад бібліотэкі і свае заўвагі.

Да зьмешчаных да артыкулу экслібрысаў запіс, значыць, можа быць зроблен такі:




Е. Мінін. 1926.




Е. Мінін. 1925.

№ 1 Цэнтральнае Бюро Краязнаўства. Грав. Гуткоўскі. Ксілёгравюра. Чатырохкантовы. 82×57 мм. Аднакаляровы. Менск. 1926 г. Апісаньне кн. зн.: на пярэднім пляне разгорнутая кніга на грудзе іншых; за ёю зьлева—жбан з 2 ручкамі, у якім зьвіткі і пяро; далей, з правага боку—Менская вежа з гадзіньнікам і частка будынку, а перад ёю серп і молат; з левага верхняга куту падаюць праменьні. Надпіс на канце двох кніг—„з кніг ЦБК“. Бібліотэка складаецца з мэтодычнай літаратуры па краязнаўстве і выданьняў аб пэўных краёх.

№ 2. Е. ? ? Бараноўскі.? В. Н. Шмідт. Чатырохкантовы. 74 × 89 мм. Аднакаляровы?, 1902 г.? Зьлева, на першым пляне два бабры (апошнія прадстаўнікі, якіх зараз гінуць у Калінінуцчыне) над бервяном, што ляжыць на беразе струменю, прычым адзін з іх апёршыся на сьпіну першага; за бабрамі зробленая імі гаць, цераз якую падае вадаспад; на другім беразе струменю, насупраць баброў куст; за гацьцю, далёка лес, а над усім—хмарнае неба; у верхнім правым куце гэрб „jastrzębiec“, надпісы: Ex. libris. E. de Baranowski. Wydranka Pereant honores salvo honore. MCM II. B. H. Schmibt. Біблотэка Бараноўскага з Выдранкі, каля Клімавіч, вядомая і ў Заходняй Эўропе, складалася з розных кніг на шмат якіх мовах; зьнішчана ў часы грамадзкае вайны. (Пытальнікі пры запісе паказваюць, што для запаўненьня гэтых месц пашпарту патрэбна дакладнае вывучэньне, пасьля якога яны могуць быць падменены пэўнымі данымі).

№ 3. Мікола Іванавіч Касьпяровіч. Грав. Е. С. Мінін. Ксілёгравюра,

чатырохкантовы. 80 × 62 мм. Аднакаляровы. Віцебск. 1925 г. Апісаньне кн. зн.: з левага боку стаіць орнамэнтальная палоска з Віленскіх выданьняў XVI ст. з цвітучым васільком, у якую урэзваецца круг, пад правым краем каторага орнамэнтальны расьлінавы ліст; у крузе дзяўчына лістае кнігу, за якою стаіць атрамант з пяром і інш. кнігі, а дальш — слуп, за якім разьлягаецца краявід з корпусам Віцебскай рынкавай і хмарнае неба. Надпісы: „з кніг М. Касьяровіча. Е. М.“ Бібліотэка складаецца з кніг па выяўленчых мастацтвах, прыгожага пісьменства і мовазнаўства.

№ 4. Мікола Міколавіч Шчакаціхін. Рыс. А. Тычына. Цынк. Чатырохкантовы. 7 × 4,5 мм. Аднакаляровы. Менск. 1925 г. Тыраж 2000 экз. Апісаньне кн. зн: перад акном на стале груда кніг; з левага боку на іх торс Вэнэры Мілёскай, абвіты вялізным скорпіёнам; акно напалову занята важкай порт'ерай, праз незанятую частку відаць Менская вежа з гадзіньнікам, які паказвае дзевятую; згары і здолу малюнку знаходзяцца крайкі аздобленыя орнамэнтам у характары слуцкіх паясоў; у ніжняй, апроч таго, у двох круглых белых палёх зьмешчаны: з левага боку злучэньне астрономічных знакаў Вэнэры і Скорпіёна, з правага—монограма М. Š. Надпісы: апрача паказанай монограмы— „Z knihazboru Mikoły Ščakacichina“ і на самай гары малюнку па кутох „А. Т.“ Бібліотэка складаецца з кніг па выяўленчым мастацтве.




А. Тычына. 1925.

№ 5. Альгерд Анупрэевіч Шлюбскі. Грав. Е. С. Мінін. Ксілёгравюра. Чатырохкантовы. 78 × 56 мм. Аднакаляровы. Віцебск. 1926 г. Апісаньне кн. зн.: з левага боку на кургане сядзіць стары і граець на цымбалах; вышэй і правей за яго, таксама седзячы, другі стары дзьме ў дуду; на кургане—трэці, стоячы ў Віцебскім брылі, трубіць у трубу; з правага боку, ля кургана расьцець дрэва, а з левага боку малюнку падымаюцца тры орнамэнтальныя лінейкі, працягам якіх зьяўляюцца другія дзьве, што загінаюцца над фігурай з




Гуткоўскі. 1926.

трубой. Надпісы: „з кніг А. Шлюбскага. Е. М.“ Бібліотэка складаецца з кніг па этнографіі.

Да гэтага павінен весьціся сьпіс літаратуры, мастакоў, колекцыянэраў.

Ва ўсякім зьбіраньні вельмі важны абмен, таму ніколі ня можна трымаць свайго зьбіраньня ў сакрэце, як гэта часамі любілі рабіць даўней. Да гэтага часу нам вядомы такія зьбіральнікі ўсіх відаў гравюры: І. П. Фурман (Віцебск, Бебелеўскі, 5); М. І. Касьпяровіч (Менск, Грыгор'еўская, 14 кв. 2). М. М. Шчакаціхін (Менск, рог. Унівэрсытэцкай, 51/30, кв. 5).

Ведаючы, што мастакі і зацікаўленыя мастацтвам ёсьць амаль што ў кожнай краязнаўчай організацыі, можна спадзявацца, што і гэта галіна краязнаўчай працы атрымае ў нас шырокае разьвіцьцё.






М. І. Касьпяровіч.

# Першыя крокі школьна-краязнаўчай працы.

*Копмлексы „Навікі“ (Віцебшчына) і „Леніна“ (б. „Целяпуны“) (Мазыршчына).*

Краязнаўства мае мэтаю ўсебаковае пазнаньне і дасьледваньне свайго краю для яго разьвіцьця ва ўсіх галінах культуры і экономікі. Без усебаковага веданьня краю немажліва ніякая сталая карысная праца ў ім.

Школа-ж мае мэтаю падрыхтоўку савецкага грамадзяніна, які могбы орыентавацца ў акаляючым жыцьці і зьмяняць яго на сваю карысьць. А падрыхтаваць, навучыць гэтаму можна толькі на самай працы вывучэньня і дасьледваньня краю, г. зн. краязнаўчай працы, так, як бондарству і кавальству можна навучыць толькі ў бондарнай і кузьні на самай бондарскай і кавальскай працы, а не па лекцыях па бондарстве і кавальстве, якія могуць быць карысны толькі тады, калі працуеш практычна. Школа без краязнаўства немажліва, як немажлівы няпісьменны настаўнік.

Разам з тым, у той час як для краязнаўства навуковага, грамадзянскага і аматарскага цікавы вынікі краязнаўчай працы, для краязнаўства школьнага важны самы процэс, развой працы. Праўда, вынікі школьнае краязнаўчае працы, пры належным кіраўніцтве ёю, могуць быць каштоўнымі ў навуковым стасунку, але не для іх павінна весьціся школьна-краязнаўчая праца.

З вышэйсказанага відаць, што свой край павінен вывучацца самімі вучнямі, а ня шляхам слуханьня цыклю лекцый настаўніка аб даным краі, што было-б вельмі шкодна сваею схолястычнасьцю.

Затым, асаблівую цікавасьць маюць працы вучняў Навікоўскае школы на Віцебшчыне і Ленінскае (б. Целяпуноўскае) на Мазыршчыне пад назвамі: „Навікі“ і „Леніна“. Яны зьяўляюцца вынікам школьна-краязнаўчае работы вучняў гэтых школ у мінулым годзе. Бясспрэчна апошняя дала вучням значна больш карысьці, больш разьвіцьця, больш падрыхтоўкі да будучага навучаньня і да здаровых поглядаў на акаляючае жыцьцё, чымся ўсе друкаваныя школьныя падручнікі ўзятыя разам.

Да працы Ленінскае школы дададзена невялічкая тлумачальная запіска, якой няма ў працы Навікоўскае школы, што ўскладняе разгляд яе.

Комплекс вёска „Навікі“ распрацоўваўся вучнямі другой групы на роднай мове; комплекс хутар „Леніна“—вучнямі чацьвертай групы на расійскай мове. Перанясеньне комплексу „Леніна“ з праграмы другога году навучаньня ў праграму чацьвертага году зьяўляецца бясспрэчна некарысным, тым больш пры патрабаваньні праграмы абмяжоўвацца ў першых групах абхватам „сям'я і школа“ і „наша вёска“. Праўда, з тлумачальнай запіскі да працы відаць, што даваліся пэўныя веды і аб бацькаўшчыне і аб сусьвету, без чаго нават немагчыма было, але гэта, ясна, ня тое, што вывучэньне бацькаўшчыны на падставе веданьня свайго краю, атрыманага ў папярэдніх групах.

Комплекс „Леніна“ распрацоўваўся вучнямі цэлы год па гэткім пляне:

I. Гісторыя хутару:
- а) назва хутару;
- б) найстарадаўнія насельнікі;
- в) пераход ад стадыі аселасьці да фэўдалізму;
- г) панаваньне дваран (паны, шляхта, „быдла“); прыгон (гарады і сёлы);
- д) разьвіцьцё капіталізму. Распластаваньне хутару;
- е) гісторыя рэв. руху 1905—1917 г.;
- ж) грамадзкае і гаспадарчае разьвіцьцё пасьля 1917 г. Контррэволюцыя. Голад. Раскладка, НЭП і харчпадатак.

II. Прырода хутару:
- а) географічнае становішча;
- б) паверхня і грунты (перамены гадоў за 80—100);
- в) клімат;
- г) рэкі, балоты, азёры;
- д) расьліннасьць;
- е) жывёлы;
- ж) насельнасьць.

III. Сучаснасьць:
- а) гаспадарка сялян у сучасны момант: земляробства, жывёлаводзтва, промыслы;
- б) быт сялян: жыльлё, санітарныя ўмовы, харчаваньне, адзежа; жанчына і моладзь; выхаваньне, школа і пісьменнасьць, хата-чытальня, роля парторганізацый; уплыў фабрыкі на хутар.

Зважаючы на падрыхтоўку вучняў і на тое, што навучальная праца ўсё-ж вялася і па-за межамі гэтага комплексу (як неабходнасьці задаваленьня патрэб творчасьці) быць можа, і можна ў агульным згадзіцца з гэтым плянам, тым больш, што, як відаць з сшытку, патрабаваньне найноўшай пэдагогікі, каб дзейнасьць школы грунтавалася на вывучэньні працы чалавека ва ўмовах акаляючай яго прыроды і грамады захоўвалася і ажыцьцяўлялася. Такія разьдзелы, як удзел дзяцей у працы, іх грамадзка-карысная праца і інш., пэўна знайшлі сваё месца ў самай працы школы, ня будучы адбіты ў плянаваньні комплексу.

„Мы цэлы год вывучалі наш хутар і ўсё тое, што даведваліся, запісвалі колектыўна на лекцыях. Такім чынам вышла ў нас кніга „Наш хутар Леніна“,—пішацца ў гэтай кнізе аб спосабе працы. Тлумачальная запіска гаворыць больш падрабязна, як прапрацоўвалася тэма і што выканана.

„Уся праца концэнтравалася на лекцыях расійскай мовы, а прапрацоўвалася на лекцыях грамадазнаўства, прыродазнаўства і географіі, часткова—матэматыкі“,—гаворыцца ў запісцы.

Значыць, ня толькі была праца па-за межамі комплексу, але было і існаваньне паасобных лекцый мовы, прыродазнаўства, грамадазнаўства і географіі, а таксама матэматыкі, якая толькі часткова прымала ўдзел у распрацоўцы тэмы. Гэта нішчыць амаль што ўсю сутнасьць комплексу, і зводзіць працу да звычайнага школьнага ўкладаньня пісьмовай працы па мове на аснове пэўнага пляну з магчыма большым разьвіцьцём актыўнасьці вучняў. Для гэтага, па ўсіх разьдзелах, плянаваньня была прароблена наступная праца, як паказана ў тлумачальнай запісцы.

„*Гісторыя хутара*. Праца была пачата з разгляду пляну хутару 1769 году (усе дзеці зьнялі адбітак гэтага пляну). Дзякуючы яму было высьветлена, хто старажытныя насельнікі хутару і ад каго можна атрымаць патрэбныя весткі. На падставе расказаў дзядоў быў вызначаны час заснаваньня хутару, хто былі яго першыя насельнікі, і адкуль пашлі назвы ўрочышчаў. Высьветлілі, што курган паказаны яшчэ на старым пляне; у сувязі з экскурсіяй на курган былі праведзены гутаркі на лекцыях грамадазнаўства аб славянах, іх побыце і вераваньнях; калі славяне зьявіліся ў нашай мясцовасьці, адкуль яны прышлі. Славянскія паселішчы ў нашай акрузе. Вызначалі, што хутарская зямля належала гораду, чаму горад надзяляў зямлёй часамі прышлых людзей; спыніліся на ролі Мозыру і гарадоў наогул і давялі, што прыгоннага права ў нас ня было. Па апавяданьнях старых людзей высьветлілі ролю паноў, шляхты, мяшчан і сялян; запісалі апавяданьні аб прыгоне, жыцьці пры паляках і расійцах. Выявілі клясавае прыгнечаньне ўскладнёнае нацыянальным. Спыніліся на ролі духавенства; па тым-жа пляне ўстанавілі, што ў нас быў манастыр; запісалі легенду аб манахах і высьветлілі на яе падставе фальшывую сьвятасьць і жыцьцё манахаў. Перайшоўшы да разьвіцьця капіталізму мы зрабілі экскурсію на фабрыку „Чырвоны Кастрычнік“, якую доўга і падрабязна вывучалі. У сувязі з экскурсіяй высьветлілі, калі пачалі засноўвацца фабрыкі ў Беларусі, значэньне прыгону і распрыгонваньне сялян. Затым перайшлі да стану сялян пасьля распрыгонваньня, спыніліся на земстве і „податном сословии“, барацьбе сялян за зямлю і пачалі вывучаць рэволюцыйны рух. Асабліва падрабязна распрацавалі рэволюцыю 1905 году. Дзякуючы таму, што некаторыя з мясцовых сялян прымалі ўдзел у рэвруху, удалося сабраць весткі аб удзельніках яго, арыштах, забастоўках і г. д. Уся праца рабілася індывідуальна і колектыўна. Зусім таксама была прапрацована на падставе расказаў і запісаў і рэволюцыя Лютаўская і Кастрычнікавая. Шмат часу аддалі грамадзянскай вайне. Тутака ўжо ў саміх дзяцей быў нявычарпаны запас успамінаў. Усе расказы дакладна правяраліся, на лекцыі запрашаліся ўдзельнікі таго ці іншага здарэньня і толькі пасьля гэтага на лекцыях расійскай мовы колектыўна запісваліся ў сшыткі. Такім чынам, у кожнага вучня склалася гісторыя хутару Леніна.

*Прырода хутару*. З самага пачатку дзецям было прапанована ўзяць для нагляданьня якую-небудзь жывёлу або птушку, а таксама весьці дзеньнік прыроды. На лекцыях падрабязна распрацавалі, што і як трэба адзначаць. Раз у тыдзень вучні па чарзе рабілі даклад па сваім заданьні, кляса колектыўна выпраўляла, рабіліся вывады. На-

жаль, ня ўсе вучні ўважліва адносіліся да гэтай працы. Такім шляхам былі прапрацованы: воўк, лісіца, заяц, конь, карова, каза, трус і амаль што ўсе птушкі. У лютым мы сталі правяраць дзеньнікі колектыўна і запісваць пэўныя весткі ў школьны сшытак. Адначасна вяліся штодзенныя мэтэоролёгічныя нагляданьні і штомесячна па чарзе ўкладаліся дыяграмы пагоды, вопадзяў і ветру. У канцы году была выключана сярэдняя тэмпэратура і ўкладзены адпаведныя табліцы. Географічнае становішча хутару вызначылі пры дапамозе компасу. Навучыліся разьбіраць пляны і карты, рысаваць пляны мясцовасьці. Вывучылі карту Мазыршчыны, Беларусі. Паверхню і грунты вывучылі шляхам экскурсій. Зьвярнулі ўвагу на вялізныя перамены, што адбыліся за 50 год. Агледзелі яры, нашлі цэлы шэраг рэштак ледавіковага кругабегу. Усё гэта дало матар'ял па прыродазнаўстве і географіі. Рэкі, азёры і балоты прапрацоўвалі зусім таксама, бяручы тыя, што ёсьць у нас і пераходзячы затым да рэк, азёр, балотаў Беларусі. Карыстаючыся такім мэтодам, мы распрацавалі і расьліннасьць і жывёлу і насельнасьць.

*Сучаснасьць* не ўдалося за бракам часу прапрацаваць, як хацелася. Думалі вывучыць чатыры сялянскіх гаспадаркі: 2 серадняцкія і 2 бядняцкія (культурныя і някультурныя), але зімою вывучаць было нязручна (вымеры і інш.), а затым была праароблена падрыхтоўчая праца, якая і адбілася ў вучнёўскіх сшытках пад назваю „сучаснасьць“.

Неабходна адзначыць, што праца была спаткана насельнасьцю надзвычайна добра і ні разу мы не атрымалі адмаўленьня, а турбаваць прыходзілася шмат: то цягнулі з сабой на экскурсію, то запрашалі на гутарку і г. д.

Такім чынам, толькі па кнізе „наш хутар Леніна“ і гэтай тлумачальнай запісцы, укладзенай да таго, як відаць, сьпяшаючыся, бяз клясңага журналу, іншых прац вучняў і д. т. п. дадатковага матар'ялу вельмі трудна напэўна сказаць, ці школа вяла навучаньне па найноўшых дарэволюцыйных мэтодах, заправіўшы яго трохі комплекснаю сыстэмаю, ці распрацоўвала комплекс на грунце прадметнага выкладаньня. Што гэта ня проста праца па комплекснай сыстэме згаджаліся, мабыць, і самі працаўнікі калі закрэсьлілі ў тлумачальнай запісцы тонкаю рыскаю загаловак: „IV кляса. Програма комплекснага выкладаньня на аснове краязнаўства“, а пакінулі: „Тэма: „наш хутар“, распрацоўваецца ўвесь год „падтэмы“... Як тэма для ўкладаньня, праца пэўнага колектыву над дасьледваньнем краю, яна распрацована добра і мэтодычна правільна.

Школьная, як і краязнаўчая праца наогул, складаецца з найбольшага ліку нагляданьняў, зьбіраньня тых ці іншых зьяў, фактаў, клясыфікацыі, сыстэматызацыі іх, распрацоўкі і вывадаў. З працы ня відаць наколькі шырака практыкавалася колекцыянаваньне, сыстэматызацыя, апрача нагляданьня. У працы ёсьць толькі невялічкая колекцыя папяровых грошай. Тут нечага і ўспамінаць, што ў выніку школьнай працы атрымліваецца шмат колекцый, якія ўрэшце складаюць школьна-краязнаўчы музэй. У данай школе ён пэўна і ёсьць. А пры масавым нагляданьні, зборы фактаў, колекцыянаваньні і організацыі музэю немажліва абыйціся бяз сувязі з суседнімі і далёкімі школамі, краёвым краязнаўчым музэем і мясцовым таварыствам краязнаўства.

Запэўна, ясна і мясцовым працаўнікам, што вывучэньне павінна концэнтравацца на самай вытворчасьці, а ў кнізе „Леніна“ адбіта пераважна гісторыя яе. Адкуль фабрыка бярэ сырэц, наколькі мясцовая прырода спрыяе яе існаваньню, якія падсобныя заработкі ля фабрыкі маюць сяляне і г. д. з працы ня відаць.

Сама кніжка, як вынік працы вучняў, вынік краязнаўчай працы наогул, надзвычайна каштоўная і цікавая. Калі Мазырскае Акруговае Таварыства Краязнаўства будзе мець такую кніжку з кожнай школы— яно зможа даць пэўнае каштоўнае выданьне аб Мазыршчыне. Некаторыя хібы кніжкі залежаць ад вышэй паказаных хіб мэтодаў і кірунку працы.

Маючы тры разьдзелы адпаведна разьдзелам пляну, кніжка складаецца з наступных артыкулаў: 1) гісторыя хутара Леніна (ад заснаваньня да 1914 г.); 2) імпэрыялістычная вайна; 3) лютаўская рэволюцыя; 4) Кастрычнікавая рэволюцыя; 5) немцы; 6) пятлюраўцы; 7) палякі; 8) балахоўцы і Савецкая ўлада; 9) межы хутару Леніна; 10) паверхня; 11) балоты; 12) грунты; 13) рэкі, ручаі, азёры; 14) клімат, мяцеліца; 15) птушкі (зімуючыя, пералётныя); 16) жывёлы; 17) рыбы; 18) расьліннасьць; 19) ягады; 20) гародная расьліннасьць; 21) кветкі (лясныя, садовыя; 22) палявыя расьліны (азімыя, яравыя) і травы; 23) колькасьць зямлі; 24) заняткі жыхароў; 25) жывёлаводзтва; 26) птушкаводзтва; 27) савет хаты; 28) наша школа; 29) праца санкамісіі; 30) рэдкалегія.

Няма пэўнай суразьмернасьці паміж артыкуламі: адны расьцягнены—другія складаюцца з сухога пераліку. Зусім не паказаны процэс вытворчасьці на фабрыцы, не расказана з кім мелі сувязь мясцовыя рэволюцыянэры ў 1905 г., роля мясцовага гораду Мозыру ў мясцовым рэволюцыйным руху 1905—1917 г., няма хоць-бы для некаторых птушак, расьлін лацінскіх азначэньняў і г. д., што можа быць лёгка выпраўлена ў наступныя гады, бо аснаўная праца выканана.

Такім чынам, зважаючы, што да гэтага было шмат гутарак, разьвіцьцё вуснай і пісьмовай мовы дзяцей, набыцьцё ўмецтваў у гэтым стасунку было задаволена ў працы над тэмаю. Тое самае можна сказаць і пра графічную мову пры багацьці ілюстрацыйных малюнкаў у працы, рысункаў і плянаў, а разам і пра прыродазнаўства з географіяй і грамадазнаўства (гаворачы старымі тэрмінамі), калі былі яшчэ экскурсіі і нагляданьні. Умецтва орыентавацца ў прасторы і часе, азначаць адлегласьць і г. д. відаць з працы. За тое адсутнасьць багатага лічбовага матар'ялу—параўнаньняў, падлікаў і інш. сьведчыць, што матэматычныя ўмецтвы выпрацаваліся на нейкім іншым матар'яле і мабыць даволі цьмяныя.

Бледнасьць мовы самой кніжкі, багацьце такіх зваротаў, як: „а у остальных зажиточных заможных“, „у нас на хуторе многие переживали революцию“ заміж „удзельнічалі ў рэволюцыі“, „один раз произошло несчастье и опасное происшествие“ і інш. сьведчаць аб тым, што, ня гледзячы на багацьце практыкаваньняў, на тое, што гэта вучні чацьвертай групы, мова гэта ім даволі яшчэ чужая стрымлівае іх разьвіцьцё, выказваньне іх думак.

Два сшыткі Навікаўскай школы даводзяць, што праца вучняў гэтай школы больш набліжаецца да працы па комплекснай сыстэме, чым Ленінскай, і вынік іх працы ня менш цікавы. Сшыткі складаюцца з аднэй дыяграмы, адказаў на розныя пытаньні і ўкладаньняў на пэўныя тэмы комплексу. Багата лічбовага матар'ялу. На жаль, гэтыя сшыткі толькі частка працы і затым, як мы казалі, судзіць аб працы школы цяжка. Нельга толькі ўстрымацца ад таго, каб ня прывесьці кавалка аднаго артыкулу бяз ніякіх зьмен, што паказвае вобразнасьць, сакавітасьць мовы, а значыць і высокую жывасьць і сьвядомасьць школьна-краязнаўчай працы. *„Як мы жалі і малацілі:* як толькі жыта пасьпела,

бабушка пашла і аджала зажын і паставіла яго за абразы, а я кажу: „на што-ж ты паставіла туды гэтае?“, а яна гаворыць: „Каб бог жыта ляпей радзіў“. Папка насіў сярпы зубрыць; цераз два дні сярпы былі назубраны. Папка наняў жней. Жнеі назаўтра прышлі к нам і пачалі жаць. Жняя трымае серп у правай руцэ, а левай рукой бярэ жменю жыта, адрэжа сярпом і зробіць з першай жмені вязьмо, пакладзе яго на зямлю, а на яго потым кладзе жмені, пакуль не нажне сноп; тады сярпом пакрыюць сноп, возьмуць яго на калена і вяжуць; зьвязаўшы на зямлю кладуць. За 1 нядзелю жыта зжата і пастаўлена ў бабкі...“ (Ф. Шаляпін). Гэта сьвежае, дакладна-падрабязнае апісаньне вучня 2 групы пакідае далёка за сабою мову колектыўнай працы вучняў 4 групы Ленінскай школы.

Першыя вядомыя нам крокі школьна-кразнаяўчай працы цяжкія, у іх няўхільны памылкі, але за імі будучына, бо яны ідуць супроць старога, стануць шырокім шляхам усіх школ. Вітаючы іх, просім усіх настаўнікаў прысылаць у Цэнтральнае Бюро Краязнаўства запытаньні адносна школьна-краязнаўчай працы, на якія мы ахвотна і хутка будзем адказваць, а таксама матар‘ялы, вынікі свае школьна-краязнаўчае працы, на якіх можна будзе грунтаваць дзейнасьць школьна-краязнаўчае камісіі ЦБК і рабіць вывады адносна далейшай краязнаўчай працы школы.

У нашых чытанках для школ вельмі мала мясцовага краязнаўчага матар‘ялу і такі матар‘ял, як разгледжаны, служыць пачаткам новай кніжкі для чытаньня з запраўды мясцовым, краязнаўчым зьместам, што заслугоўвае надзвычайнай увагі.



# МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

Проф. П. Салаўёў.

## Фэнолёгічныя нагляданьні ў 1926 годзе ў Горках (шырыня $54^0$ 17', даўжыня $30^0$ 59').

*12 лютага.* Пасьля сьнежных завеяў (9—10 лютага), якія на час затрымалі і прыпынілі рух на чыгунцы і навеялі гурбы аж да самых акон, кідаюцца і б'юцца аб аконныя шклы тры птушкі (а 7 гадз. у веч. t = — $5^0$ R.). Адну птушку я злавіў сачком, аказалася—жоўтабрушка (Emberiza citrinella L.). Пражыла два дні.

*1 сакавіка.* Разам з глыбокім сьнегам, які выпадаў за люты, t = — $18^0$ R.

*10 сакавіка.* Зьявіліся *гракі* (Corvus frugilegus) у малым ліку. Пасьля, у час сьцюжы і завірухі яны схаваліся. Некаторыя бачылі гракоў ужо тры дні таму назад.

*13 сакавіка.* Перад акном—дзьве жоўтабрушкі. Гракоў ня відаць.

*14 сакавіка.* Каля вакон зьявілася некалькі жоўтабрушак.

*25 сакавіка.* Пасьля маразоў *зноў* зьявіліся гракі.

*26 сакавіка.* Гракі трапляюцца часьцей. Вераб'і (Passer) і галкі (Monedula turrium Brehm) пачынаюць клапаціцца *аб гнездаваньні:* вераб'і носяць у дзюбках пучкі сена, галкі — пруточкі. Чуваць крыкі вялікага пярэстага дзятла (Picus major L.) і дзятла вераб'інага (G) (p. minor L.). Але больш за ўсе заўважваюцца вераб'і. Яны і клапочуць аб гнёздах. Некаторыя з іх зьнікаюць у дуплях ліп, а некаторыя нібы дрэмлюць у дзірках дупля і вартуюць іх.

*27 сакавіка. Масавы прылёт* гракоў да старых гнёзд, пачуўся іх крык.

*1 красавіка.* Першы цёплы дзень. У ночы, дзе паміж сьнегу прыметны вялікія пляміны чорнай зямлі, чуваць слабае пяяньне *жаўранкаў.* (Alauda arvensis L.). Зьявіліся *шпакі* (Sturnus vulgaris L.) (у парку я іх бачыў 6 штук). Гракі на гнёздах „такуюць", распушчаючы хвост веерам.

*2 красавіка. Запяяла жоўтабрушка.* Сустрэлася разам з вялікімі сініцамі (Parus major L.) звычайнымі ў нас, сініца пухляк (Parus palustris).

*3 красавіка.* У акварыуме—шмат трубкаватых чарвякоў (Tobifex).

*6 красавіка.* Жаўранкаў вельмі многа. Пяюць. Сустракаюцца вялікія плоймы *юркоў* (Fringilla monti fringilla L.), напэўна, на пералёце к поўначы. Садзяцца на іржышча. Была заўважана сініца блакітніца (Parus coerubus L.). Сьнег на палёх напалову растаяў. Рэчка бурліць і шуміць. *Паводле слоў паляўнічых*, якія хадзілі на разьведку, прыляцелі *качкі* (Anas). *Кнігаўкі* (Vanellus cristatus Meyer) і *сітаўкі* (Motacilla).

*7 красавіка*. Сьцюдзёны паўночны вецер. У старым парку шмат жоўтагаловых каролікаў (Regulus cristus Koch) разам з сініцамі. Сустракаецца валовавока (Troglodytes parvulus L.) і пяе, прычым падыймае крыльлі да паземнага стану. Трапіўся адзін *чорны дрозд* (Turdus merula L.).

*8 красавіка*. Раніца сьцюдзёная. У старым парку зьявілася *чырвонашыйка* (Erithacus rubacula L.). Юркі паранейшаму ляцяць на поўнач. Сьнег на палёх яшчэ ляжыць маленькімі плямкамі.

*12 красавіка*. Дзень сонечны, але з сьцюдзёным паўночным ветрам. Зьявіліся ў малым ліку парачкі *чачотак-канаплянак* (Fringilla cannabina L.) і было чутно іх пяяньне; таксама былі чутны галасы юрка, берасьцянкі (Fringilla coelbs L.), зелянушкі (Fr. chloris L.), але саміх птушачак ня відаць.

*14 красавіка*. Паказалася *белая сітаўка* (Motacilla alba L.). На рацэ бачыў зуйкоў-перавозчыкаў (Actitis hypoleucos L.), якія часова спыніліся на паралёце.

*15 красавіка*. 7 гадз. раніцы t = + 3° R. Сонца. Стары парк запоўнены чырвонашыйкамі (*масавы пралёт);* некаторыя пяюць, уюцца парачкамі, падбіраюць нешта з зямлі, мітусяцца па хмызьняку. Гучна пяе жоўтабрушка. Трапіліся дзьве белыя сітаўкі. У гаі пяюць юркі, берасьцянкі. Крычыць глінянка (Sitta euraраea L.). Зьявіліся *гілі* (Pyrrhula), пяюць. Сустракаюцца валовавокі, каролікі. Некаторыя птушачкі бегаюць па сьнезе. Выляцеў матыль *крапіўнік* (Vanessa urticae L.). Мурашкі (Formicidae) выпаўзаюць паверх кучы на сонца.

*16 красавіка*. Цьвіце алешына. Праляцеў бусел (Ciconia alba Briss).

*18 красавіка*. Зноў на рацэ трапіўся шыбканогі кулічок зуёк-перавозчык, які падпускае да сябе даволі блізка. Чачотка-канаплянка ў маладым ельнічку носіць у дзюбачцы сена для гнязда.

*19 красавіка*. Злавіў вадзянога жука плавунца (Dytiscus ♀), які лётаў па вуліцы.

*20 красавіка*. Непагодны дзень. У вечары паказаліся жабы (Rana).

*21 красавіка*. Дзень цёплы і сонечны. Сьнегу засталося мала— толькі ў лагчынах ды цяністых мясцох. У полі відаць стада. *У бярозы заўважваецца рух соку*. Цьвітуць (пыляць) алешыны і ляшчына лесавая. Лётаюць крапіўнік, крушыньнік, гнаявік (Aphodius). Паказалася круцігалоўка (Jynx torquilla L.). У гаі—шмат драздоў. На поўнач праляцела 5 буслоў. На леташнім гнязьдзе стаіць бусел. Крычыць сокалшулячок (Tinnunculus). Папраўляюць гнёзды глінянкі, цягаючы кавалачкі дрэва. Запяяў будаўнічок (Phylloscopus).

*23 красавіка*. Пачалі квакаць жабы. Пяяньне зелянушкі і чорных драздоў. У вечары дождж і *першая навальніца*.

*24 красавіка*. На паўночны ўсход праляцелі жураўлі (17 штук). Зацьвіў падбел звычайны.

*26 красавіка*. Першыя ластаўкі. Зацьвілі садовыя браткі. На бузіне прыметны лісткі. На бэзе пачынаюць раскрывацца пучкі. Зямля прымае ярка-зялёны фон. У вадазборы знойдзена *чырва камароў*.

*27 красавіка*. У паветры зрабілася больш сьцюдзёна. Цьвіце Petasites (маташнік). Пазелянела мадрына. На чарэмсе тырчаць зялёныя вязкі складзеных лістоў.

*29 красавіка*. Пачынаюць араць поле. Зацьвітае лотаць балотны.

*30 красавіка.* Цьвіце гусятнік (Gagea lutea), пачалі зьяўляцца капшучкі камароў.

*1 траўня.* Сьнегу ўжо нідзе ня відаць.

*2 траўня.* Масавы прылёт ластавак. Вялікая сініца пад акном наскубла многа сухой леташняй травы для гнязда. Зьявіліся пліска (Budytes) і чорнагрудка (Ruticilla).

*3 траўня.* Спораносны хвошч пакрывае поле. Лётае матыль-галубянка (Licaena). У вечары—дождж, другая навальніца.

*4 траўня.* Быў злоўлены жывым куратнік карагольчык (Accipiter nisus L.).

*5 траўня.* Пачынае цьвісьці клён.

*7 траўня.* У вадзе былі знойдзены яйкі камара-матыля (Chironomus).

*10 траўня.* З яек матыля вышлі вусені.

*11 траўня.* Лётаюць сойкі (Garrulus glandarius L.). Трапілася валасянка (♀) (Muscicapa).

*12 траўня.* Перад акном—леска (Sylvia). Пяе будаўнічок-трашчотачка. Здаецца, у ночы быў масавы прылёт розных лесак, будаўнічкоў і чорнагрудак. Першае кукаваньне зязюлькі (Cuculus canorus L.).

*13 траўня.* У юркоў-берасьцянак—вясельлі. Бачыў мухалоўку—(Muscicapa atricapilla L.). Пяструшку і Грычына (Lanuis collurus L.).

*14 траўня.* Быў злоўлен хрушч (Melolontha).

*15 траўня.* Крычаць *маладыя* гракі.

*16 траўня.* Зацьвілі падтыньнік і буйміна лугавая; пачынаюць зелянець ліпы. Выляцела стрэлка.

*17 траўня.* Зьявіліся груны (Cypselus). Цьвітуць сьлівы.

*18 траўня.* Запяяла івалга (Oriolus galbula L.). Пяе будаўнічок. У лесе кусаюцца камары.

*19 траўня.* Пачынае цьвісьці бузіна. Зацьвіла чаромха.

*20 траўня.* Цьвітуць вішні.

*21 траўня.* Пачынаюць цьвісьці суніцы. Падбел звычайны распушчае па ветры плады. Сеюць авёс. На вольхах зьявіліся лістаеды (Agelastica alni). Цьвіце многа расьлін: казялец, вероніка, гусялапка, браткі, агаткі.

*22 траўня.* Толькі што пачынаюць рашчыняцца краскавыя пучкі бэзу і конскага каштану. Зацьвітаюць некаторыя яблыні.

*23 траўня.* Пачынае цьвісьці жоўтая акацыя. У вечары лётаюць кажаны.

*24 траўня.* Шмат лётае стрэлак. Лётаюць матылі бяляны. Цьвітуць: геранія, панікніца, незабудка, дубраўка. У вадзе — шмат апалонікаў.

*26 траўня.* Цьвіце бабок (Menyanthes trifoliata L.). Асіна распушчае пух. Хвоя пачынае пыліць.

*27 траўня.* Пачынае каласіцца азімае жыта. Зацьвітае званец. Трапілася адна кветка чырвонай канюшыны.

*30 траўня.* Шпак носіць птушаняткам ежу. Прадаюць ландыш. Цьвіце барбарыс. Адцьвітае глог.

*31 траўня.* Відаць шмат вусеняў матыля крапіўніка, якія поўзаюць па крапіве. На хвоі—гняздо пярэстага дразда, які носіць птушаняткам чарвякоў.

*3 чэрвеня.* Лётаюць сарокі (Pica caudata Ser.) і сінія сіваграк (Coracias garrula L.) на фальв. Іванова. Пачынае красаваць жыта.

*4 чэрвеня.* Пачынаюць цьвісьці папоўнік і званкі.

*5 чэрвеня.* Зацьвітае белая акацыя.

*6 чэрвеня.* Пачаў цьвісьці язьмін. У жоўтай акацыі зьявіліся стручкі. Цьвітуць крапінцы. На мяжоўцы цімафейцы было сабрана шмат лічынак житняй каласовай мухі. *Паводле слоў супрацоўніка,* крычыць перапёлка (Coturnix).

*7 чэрвеня.* Зацьвілі жоўтыя збанкі на сажалцы.

*8 чэрвеня.* У жыце зацьвілі блакітныя васількі. Трапляюцца лічынкі сьцябловай молі.

*9 чэрвеня.* Цьвітуць—грушаўнік, братаўка гаёвая, каліна, крушына.

*12 чэрвеня.* Цьвіце крываўнік. Адцьвіў конскі каштан.

*14 чэрвеня.* Першыя плады суніц.

*15 чэрвеня.* Сенькава. Быў знойдзены малады бяскрылы конік. Цьвітуць—белакапытнік, брусьніца, маліна, пярэсна, вадзяная белая лілея.

*20 чэрвеня.* Зацьвілі іскаркі. Зьявіліся мухі-кусачкі.

*22 чэрвеня.* Цьвіце валяр'яна.

*23 чэрвеня.* Крык драча (Crex).

*25 чэрвеня.* Прадаюць чарніцу.

*29 чэрвеня.* Чырванее бузіна. На гародзе—агуркі.

*1 ліпня.* Хмарна. Перад аком на елцы трашчыць зелянушка.

*2 ліпня.* Пачынае цьвісьці ліпа.

*3 ліпня.* Была сарвана першая ягада маліны.

*4 ліпня.* Зацьвілі—скрыпень вузкалісты, валошна лугавая.

*7 ліпня.* Цьвітуць: пылюшнік, дзіванна, шальнік, сумнік, маруна; пакрысе зацьвітае піжма. Як відаць, канаплянкі падрыхтоўваюцца да другой вывадкі.

*11 ліпня.* Жыта налілося. У лесе сьпее маліна. Сярод лясных стракатак (Anthus) у гаі заўважваецца жвавасьць: яны пяюць і прабуюць лётаць.

*14 ліпня.* Цьвіце вадзяны казялец.

*15 ліпня.* Цьвіце піжма.

*17 ліпня.* Жнуць жыта. Трэскаюцца стручкі жоўтай акацыі.

*21 верасьня.* *) Лісты клёну ахварбоўваюцца. Жаўцеюць дуб і ясень. Лётаюць бялян капусьнікі (Pieris brassicae L). крапіўніца (Vanessa urticae L.). Лімоньніца (Rhadocera rhamhi L.).

*29 верасьня.* Трапляюцца чырвонашыйкі.

*5 кастрычніка.* Раніцай на страсе—шэрань.

*6 кастрычніка.* Знойдзены мшанкі (Cristatella mucedo) з спораблястамі.

*7 кастрычніка.* У лужыне замерзла вада ($t^o = -1^o$ R.).

*19 кастрычніка.* Раніцай першы сьнег; пасьля пры $t = +3^o$ R. растаяў.

*20 кастрычніка.* Зноў раніцай лужыны замерзьлі.

*21 кастрычніка.* Падае сьнег. Стрэхі белыя.

*22 кастрычніка.* Лужыны замерзьлі. Пад акном чырвонашыйка.

*23 кастрычніка.* Адлiга. Сьнег растаяў.

*25 кастрычніка.* Раніцай—даволі глыбокі сьнег, які праляжаў цэлы дзень.

25/X—1926 г.
Горы—Горкі.

---

*) З прычыны выезду аўтара вышаў перапынак у наглядананьнях ад 19/VII да 18/IX—26 г.

Яз. Троська.

# Стары Станькаўскі парк і асаблівасьці яго дрэвастану.

*(Менская акруга).*

Гэты парк знаходзіцца ў сямі вярстах ад мястэчка Койданава, Менскае акругі, у б. панскім двары Станькава, які да часу апошняе рэволюцыі належаў багатаму абшарніку Чапскаму. Цяпер парк належыць да Станькаўскае дзіцячае колёніі. Двор Станькава быў галоўным паміж іншых двароў Чапскага, зьяўляўся яго рэзыдэнцыяй, дзяля чаго ўсё, што можна было рабіць для панскае раскошы і ўзбагачэньня, рабілася якраз у Станькаве.

Тут вы натрапіце пя рэштк і цэлага шэрагу непатрэбных прадметаў панскае раскошы, як. напр., склеп пад касьцёлам для пахаваньня нябожчыкаў панскае фаміліі, падземную лёху на некалькі дзесяткаў мэтраў у панскі палац з кухні, што пабудавана асобна, і шмат чаго іншага.

Для панскае раскошы, ні для чаго іншага, разьведзены быў у старыя, часы на дзіва багаты, Станькаўскі парк.

Але-ж тое, што панамі-чужаедамі было зроблена для ўласнае раскошы, для забаўкі, рабоча-сялянская дзяржава пры магчымасьці выкарыстоўвае для практычных патрэб і культурных мэт у справе соцыялістычнага будаўніцтва. У прасторных Станькаўскіх б. панскіх палацах, сярод высачэзных паркавых дрэў—цяпер карыстаюцца вольным паветрам і багатым сьвятлом блізка дзьве сотні дзяцей колёніі.

Для нас у сучасны момант гэты парк набывае яшчэ асаблівую цікавасьць у тым, што ён зьяўляецца выдатным згуртаваньнем амаль што ляснога характару, больш сотні тутэйшых і экзотычных парод дрэў і кустоў, што ён зараз можа даць каштоўныя матар'ялы для вывадаў аб выгоднасьці (рэнтабельнасьці) разьвядзеньня ў даным раёне тых ці іншых чужаземных парод і магчымасьці іх акліматызацыі, і што ён, як свайго роду, батанічны сад, ставіць сабою пэўную вартасьць для мясцовых культурна-асьветных устаноў у справе азнаямленьня з усімі тутэйшымі, а ў значнай частцы і чужаземнымі для Беларусі пародамі дрэў і кустоў.

Ня спыняючыся на пытаньні аб тым, ці мэтазгодна і ці рэнтабельна было-б пашырэньне на Беларусі ў лясной, або паркавай справе тых ці іншых дрэўных і кустовых парод з чужаземных расьлін, якія зараз магчыма спаткаць у Станькаўскім парку, я хачу толькі высьветліць наколькі багаты гэты парк тутэйшымі і чужаземнымі пародамі, зазначыўшы асобна на рэдкія для Беларусі пароды, на ўмовы іх росту і на цікавыя згуртаваньні парод у гэтым паркавым дрэвастане ляснога характару.

Парк і сядзіба Станькава разьмешчаны на *паўднёвым схіле невялічкага ўзвышша* і займаюць плошчу каля 15 гэктараў; з трох бакоў парк абгароджаны мураванаю сьцяною і толькі паўднёвым сваім краем ён прытыкаецца да возера і забалочанае рэчкі, што лучыцца ў двох гэктарах ад Станькава з рэчкаю Вусаю.

Ад парку ў розных напрамках па шляхох разыходзяцца на ½—

$1^1/_2$ гэкт. прысады-алеі; кожная з іх адзначаецца якою-небудзь характэрнаю пародаю, напрыклад, ёсьць прысады—кляновая, ліпавая, ясяновая, ігластая (хвоя з мадрынаю) і інш.

*Глеба* пад паркам супяшчаная сьвежая, са значнаю дамешкаю перагною. Паўзрэчная частка мясцамі зьяўляе сабой калісьці асушанае тарфяное балота (алёс), тарфовішча. Два невялічкія груды, што недалёка ад берегу возера, абведзены вадою і ствараюць асобныя паркавыя астраўкі па плошчы у $1^1/_2$ гэктары кожны.

*Паўната* амаль што па ўсім парку роўна 1,0, што азначае поўную стычнась дрэвастану. *Запас* драўніны на 1 гэктар напэўна больш 60 кубічных сажняў. *Склад* дрэвастану мяшаны; пераважваюць шыракалісныя пароды з дамешкаю мадрыны, елкі, бярозы, Вэймутавай хвоі, ялаўцу, звычайнае хвоі і інш. *Па веку* (узрост) паркавыя дрэвы ў значным процанце зьяўляюцца старымі дзеля таго, што і самы парк налічвае сабе напэўна каля сотні гадоў.

## Склад паркавава дрэвастану.

### *Іглястыя пароды дрэў.*

*Мадрына Эўропейская* (Larix europea Д. С.). Хоць яна раскідана адзінкамі, але складае значную дамешку ў паркавым дрэвастане і асабліва ў іглястай заслоннай кулісе на захад ад парку, дзе яна ў хваёвым дрэвастане мясцамі складае амаль што 50%. У парку паміж ліставых парод пры поўным дрэвастане (1,0) некаторыя экзэмпляры, відаць, маюць каля 70 гадоў пры таўшчыні блізка 100 сантым. Ёсьць экзэмпляры, за якімі наглядаецца ўсыханьне. Родзіць мадрына добра. Вышынёю 22-27 мэтраў.

*Вэймутава хвоя* (Pinus strobus L.). Налічваецца ў парку 10 экзэмпляраў. Растуць у дрэвастане ліставых парод пры паўнаце 1,0. Рост вельмі ўдалы, аб чым сьведчыць велічыня шышак—17 см. заместа звычайнае для гэтае пароды (у Амэрыцы)—12-15 см. У двох старэйшых экзэмпляраў таўшчыня на вышыні грудзей блізка 53 сантымэтры. Вышыня—25 мэтраў. Узрост—каля 60 гадоў. Родзяць добра.

*Туя* (Thuja occidentalis L.). Усяго 9 экзэмпляряў, з іх 6 растуць гуртком ля прагаліны. Ёсьць экзэмпляры, што мала ніжэй дрэў І-е велічыні. Найбольшы экзэмпляр мае таўшчыню ствала на вышыні грудзей бл. 35 см. Апошняе для Беларусі, здаецца, рэдкае зьявішча.

*Ялавец* (Juniperus communis L.). Цікавы тым, што яго магчыма налічыць у парку да $1^1/_2$ дзясятка экзэмпляраў, як дрэва 3-е велічыні, пры 27 см. у дыямэтры на вышыні грудзей. Зьяўляецца прысадаю пры паркавых дарожках.

З іглястых парод у парку ашчэ растуць—хвоя звычайная (Pinus silvestris L.), елка шызая (Picea pungens Engelm) і елка звычайная (Picea excelsa Lk.). Апошняя расьце ўдала; экзэмпляры ў 70-75 см. таўшчынёю—зьява нярэдкая.

## Ліставыя пароды.

*Морва* (Morus alba L.). Чатыры экзэмпляры. Рост ня зусім добры. Ствалы і галіны заімшэлыя. На адным экзэмпляры, даволі буйным і, як відаць, ужо старым і ўсыхаючым, зрэдку трапляюцца плады, дасьпяваньне якіх прыпадае на пачатак жніўня. Плады Станькаўскае морвы больш дробныя, чымся ў морвы крымскіх садоў.

*Каштан праўдзівы* (Castanea vesca Pärtn). Расьце невялічкім згуртаваньнем з некалькіх ствалоў, як-бы ад аднаго кораню. Кожны ствол магчыма назваць дрэвам 2-е велічыні. Пладаваньне даволі добрае. Плады трохі меншыя ад звычайных каштаноў. Ступень іх дасьпяваньня ня было магчымасьці прасачыць. Лісьце з каштанавых дрэў асыпаецца каля 25 верасьня (у 1926 г.).

*Каштан звычайны* (Alsculus Hippocastanum). Цікава, што ён расьце ў паркавым дрэвастане чыста ляснога характару, складаючы сабою значную дамешку і набываючы пэўныя біолёгічныя асаблівасьці. Каштанавыя дрэвы ў адзначаным дрэвастане зусім зьмянілі агульнавядомы характар свае кароны. Ствалы іх простыя ўносістыя, агалілся ад сучча. Пладаваньне зусім аслабленае дзеля таго, што ўся сіла ідзе на рост дрэва, на тое, каб ня выйсьці са складу сумежных пануючых парод.

*Арэх валоскі* (Juglans regia L.) Рост вельмі ўдалы. Раскошнае лісьце і галінаваньне. Пладоў зусім мала, але-ж яны зусім нормальнае велічыні. Дрэва 2-е велічыні; таўшчыня каля 27 см. Два экзэмпляры.

*Ліпа буйналісная* (Tilia grandifolia Ehrh). Адзін непаглядны экзэмпляр гэтае паўднёвае пароды расьце з краю ля пляцу. Кідаецца ў вочы велічынёю сваіх лістоў. Вышыня гэтага экзэмпляру каля 4 мэтраў, таўшчыня 14 см. Абломваньне гальля перашкаджае нормальнаму росту. Мае пакрыўджаны выгляд. Затое *ліпа дробналісная* (Tilia parvifolia L.) займае віднае месца ў пануючым складзе паркавага дрэвастану.

*Кляновыя* (Aceraceae Д. С.) складаюць сабою цікавы і каштоўны для вывучэньня падбор розных відаў гэтае сям'і. *Клён звычайны* (Acer platanoides L.), як і ўсюды на Беларусі, мае раскошны рост у паркавым дрэвастане і па алеях. Таўшчыня паркавых кляноў перавышае 44 см.

*Явар* (Acer pseudoplatanus L.)—даволі рэдкае на Беларусі дрэва. Звычайна явар расьце ў краінах, што на поўдзень і на паўднёвы захад ад Беларусі. Але-ж, як відаць, кліматычныя ўмовы Беларусі зусім спрыяюць росту гэтае паўднёвае пароды, як і шмат якім іншым паўднёвым пародам. Дрэва выдатнага росту і хараства. Ёсьць экзэмпляры, што растуць у густым паркавым дрэвастане і ўбаку ад яго. Калі ў першым выпадку экзэмпляр аднаствольны, праўда, з раньнім галінаваньнем, дык у другім выпадку явар многаствольны—з 13 ствaламі ад аднаго кораню.

*Клён палявы* (A. campestre L). Здаецца, толькі адзін экзэмпляр. Расьце з краю. Дрэва 2-е велічыні. Рост добры. Крона шырокая. Ствол падобны на ігрушавы. Пладаваньне багатае.

*Клён татарскі* (Acer tataricum). Таксама адзін экзэмпляр. Дрэўца 3-е велічыні. Лісьце і плады вельмі дробныя.

Апрача названых відаў клёну ёсьць яшчэ цікавыя адменнасьці некаторых відаў па ахварбоўцы лісьця і інш.

*Таполевыя* (Populus L.). Таксама ў парку зьяўляюць сабою цікавы падбор. Апроч *звычайнае асіны* (Populus tremula L.) тут ёсьць магутныя *ясакары* (Populus nigra L.), белыя таполі (P. alba L.), таўшчынёю да 80 см. з цэлым зарасьнікам срэбналіснае памаладзі і адзінкамі трапляецца *таполя пірамідальная* (P. piramidalis).

*Вязовыя* (Ulmaceae) у парку складаюць салідную дамешку. Прадстаўнікі гэтае сям'і—*вяз* (Ulmus effusa Wild), бераст (Ulmus suberosa

Ehrh. L.) і лём (Ulmus montana Sm, Ulmus campestris L.) маюць вельмі ўдалы рост. Ёсьць лёмы, таўшчыня якіх дасягае 110 см. ў дыямэтры на вышыні грудзей (суседняя Станькаўская дача).

Пара дэкарацыйных вязаў ля палацу надзвычайна арыгінальны— ствол угары значна таўсьцей, чымся ўдоле.

*Ясены* (Fraxinus excelsior L. і інш.) раскіданы па ўсім парку, упрыгожваюць паркавы дрэвастан і алеі; рост удалы; ёсьць таксама цікавыя дэкарацыйныя экзэмпляры.

З дрэўных парод першае велічыні ў парку ёсьць:

1) Граб (Carpinus betulus L,), як адна з асноўных парод дрэвастану ў першым паверсе (ярусе) і ў памаладзі; трапляецца і чыстымі пляцоўкамі.

2) Вольха (Alnus glutinosa Gärtn.), таксама як галоўная парода ля возера і па абодвых астраўкох.

3) Дуб раньні (Quercus pedunculata Ehrh.) і дуб позьні (Q. sessili flora Sm.)—складаюць нязначную дамешку па ўсім парку;

4) Бяроза гузаватая (Betula verrucosa Ehrh) і 5) вярба звычайная (Salix alba L.)—трапляюцца адзінкамі.

## Пароды 2-е і 3-е велічыні і кусты.

З парод 2-е і 3-е велічыні і з кустовых, апроч некаторых з спамянутых раней, магчыма адзначыць надзвычайна багатае згуртаваньне розных прадстаўнікоў, якія складаюць падлесак, або асобныя прысады а імена: робінія, ці белая акацыя (Robinia pseudoakacia L.), карагана, ці жоўтая акацыя (Caragana arborescens Lam.), чарэмха, ці калакалуха (Prunus Padus L.), рабіна звычайная (Sorbus aucuparia L.), ляшчына (Corylus avellana L.), язьмін (Jasminum fruticanum), бэз (Syringa vulgaris), бузіна чырвоная (Sambucus racemosa L.), бузіна чорная (S. nigra L.), брызьліна гузаватая (Evonymus verrucosus Scop.), брызьліна эўропейская (E. europaeus L.), бружмень (Lonicera), крушына звычайная (Rhàmnus cathartica), крушына ломкая (Rh. frangula L.), каліна звычайная (Viburnum Opulus L.), *каліна чорная* (V. lantana L.)—паўднёвая расьліна, біручына (Ligustrum vulgare L.), воўча ягада (Daphne messereum), *глог калючы* (Crataegus oxyacanta L.)—ёсьць дрэвавідныя экзэмпляры, што ўласьціва толькі для паўднёвых краін, барбарыс (Berberis vulgaris), зяновец (Citisùs biflorus L'Herit), сьвідзіна, лаза, парэчкі (Bibes rubrum), шыпшына (Rosa canina), цярніна (Prunus Spinosa), яблыня звычайная (Pirus malus), і іншыя. Каля дзесяці відаў розных чужаземных кустовых і дрэўных расьлін, раскіданых адзінкамі па арпку, з прычыны кароткага азнаямленьня з паркам мне не давялося азначыць.

## Каштоўнасьць старых паркаў.

Пералічанага, мне здаецца, ужо даволі, каб названы парк лічыць, як цікавы батанічны сад наогул, а калі спомніць тое, што ён мае ўсе адзнакі ляснога дрэвастану, то, як цікавы лясны вучастак, які мог-бы зрабіцца каштоўным дасьледчым об'ектам. Тут на старых экзэмплярах можна сачыць за посьпехам акліматызацыі чужаземных расьлін; можна паставіць досьледы на розныя цікавыя пароды для вывучэньня іх росту, пладаваньня пры тых ці іншых асаблівасьцях дрэвастану.

Гэты парк, як і падобныя да яго іншыя, а іх напэўна на Беларусі ня мала, павінен набыць важнае навучальнае значэньне для школ

(экскурсіі ў прыроду) і краязнаўчае значэньне для мясцовае краязнаўчае організацыі. Краязнаўчае значэньне яго крыецца і ў тым, што багатае згуртаваньне парод,—лём, дуб, парэчкі, яблыня, бэз, каштан праўдзівы, каштан звычайны, чарэмха, зяновец, глог, бузіна чорная, шыпшына, робінія (акацыя белая) і іншыя даюць магчымасьць весьці амаль што поўныя фэнолёгічныя назіраньні нават па міжнароднай програме*), ня кажучы аб тым, што ў парку ёсьць і самы багаты падбор расьлін для ўсесаюзнае мінімальнае програмы фэнолёгічных назіраньняў.

Надаючы важнае навуковае і навучальнае значэньне падобным „ботанічным вучасткам“, як Станькаўскі парк, і ведаючы, што яны без дагляду рызыкуюць быць сапсованымі, або нават зьнішчанымі, ня даўшы жаднае карысьці,—было-б зусім мэтазгодна, каб шляхам корэспондэнцый з раённых таварыстваў краязнаўства была выяўлена сетка такіх каштоўных об‘ектаў беларускае прыроды і каб яны зараз-жа браліся пад ахову бліжэйшых краязнаўчых організацый.

---

*) Апублікавана ў кнізе Д. О. Сьвяцкага „Фенология в краяведческой роботе“, выданьне Брокгауз-Ефрон.

# Інструкцыі, анкеты і програмы.

## Статуты краязнаўчых організацый.

Даўно насьпеўшая неабходнасьць мець статуты для краязнаўчых організацый, з аднаго боку, і організацыйны досьлед беларускага краязнаўства за апошнія гады—з другога, выклікалі і далі мажлівасьць укладаньня прыкладных статутаў для паасобных організацый. Новымі статутамі зьяўляюцца ніжэйзьмешчаны статут гуртка краязнаўства і статуты гурткоў і таварыства краязнаўства ў розных тыпах школ. Пакольکі ранейшыя статуты раённага і акруговага таварыстваў у вапошні час часта зусім супярэчылі іх сучаснай організацыйнай практыцы і ўзаемасувязі, яны таксама перапрацаваны згодна з цяперашнімі ўмовамі. На аснове пастановы ЦБК ад 15 сьнежня 1926 г. ўсе краязнаўчыя організацыі павінны перайсьці на новыя статуты і зарэгістраваць апошнія ў Раённых і Акруговых Выканаўчых Камітэтах не пазьней 1 красавіка 1927 г., а краязнаўчыя організацыі ва ўсіх тыпах школ і тэхнікумах—зарэгістравацца ў раённых і акруговых таварыствах краязнаўства; таварыствы ў вышэйшай школе—ЦБК да таго-ж тэрміну. Для рэгістрацыі ўжо існуючай па старым статуце, або новай організацыі ў Раённым ці Акруговым Выканаўчым Камітэце неабходна прадставіць падпісаны адпаведным лікам заснаваўцаў статут у трох экзэмплярах, сьпіс заснаваўцаў таксама ў трох экзэмплярах за наступнымі графамі:

1) Чарговыя №№. 2) Прозвішча, імя, па бацьку. 3) Адрэс. 4) Узрост. 5) Месца службы і пасада. 6) Пахаджэньне. 7) Партыйнасьць. 8) Чым займаўся да рэволюцыі 1917 году? 9) Чым займаўся з лютага да кастрычніка 1917 году? 10) Чым займаўся пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі? 11) Судзімасьць. 12) Ці мае ўласнасьць? 13) Уласны подпіс. 14) Увага. Так сама трэба прадставіць весткі аб складзе праўленьня і рэвізійнай камісіі організацыі з протоколам організацыйнага сходу. Статут організацыі зацьвярджаецца і рэгіструецца на аснове пастановы Прэзыдыуму ЦВК БССР за 1922 г. арт. 164 аб парадку зацьверджаньня і рэгістрацыі таварыстваў і саюзаў, якія ня маюць сваею мэтаю здабытак матар'яльнага характару і аб парадку нагляду за імі. Аб зарэгістраваньні статуту павінна быць паведамлена вышэйстаячая краязнаўчая організацыя ці ўстанова (ЦБК). Для абраньня новых членаў організацыі неабходна мець запоўненую наступную анкету:

### АНКЕТА

*для ўступленьня ў краязнаўчую організацыю.*

1) Прозвішча. 2) Імя. 3) Па бацьку. 4) Адрэс. 5) Узрост. 6) Месца службы і пасада. 7) Пахаджэньне. 8) Партыйнасьць. 9) Чым займаўся да рэволюцыі 1917 г. 10) Чым займаўся з лютага да кастрычніка 1917 г.? 11) Чым займаўся пасьля кастрычнікавай рэволюцыі. 12) Судзімасьць. 13) Ці мае ўласнасьць? 14) Асьветны цэнз. 15) Нацыянальнасьць.

16) У якім профсаюзе і № білету. 17) З якога часу займаецца краязнаўствам? 18) Ці піша ў газэты і часопісы аб краязнаўстве? 19) Ці мае друкаваныя працы? 20) У якой галіне мае намер працаваць? 21) Што можа зрабіць для організацыі ў бліжэйшы час? 22) Дата. 23) Подпіс.

Адначасна павінна быць пададзена пісьмовая заява з адзнакаю, што заяўнік з статутам знаёмы, як напр.: „У Праўленьне Каменскага Гуртка (Таварыства) Краязнаўства. Мікалая Юравіча Плашкі заява. Прашу прыняць мяне ў склад членаў Гуртка (Таварыства), з статутам якога знаёмы. Дадаю пры гэтым запоўненую анкету. М. Плашка. 15 сьнежня 1926 г.“.

Статуты раённага і акруговага таварystваў будуць надрукаваны ў № 1 (студзень) часопісу за 1927 г., а гуртка краязнаўства ў 7-летцы, школе сялянскай моладзі і д. т. п., гуртка краязнаўства тэхнікуму, агульна-адукацыйных курсаў і д. т. п. і таварыства краязнаўства ў вышэйшай школе—у № 2 (люты) за 1927 г.

Зацьвярджаецца як нормальны (прыкладны) Зам. Наркамунспраў **Кроль**. Менск, 20 сьнежня 1925 г. № 15315.

## СТАТУТ

.........................................

## Гуртка Краязнаўства.

### І. Мэты і задачы гуртка.

§ 1. ......................... Гурток Краязнаўства мае мэтай:

а) усебаковае вывучэньне і дасьледваньне сваей тэрыторыі ў прыродна-географічным, грамадзка-экономічным і культурна-гістарычным стасунках у межах ..........................................................
(назва вёскі, мястэчка, сельсавету)

б) пашырэньне ведаў, зьвязаных з вывучэньнем свае тэрыторыі;

в) абуджэньне зацікаўленасьці да краязнаўства сярод шырокіх колаў грамадзянства.

§ 2. Для ажыцьцяўленьня паказаных ў § 1 заданьняў гурток:

а) організуе сходы, на якіх заслухоўвае і абгаварвае даклады аб спосабах дасьледваньня і вывучэньня сваей тэрыторыі, а таксама і выніках яго;

б) організуе публічныя лекцыі, вечарыны, дыспуты і д. т. п.;

в) організуе нагляданьні, зьбіраньне колекцый і матар‘ялаў і экскурсіі;

г) дапамагае організацыі раённага краязнаўчага музэю, сталых і пэрыодычных раённых выставак і іншых дапаможных устаноў раённага таварыства краязнаўства;

д) зьбірае бібліотэчку адпаведна сваім заданьням;

е) клапаціцца аб апублікаваньні сваіх прац, альбо навуковай апрацоўцы сваіх матар‘ялаў;

ж) ў сваёй дзейнасьці падлягае агульнаму кіраўніцтву праўленьня раённага таварыства краязнаўства;

з) выконвае пастановы ўсебеларускіх краязнаўчых зьездаў.

*Увага:* Паказаныя ў § 2 правы гурток ажыцьцяўляе на падставе і ў межах адпаведных законапалажэньняў.

### II. Склад гуртка.

§ 3. Членам гуртка можа быць кожны грамадзянін не маладзей 15 год і не пазбаўлены выбарчага права, які згодзен з статутам гуртка, жадае працаваць па ажыцьцяўленьні яго заданьняў, падаў аб гэтым заяву ў праўленьне гуртка і прыняты агульным сходам членаў гуртка,

прычым першымі членамі гуртка зьяўляюцца члены заснаваўцы ў ліку ня менш 5 асоб.

§ 4. Кожны член гуртка павінен весьці актыўную працу па выкананьні пастаўленых гуртком заданьняў і ажыцьцяўляць усе пастановы агульнага сходу і праўленьня.

§ 5. Кожны член гуртка зьяўляецца членам раённага таварыства краязнаўства.

§ 6. Сьпіс членаў гуртка ў 2 экз. дастаўляецца ў РВК, у якім гурток зарэгістраваны.

§ 7. Член гуртка можа быць выключаны са складу гуртка па сваёй уласнай заяве аб гэтым, або толькі па пастанове агульнага сходу, прычым прычынай выключэньня ў гэтым выпадку можа быць учынак крымінальнага характару, альбо такі, які падрывае аўторытэт гуртка.

*Увага:* Выключэньне са складу гуртка зацьвярджаецца раённай краязнаўчай конфэрэнцыяй.

## III. Сродкі ґуртка.

§ 8. Сродкі гуртка складаюцца:

а) з членскіх узносаў і ахвяраваньняў;

б) з субсыдый дзяржаўных і грамадзкіх устаноў аднаразовых альбо пастаянных;

в) з прыбыткаў ад продажы краязнаўчых выданьняў;

г) са збору за ўваход на лекцыі, выстаўкі, вечарыны і г. д.

*Увага 1.* Велічыня членскіх узносаў вызначаецца раённай краязнаўчай конфэрэнцыяй, прычым агульны сход гуртка можа звальняць ад выплаты членскіх узносаў тых членаў, якія ня могуць заплаціць іх.

*Увага 2.* Члены гуртка, якія не заплацілі ў свой час вызначаных членскіх узносаў, лічацца выбыўшымі з ліку членаў гуртка. Але яны зноў уваходзяць у гурток пасьля ўнясеньня належных узносаў бяз новага абраньня.

*Увага 3.* Усе сродкі застаюцца ў гуртку, апрача часткі членскіх узносаў—ня вышэй 10% іх, якія перадаюцца раённаму таварыству краязнаўства.

§ 9. Сродкі гуртка расходуюцца праўленьнем гуртка. Справаздачы аб выдатках, разгледжаныя і зацьверджаныя агульным сходам гуртка, передаюцца ў тую ўстанову, з якой атрыманы грошы, а копія іх захоўваецца ў справах гуртка.

## IV. Агульны сход.

§ 10. Агульны сход гуртка зьбіраецца ня менш як адзін раз у 2 месяцы. Сходы гуртка склікаюцца праўленьнем з папярэднім паведамленьнем бліжэйшага сельсавету за 3 дні да сходу. Справы на агульным сходзе вырашаюцца простаю большасьцю галасоў.

§ 11. Агульны сход:

а) прыймае новых членаў гуртка;

б) выбірае сяброў праўленьня і рэвізійнай камісіі;

в) зацьвярджае плян працы, узгоднены з праўленьнем раённага таварыства краязнаўства;

г) заслухоўвае справаздачу;

д) заслухоўвае даклады адпаведна сваім мэтам і заданьням;

е) зацьвярджае грашовыя выдаткі і пастановы рэвізійнай камісіі;

ж) абгаварвае проекты аб зьменах у статуце.

§ 12. Агульны сход лічыцца правамоцным, калі прысутнічае ня менш 1/3 членаў гуртка.

## V. Праўленьне гуртка.

§ 13. Праўленьне гуртка абіраецца агульным сходам гуртка тэрмінам на адзін год у ліку 3 асоб і 1 кандыдата, якія са свайго складу вылучаюць старшыню, намесьніка (ён-жа скарбнік) і сакратара.

*Увага 1.* Перавыбары ў праўленьне могуць быць зроблены і раней вызначанага тэрміну.

*Увага 2.* Аб складзе праўленьня і аб усіх зьменах у ім паведамляецца Раённы Выканаўчы Камітэт.

§ 14. Праўленьне гуртка:

а) кіруе дзейнасьцю гуртка і яго членаў;

б) дае спраўкі і тлумачэньні па пытаньнях краязнаўства і вывучэньня сваёй тэрыторыі;

в) дапамагае членам гуртка ў іх працы;

г) рэдагуе лістоўкі, альбо часопісы і інш. матар'ялы краязнаўчага зьместу, калі такія будуць выдавацца гуртком;

д) захоўвае краязнаўчыя матар'ялы альбо перадае для апрацоўкі;

е) робіць справаздачу аб сваёй дзейнасьці агульнаму сходу;

ж) вядзе сьпіс сяброў гуртка з адзнакаю дзейнасьці кожнага;

з) прадстаўляе гурток ва ўсіх яго справах;

і) вядзе ад імя гуртка перапіску;

к) ажыцьцяўляе пастановы агульнага сходу;

л) сочыць за выкананьнем ускладзеных на членаў гуртка абавязкаў;

м) зьбірае і выдае грашовыя сродкі гуртка ў вызначаным агульным сходам кірунку;

н) нясе адказнасьць за кірунак і вынікі працы гуртка.

## VI. Рэвізійная камісія.

§ 15. Рэвізійная камісія абіраецца агульным сходам гуртка ў ліку 3-х асоб адначасна з абраньнем праўленьня.

§ 16. Рэвізійная камісія сочыць за выкананьнем ускладзеных на праўленьне абявязкаў, за правільнасьцю выдатку грашовых сродкаў, разьбірае скаргі на дзейнасьць праўленьня і справаздачу аб сваёй працы дае агульнаму сходу гуртка.

## VII. Ліквідацыя гуртка.

§ 17. Гурток можа быць ліквідаваны як загадам урадавых установаў, так і пастановай раённай краязнаўчай конфэрэнцыі або агульнага сходу самога гуртка.

§ 18. У выпадку ліквідацыі гуртка праўленьне прадстаўляе аб гэтым даклад праўленьню раённага таварыства краязнаўства. Уся маемасьць гуртка паступае пад загад раённага таварыства краязнаўства.

*Увага да статуту:*

У выпадку, калі раённае таварыства краязнаўства не функцыянуе, да часу адчыненьня яго п. ж.) § 2 і § 18 адносіцца да акруговага таварыства краязнаўства; п. г.) § 2, § 5, увага да § 7, увага 3-я да § 8 і п. в.) § 11 застаюцца нядзейнымі; увага 1-я да § 8 падлягае вырашэньню агульнага сходу; у § 17 сказанае: „так і пастановай раённай краязнаўчай конфэрэнцыі“ застаецца нядзейным.

Заснаваўцы:

---

# Аб укладаньні Беларускага Географічнага Слоўніка.

Пачынаючы вывучэньне свайго краю, кожная краязнаўчая організацыя, кожны аматар-краязнаўства, кожны настаўнік, які распрацоўвае з вучнямі розныя краязнаўчыя пытаньні, павінны пазнаёміцца з тымі матар‘яламі, якія аб даным краі, аб данай вёсцы, ці яшчэ аб якім географічным об‘екце ўжо ведамы. Іначай нашыя краязнаўцы ня будуць застрахаваны ад правядзеньня ўжо праробленай працы і наагул ня здолеюць орыентавацца ў тым багатым неапрацаваным матар‘яле, які іх абкружае.

Дагэтуль галоўнымі крыніцамі ведаў аб асобных географічных об‘ектах Беларусі зьяўляюцца том IX „Россіи“ В. П. Семенова і польскі „Słownik Geograficzny“. Ідучы насустрач патрэбам краязнаўчых організацый, ЦБК разаслала ўва ўсе раённыя таварыствы першую з гэтых кніг. Што-ж датычыць другой кнігі, дык яна зьяўляецца бібліографічнай рэдкасьцю і можа лічыцца зусім недаступнаю масавым краязнаўчым працаўніком. Але нават „Słownik Geograficzny“ вельмі ўстарэў і не здавальняе сучасных краязнаўцаў. Больш за усё там гаворыцца пра тых паноў, што ў розныя часы ўладалі тым ці іншым пунктам, а сучаснае экономічнае значэньне, скажам, мястэчак або гарадоў, зусім не разгледжана ды і не магло быць разгледжана, бо слоўнік складаўся ў мінулым стагодзьдзі. „Россія“ Семенова так сама ўжо страціла на 50% сваё значэньне, бо апісаньні цэркваў, зьмешчаныя там у аддзеле III, цяпер нікога ня цікавяць.

Прымаючы гэта пад увагу, Географічная Камісія Інстытуту Беларускае Культуры распачала працу па ўкладаньні „Беларускага Географічнага Слоўніка“. У гэты слоўнік павінны ўвайсьці па магчымасьці ўсе географічныя назвы Беларусі.

Такі слоўнік будзе мець надзвычайна вялікае значэньне для беларускай навукі. Паводле даных аб пашырэньні тых ці іншых назваў зробяць цэлы шэраг вывадаў нашыя гісторыкі, этнографы і лінгвістыя. З другога боку, географічны слоўнік будзе мець вялікае практычнае значэньне, як настольная даведачная кніга для ўстаноў нашай Рэспублікі.

Правільны запіс назваў зьяўляецца вельмі важным і ў сувязі з улажэньнем дакладнай карты БССР, над якой працуе ў сучасны момант Савет Нар. Гасп. Беларусі.

У слоўнік павінны ўвайсьці назвы ўсіх географічных краін, назвы гор, узгор‘яў і нізін, рэк, парогаў, азёр, балот, тарфавішчаў, пакладаў карысных выкапняў, назвы лясных масываў і дач, лясьніцтваў, запаведнікаў, пушч, урочышч, паселішч, валасьцей, паветаў, губэрняй і іншых географічных об‘ектаў.

Асабліва вялікую працу прыдзецца прарабіць пры зьбіраньні поўнага сьпісу назваў усіх урочышч, лік якіх па ўсёй БССР, можа быць, дасягае 150.000.

З другога боку, цяжкім пытаньнем зьяўляецца правапіс назваў, бо ў друкаваных і пісаных матар‘ялах, якімі можна карыстацца пры ўкладаньні слоўніка, не паказаны націскі над кожнай назвай, а часта назвы страшэнна пераблытаны.

Назвы павінны быць запісаны з слоў мясцовых людзей, лепш за ўсё з слоў мясцовых старажылаў, на мове якіх не адбіліся ўплывы школы і карт.

Разумеецца, што правесьці зьбіраньне правільных мясцовых назваў магчыма толькі за дапамогай шырокіх колаў беларускай працоўнай інтэлігенцыі і ў першую чаргу з дапамогай настаўніцтва, якое разам з вучнямі можа сабраць мясцовыя назвы ўсіх урочышч у межах свайго сельсавету.

З гэтай прычыны Географічная Камісія Інбелкульту зьвяртаецца да ўсіх краязнаўцаў з просьбай запісаць і прыслаць у Інбелкульт (Менск, Рэволюцыйная, 21) мясцовыя географічныя назвы таго сельсавету, у якім яны жывуць, *абавязкова адзначыўшы націскі над кожнай назвай.*

*У першую чаргу просім скласьці* сьпіс паселішч (усіх вёсак, фольваркаў, хутароў і г. д.), адзначыўшы іх адлегласьць у кілёмэтрах (ці вёрстах) ад бліжэйшага мястэчка, а таксама кірунак, у якім трэба ехаць з гэтага мястэчка, каб трапіць у данае паселішча. Кірунак адзначаць так: Пн (поўнач), Пд (поўдзень), У (усход), З (захад), Пн-З (паўночны-заход), Пн-У, Пд-З, Пд-У і нават—Пд-Пд-У (паўднёва-паўднёвы-ўсход), Пд-У-У (паўднёва-ўсходні-ўсход), Пд-З-З, Пд-Пд-З, Пн-Пн-У, Пн-У-У, Пн-Пн-З, Пн-З-З, як гэта паказана на малюнку:




Калі паселішча мае дзьве або некалькі назваў, дык другую і іншыя назвы трэба паставіць у дужках пасьля галоўнай.

Калі народ так ці іначай тлумачыць назву паселішча, або мае якія апавяданьні, зьвязаныя з гэтым паселішчам, дык вельмі пажадана запісаць у падрадковай увазе гэтыя тлумачэньні ды апавяданьні ці легенды.

У другую чаргу трэба скласьці ў альфабэтным парадку і выслаць у Інбелкульт сьпіс усіх урочышчаў і іншых географічных об‘ектаў сельсавету, абвязкова адзначыўшы *націск* над кожнай назвай, а таксама адзначыўшы, дзе, гэта значыць на зямлі якой вёскі, якой савецкай гаспадаркі ці якой лясной дачы, ляжыць даны об‘ект, а таксама адзначыўшы які характар расьліннасьці мае ўрочышча (поле, сухі бор, дубняк, мурожны луг, балотны поплаў, імховае балота і г. д.).

Пажаданы таксама, калі яны ёсьць, тлумачэньні назваў і легенды, зьвязаныя з кожным урочышчам ці якім яшчэ об‘ектам. Пры кожным сьпісе зьверху трэба адзначыць назву сельсавету, раёну і акругі, а зьнізу—прозьвішча і адрэс укладальніка сьпісу.

Прымаючы пад увагу надзвычайную навуковую і грамадзка іх практычную важнасьць гэтай працы, Географічная Камісія спадзяецца, што мясцовыя краязнаўцы з свайго боку зробяць усё ад іх залежнае, каб паказаныя сьпісы былі складзены ў магчыма карацейшы час і хутка перасланы ў Інбелкульт.

СЬПІС ПАСЕЛІШЧАЎ.

Сельсавет Лучыцкі, Раён Асіпавіцкі, Акруга Бабруйская.

| Чарговы нумар | НАЗВЫ ПАСЕЛІШЧАЎ | Род паселішчаў (вёска, засьценак, сяло, хутар, мястэчка і г. д.) | Назва бліжэйшага мястэчка | Адлегласьць ад яго ў кілёмэтрах | Кірунак, у якім ляжыць паселішча ў адносінах да мяст. | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Агулы | Засьценак | Асіпавічы | 6 | Пд-Зах. | |
| 2 | Асіпавічы | Веска | Асіпавічы | 1 | Пд-Пд-Усх. | Каля р. Сіняй. |
| 3 | Гарожа | Вёска | Асіпавічы | 11 | Пн-Усх-усх. | Мясцовыя сяляне гавораць, што назва тлумачыцца існаваньнем на месцы вёскі агароджанага гарадзішча. |
| | *І гэ* | *так да* | *лей на* | *лі* | *тары Г,* | *Д, Е, Ж,* |
| 10 | Замошша | Сяло | Асіпавічы | 4 | Усх. | Назву тлумачаць тым, што першыя насельнікі прышлі сюды з-за балот-імшар з паўдня. |
| | *І гэ* | *так да* | *лей на* | *лі* | *тары І,* | *К* |
| 15 | Ліцьвінава (Замошша-Двор) | Вёска | Асіпавічы | 5 | Усх. | Назва дадзена ў 1921 г., калі тут утварыўся сялянскі пасёлак на месцы былога двара Замошша, які належаў памешчыцы Ліцьвінавай. |
| 16 | | *І гэ* | *так* | *да* | *лей* | |

Час запаўненьня блянку ..............................

*Подпіс асобы, якая запоўніла блянк* ..............................

СЬПІС УРОЧЫШЧАЎ І ІНШЫХ ГЕОГРАФІЧНЫХ ОБ'ЕКТАЎ.

Сельсавет ........................ Раён ........................

Акруга ........................

| Чарговы нумар | НАЗВА | Род об'екту (урочышча, рака, гара ці што) | Дзе ляжыць об'ект (на зямлі якой вёскі, савецкай гаспадаркі, лясной дачы) | Характар расьліннасьці: балотны поплаў, сухі бор, дубовы лес, поле ці што. (Запоўніць толькі для ўрочышчаў) | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Асінкі . . . | Урочышча | В. Хімы | Разрэджаны асінавы лес | |
| | І гэ | так да | лей на лі | тару А | |
| 18 | Бераг-Белы . . | Урочышча | Падрэцкая лясная дача | Лярэчны поплаў | |
| | І гэ | так да | лей на лі | тару Б | |
| 29 | Віранка . . | Ручай | В. Пятровічы і Хімы | | Прытока правая рэчкі Альшанкі, што ўліваецца ў прытоку Бярозы Любонку |
| | І гэ | так да | лей на лі | тару В | |
| 39 | Гарадок . . | Урочышча | Сав. Гасп. Дварэц | Арэшнік | Урочышча пакрыта старадаўнымі валамі; сяляне гавораць, што тут бараніўся народ ад французаў у 1812 г. |
| | І гэ | так да | лей на лі | тары Д—К | |
| 80 | Ляда Мулярава . | Урочышча | В. Хімы | Поле на лядзе | |
| 81 | Ляда Чорнае . | Урочышча | В. Пятровічы | Поле | У ўроч. 25 курганоў |
| | І гэ | так да | лей на лі | тары М—Р | |
| 124 | Сінюха . . | Рэчка | Бяжыць праз в. Падрэчча на зямлі гэтай вёскі і Падрэцкай лясной дачы | | Назву тлумачаць ясна сінім колерам вады. |
| | І гэ | так да | лей на лі | тары С—Э | |
| 175 | Ясенка. . . | Урочышча | В. Падрэчча | Поле | Назву тлумачаць тым, што раней на месцы поля тут быў ясянёвы лес. У гэтым ур. у час грамадзянскай вайны 1920 г. зьбіраліся партызаны мясцовых вёсак, якія адгэтуль зайшлі ў тыл палякам 24 чэрвеня; пасьля чаго тыя павінны былі адступіць на 15 км. |

Час запаўненьня блянку ........................

*Подпіс асобы, якая запоўніла блянк* ........................

# АНКЕТА

## для абсьледваньня пытаньня аб стане аховы прыроды ў БССР.

Пра неабходнасьць аховы прыроды ў нас ужо шмат пісалася, але, на жаль, ёсьць вельмі мала дакладных вестак аб самым стане аховы, дзеля чаго ЦБК просіць усе краязнаўчыя організацыі і паасобных краязнаўцаў запоўніць ніжэйпаданую анкету і прыслаць у Цэнтральнае Бюро Краязнаўства.

1. Раён і акруга.
2. Як вядзецца справа аховы прыроды ў Вашым раёне (Вашай і іншымі організацыямі)?
3. Назавеце адрэсы асоб, зацікаўленых аховай прыроды і згодных весьці сталую перапіску з ЦБК па пытаньнях аховы прыроды Вашага раёну.
4. Ці праводзяцца гутаркі і лекцыі аб ахове прыроды?
5. Ці знаёма Ваша організацыя з літаратурай па ахове прыроды?
6. Ці ёсьць у Вас запісаныя даныя аб помніках прыроды Вашага раёну і аб зьнішчэньні лясоў ці асобных расьлін або пэўных відаў жывёл раёну?
7. Ці жывуць і ў якіх месцах (дакладна) Вашага раёну: мядзьведзі, рысі, куніцы, гарнастаі, ласі, дзікія козы, даніэлькі, дзікі, бабры, глушцы, цецярукі, рабцы, дропы, стрэпеты, дзікія гусі або яшчэ якія падобныя зьверы і птушкі?
8. Ці ёсьць у Вашым раёне месцы, якія заслугоўваюць быць заказьнікамі і чаму?

   Адзначце дакладна іх адрэс, палажэньне, прастору і межы.
9. Як выконваюцца законы паляваньня і лясныя законы? Як адносіцца да гэтых законаў мясцовая люднасьць?
10. Якія меры прымаюць паляўнічыя організацыі да аховы дзічыны?
11. Якія спосабы пропаганды аховы прыроды Вы лічыце найболей выгаднымі ў Вашым раёне?
12. Якія спосабы аховы прыроды з Вашага погляду магчымы ў Вашым раёне?

---

# ХРОНІКА.

## ПАСТАНОВА

**Бюро ЦК ЛКСМБ па дакладу т. Казака („Праца Комсамолу ў краязнаўчых арганізацыях").**

1. Заслухаўшы даклад т. Казака Бюро ЦК констатуе:

а) што ўдзел мясцовых арганізацый ЛКСМБ у працы краязнаўчых арганізацый усё яшчэ слабы;

б) што колькасьць комсамольскай рабочай і сялянскай моладзі, уцягнутай у працу краязнаўчых арганізацый пакуль што нязначна.

2. Прымаючы пад увагу вялікае значэньне краязнаўства ў справе падняцьця культуры, гаспадаркі, вытворчасьці і наагул у социялістычным будаўніцтве, а так сама ў справе школьнага выхаваньня, якое, згодна навейшых прынцыпаў пэдагогікі, павінна грунтавацца на краязнаўстве, Бюро ЦК лічыць неабходным:

1. Прапанаваць акруговым камітэтам ЛКСМБ забясьпечыць актыўны ўдзел у працы акруговых і раённых кіраўніцтваў краязнаўчых арганізацый шляхам вылучэньня адпаведных прадстаўнікоў камітэтаў.

2. Прыняць мерапрыемствы да популярызацыі сярод комсамольцаў, рабочай і сялянскай моладзі мэтаў і задач краязнаўчых арганізацый шляхам: а) больш сыстэматычнага шырокага высьвятленьня ў цэнтральным і мясцовым комсамольскім друку, б) уключэньня адпаведных пытаньняў ў пляны клюбна-масавай працы ў горадзе і вёсцы, прыцягваючы да тэтага сілы з краязнаўчых арганізацый, в) распаўсюджваньня краязнаўчай літаратуры (часопіс „Наш. Край" і інш.).

3. Прыняць меры да больш шырокага прыцягненьня ў гурткі краязнаўства моладзі — рабочай і сялянскай, у першую чаргу комсамольцаў, якія цікавяцца краязнаўчай працай.

4. Уцягваньне комсамольцаў у працу гурткоў, іх актыўны ўдзел у працы апошніх (зьбіраньне матар'ялаў па анкетах ува ўсіх галінах краязнаўства і асабліва ў галіне вывучэньня гаспадаркі, вытворчых сіл сваёй мясцовасьці) павінны яшчэ больш узмацніць пролетарскі ўплыў у краязнаўчых арганізацыях і паслужыць гарантыяй супроць пранікненьня дробна-буржуазных ухілаў у працы краязнаўчых арганізацый варожных партыі і Савецкай уладзе элемэнтаў.

5. Асаблівая ўвага акруговых і раённых камітэтаў павінна быць зьвернута на ўзмацненьне ўдзелу ячэек у працы мясцовых краязнаўчых арганізацый.

6. Належыць таксама забясьпечыць актыўны ўдзел мясцовых арганізацый ЛКСМБ у працы нацсэкцый (яўрэйскіх), і польскіх якія організуюцца пры кіраўніцтвах краязнаўчых арганізацый.

7. Даючы вышэйпаказаныя дырэктывы, Бюро ЦК ЛКСМБ прапануе акруговым камітэтам выслаць у ЦК матар'ялы аб праробленай працы ў краязнаўчых організацыях.

8. Бюро ЦК даручае ЦБ Юных Піонэраў распрацаваць конкрэтныя паказаньні мясцовым піонэрорганізацыям аб іх удзеле і дапамозе ў працы краязнаўчых арганізацый

## Праца па абсьледваньні Асіпавіцкага раёну ў летні пэрыод 1926 году.

Больш поўгоду прайшло з таго часу, як ЦБК сваёй пастановай парашыла распачаць працу па вывучэньні Асіпавіцкага раёну для выданьня ўзорнага апісаньня раёну. Думалі праводзіць працу навуковымі сіламі ЦБК і мясцовымі сіламі Асіпавіцкага раённага краязнаўчага т-ва.

Пытаньне аб вывучэньні Асіпавіцкага раёну было пастаўлена на настаўніцкай конфэрэнцыі 30. V. 26 году прадстаўнікамі ЦБК Азбукіным і Казаком, якія добра высьветлілі справу. На гэтай конфэрэнцыі члены краязнаўчага т-ва выказваліся ў тым сэнсе, што справа гэта вельмі патрэбна, асабліва настаўнікам, у якіх няма ніякіх пэўных матар'ялаў, неабходных ім у іх штодзённай працы.

Праца пачалася з 1-га чэрвеня. Для вывучэньня раёну складзены плян працы—на 1 год—у 3-х разрэзах: 1) географічна-прыродазнаўчы; 2) гістарычна-мовазнаўчы і 3) экономічны — з такім разьлікам, каб у гэтым пляне былі зачэплены ўсе галіны жыцьця раёну. Увесь раён быў падзелены на часткі—па сельсаветах; усяго такіх частак 7. На кожны падраён-сельсавет быў абраны адказны працаўнік з тым, каб ён сам разьмяркоўваў тыя заданьні, якія будзе атрымліваць ад бюро т-ва, паміж рэштай сяброў-краязнаўцаў. Заданьні былі выпрацаваны на кожны м-ц, прычым прымалася пад увагу сэзоннасьць пытаньня,—з такім разьлікам, каб у кожным заданьні абавязкова быў матар'ял з усіх 3-ох галін.

Да гэтага часу было разаслана 5 заданьняў; у дадатак да іх і ў дапамогу рассылаліся і інструкцыі, програмы і пляны, якія атрымоўваліся ад ЦБ. Існуючае пры т-ве бюро, дзякуючы многім прычынам, мела магчымасьць за летні пэрыод сабрацца ўсяго 2 разы.

Прыблізна з першай паловы ліпеня пачалі пасступаць адказы на заданьні. Па сваім характары яны былі розныя: і кароткія, і доўгія, і падрабязныя (Ясеньскі сельсавет), і досыць сухія (Дзераўцы). Падалі аб сабе зьвесткі ўсе адказныя працаўнікі, за выключэньнем аднаго—Зборскага;—праўда, там былі асаблівыя ўмовы, якія прымусілі зьмяніць, адк. працаўніка; але былі і такія працаўнікі, якія разам з матар'ялам перасlалі і фотографічныя здымкі ў бюро т-ва (Лапіцкій сельсавет).

У сэнсе выкананьня заданьняў сельсаветы ідуць неаднолькава: іншыя даюць адказы ў хуткім часе (ідуць роўналежна з заданьнямі), іншыя спазьняюцца.

Апроч іншых адказаў—аб расьліннасьці, паверхні і г. д.—ёсьць 5 апісаньняў вёсак (Дзераўцы, Ясень, Лапічы, Замошша, Пратасэвічы) па розных сельсаветах; з гэтых матар'ялаў апісаньне вёскі Пратасэвіч яшчэ не адаслана ў ЦБК. Сабраны расьлінныя згуртаваньні — з берагу каналу Радуціцкага, з вусьця р. Сіняй, з палёў Лапіцкага сельсавету (гэта адаслана ў ЦБК); не прапушчана і асеньняя флёра: сабраны ў значнай колькасьці расьлінныя згуртаваньні з 3-х месц: 1) паляна сярод уроч. „Трубін" (Верайцоўскі с-с.), 2) сад пры школе вёскі Смык-Слабада (Зборскі с-с.) і 3) расьліннасьць тарфянога балота каля м. Асіпавічы—гэта яшчэ знаходзіцца ў т-ве.

На архэолёгічнай карце Асіпавіцкага раёну нанесена да гэтага часу звыш 350 курганоў, гарадзішч, могілак лясных; пры гэтым адзначаю, што на карту нанесены толькі тыя курганы, могілкі і г. д., дзе быў асабіста ўкладчык карты. Курганы

ў значнай колькасьці развораны; захавалася амаль што цэлай група курганоў у лічбе 131 на мяжы Лапіцкага і Зборскага сельсавету—там сустракаюцца, паміж іншымі, прадоўжныя курганы.

Мэтэоролёгічным даным, што знаходзяцца ў т-ве даецца графічная апрацоўка; у хуткім часе за ўвесь 1925 год яны будуць высланы дзеля навуковай апрацоўкі ў ЦБК.

Сабрана да гэтага часу прыблізна да 250 песень, прыпевак і да 200 прымет і пагаворак; ёсьць загаворы (10); зроблены 2 апісаньні вясельля ў процілеглых канцох раёну (Ясень і Верайцы); ёсьць кароткае апісаньне „улазін“. Таксама зьбіраліся словы—каля 1.500 слоў.

Бюро т-ва карысталася фотографічным апаратам—ёсьць многа здымкаў па раёне.

Дзеля ўкладаньня расьліннай карты здымаліся адбіткі з карт лясьніцтваў, і расьліннасьць наносілася на схэматычную карту раёну ў маштаб 2 в. у цалі. Глебавая карта—орыентовачная — складзена мясцовымі аґрономамі, членамі кр-га т-ва.

У вапошні час адк. працоўнікам Дзераўцоўскага сельсавету былі дастаўлены ў бюро вельмі цікавыя карты канца мінулага сталецьця, на якіх адзначаны толькі ўрочышчы Дзераўцоўскага сельсавету, напр. урочышча „Стаішча“ (цяпер в. „Стаішча“), ур. „Ясяноўка“—цяпер вёска „Ясяноўка“ і інш.

У летні час у Асіпавіцкі раён прыяжджалі навуковыя сілы Ін. Бел. Культуры. Да апошняга часу былі наступныя асобы:

3 разы наведаўся пр. Бузук (па вывучэньні дыялектолёгічных асаблівасьцяй мовы); ён быў у паўночным кутку раёну (Лапічы), у паўднёвай частцы (Карытка), у вёсках Замошша, Пратасэвічы, Смык-Слабада і інш. Апрач таго, ім пасланы ў пісьмовай форме запытаньні ў процілеглыя канцы раёну—Ясень і Цэль.

Проф. Тэрлецкі, які быў у Асіпавіцкім раёне ў першай палове верасьня, знайшоў выхады Дэвонскага вапняку ў раёне в. Стаішча; на гэту тэму ім зроблены быў даклад у чыгуначнай школе перад вучнямі старэйшых кляс і ўсімі настаўнікамі.

28/VIII быў пр. Рагавы, які прачытаў на настаўніцкіх курсах, лекцыю аб вывучэньні глебы; на вялікі жаль, гэтыя курсы не ахоплівалі ўсіх настаўнікаў раёну (з прычыны недахопу сродкаў).

Прыяжджаў для вывучэньня саматужных рамёстваў т. Рак; ён аб'езьдзіў амаль увесь раён, было зроблена шмат зарысовак.

Прайшлі па раёне з мэтай абсьледваньня гістарычных месц студэнты Шутоў і Ўлашчык.

Супрацоўнік ЦБК Аляксандраў правёў абсьледваньне мяст. Лапічы, як яўрэйскага пункту; у хуткім часе ён з гэтаю-ж мэтай прыяжджае для абсьледваньня яўрэйскага насельніцтва, іх заняткаў, быту і г. д.—у м. Асіпавічы.

Быў у раёне проф. Фралоў—па абсьледваньні зямельнай справы.

Проф. Зьбіткоўскі, які быў у пачатку верасьня, зрабіў даклад на настаўніцкай конфэрэнцыі аб зьбіраньні расьлін і іх захаваньні.

Д-рам Магілеўчыкам, які быў 29/IX г. г., былі зроблены ўказаньні па абсьледваньні санітарных і гігіенічных умоў жыцьця насельніцтва.

Сувязь з ЦБК, апроч пісьмовай, выяўлялася ў тым, што ў т-ва часта наведваліся працаўнікі ЦБК Азбукін і Казак, якія рабілі тыя ці іншыя ўказаньні.

Гэтай сувязі зусім ня было з акруговым праўленьнем. За ўвесь летні час ніхто з акр. праўленьня не прыяжджаў; нават на запытаньні і запросіны ў пісьмовай форме адказу ня было. Гэта зьявішча, на першы пагляд даволі дзіўнае, тлумачыцца тым, што ў летні пэрыод

працаўнікі акруговага праўленьня разьехаліся—была адпускная кампанія.

Сувязь з РВК добрая. Ніколі з боку РВК ня было перашкод у працы; заўсёды РВК ішоў на сустрэчу. З супрацоўнікаў РВК у т-ве працуюць агрономы, статыстык, загадчык Культаддзелу. У „Дзень ураджаю“, калі адбывалася с-г. раённая выстаўка—старшынёю РВК—ён-жа і старшыня выставачнага камітэту, было дазволена свабодна працаваць членам кр. вучн. гуртку па зьбіраньні матар'ялаў, зарысовак. На вялікі жаль, у гэтым годзе с.-г. выстаўка мала чаго дала для кр-га т-ва і ў параўнаньні з мінулым годам яна зусім не адбіла жыцьця раёну.

Ахвотна ідзе на сустрэчу чыгуначная мэтэоролёгічная станцыя.

Да апошняга часу зусім у баку ад працы стаяла чыгуначнае настаўніцтва. Дзьве спробы ўцягнуць іх у працу ня мелі ніякага посьпеху і толькі ў апошні час—27/IX—на пасяджэньні пэдколектыву чыг. настаўнікаў было пастаноўлена прыняць больш актыўны, чымся да гэтага, удзел у працы. Побач з гэтым утварыўся краязнаўчы гурток з вучняў чыг. сямігодкі, ён налічвае 23 члены. Увесь колектыў чыг. настаўніцтва ўзяў на сябе абсьледваньне м. Асіпавічы і ў дапамогу яму ў гэтым-жа кірунку будзе працаваць і вучнёўскі гурток. Паміж іншым, зараз вучнёўскі гурток праводзіць вельмі цікавую працу—у выніку працы павінен быць плян Асіпавіч, які паказвае як расьлі Асіпавічы па гадох. Кіруюць працай чыг. настаўніцтва 2 члены бюро. У гэтым-жа кірунку працуе і вучнёўскі гурток гарадзкой школы.

Ёсьць маленькая сувязь з Чыгуначным Саюзам—мацнейшым з усіх саюзаў м-ка—праз прадстаўніка ад чыгуначнікаў; але-ж да гэтага часу праца там ідзе зусім слаба. Пры чыгуначным клюбе, згодна абвестак, утвараецца краязнаўчы гурток.

У пачатку лета па краязнаўстве працавала піонэрское зьвяно „Краявед“, прымацованае да т-ва; гэта зьвяно мела сваё асобнае заданьне, 1/3 якога выканана, але-ж раптам, па невядомай прычыне, з прыездам новага старшыні райдзетбюро, спынілася.

Працавалі па вывучэньні краю і выпадковыя асобы, якія шмат зрабілі ў гэтай справе; так, у Ясеньскім сельсавеце працаваў селянін Трыбушэўскі, у Верайцоўскім—студэнт Аршанскага рабфаку—Хв. Сучака.

Цікавасьць да вывучэньня свайго краю—можа мімаволі—выказвалі і некаторыя сяляне; яны, бачачы як поўзалі на полі вучні, іх дзеці, шукаючы кузурак і расьліны, зьбіралі самі іх, давалі прыметы, песьні.

Цікавы ў той-жа час і адносіны настаўніцтва да краязнаўчай справы: ёсьць такія, што разумеюць неабходнасьць гэтага—і добра працуюць, але-ж ёсьць і такія, што кажуць: „Навошта мне тое краязнаўства? хіба мне будзе лепш, калі я буду працаваць?“. Гэтымі словамі яны характарызуюць сябе з адмоўнага боку, як настаўніка і як грамадзкага працаўніка. Праўда, гэтакіх працаўнікоў мала—3—4 на ўвесь раён.

Ужо зараз т-ва, паколькі можа, дае дапамогу і настаўніцтву і іншым працаўніком: часта да яго зварочваюцца за картамі, спраўкамі і інш.

Ёсьць у працы вялікі недахоп: няма музэю. Патрэба ў ім вялікая, бо няма дзе хаваць матар'ял; апроч таго, трэба сказаць, што музэй зьяўляецца такім-жа неабходным, як і школа, бо музэй—гэта другая школа.

Так ішла праца па вывучэньні Асіпавіцкага раёну ў летні час.

А. Немцаў.

## Год працы Горацкага раённага Т-ва Краязнаўства.

### I. Організацыйная і навуковая праца Таварыства.

За справаздачны год (з 1-XI—25 г. па 1/XI-26 г.) Т-ва правяло 7 пасяджэньняў праўленьня і 7 агульных сходаў сяброў Т-ва. На пасяджэньнях праўленьня было пастаўлена на абмеркаваньне 37 пытаньняў. На агульных сходах заслухана дакладаў: 16 навуковых, 2 інструкцыйных, 4 інформацыйных, 11 організацыйнага характару, заслуханы 1 рэфэрат, 1 справаздача аб дзейнасьці Т-ва і разгледжаны 24 бягучыя справы.

Па сваім зьмесьце навуковыя даклады былі на тэмы па зоолёгіі—11, па ботаніцы—2, па гідрогеолёгіі—1, астраноміі—1 і гісторыі—1.

Праўленьне складалася з старшыні—проф. П. Салаўёва, яго намесьніка — проф. Лунгерсгаўзена, скарбніка—проф. Васількова, сакратара т. Дзіковіча і 5 сяброў. Лік сяброў Т-ва на 1/XI усяго 70 асоб, з іх навуковых працаўнікоў 23, настаўнікаў 35, студэнтаў 9.

Організацыйная і навуковая праца Т-ва высьвятлялася ў часопісах: „Наш Край“ (№ 4-5), „Известия Центрального бюро Краеведения“ (№ 6, 1926 г.), а таксама ў газэтах „Звезда“ і „Савецкая Беларусь“.

Члены Т-ва, апрача навуковых дакладаў на агульных сходах Т-ва, сваю навуковую працу популярызавалі ў пэрыодычных выданьнях. Так, напр., проф. П. Салаўёў, проф. Лунгерсгаўзен, проф. Васількоў, С. Журык, П. Фірсаў, Н. Навіцкая, А. Савельеў, Е. Кесарава і К. Карашкоў надрукавалі каля 27 артыкулаў у часопісах „Наш Край“, „Плуг“, „Запіскі Горацкага С. Г. Інстытуту“, „Працы Навуковага Т-ва па вывучэньні Беларусі“ і іншых выданьнях.

### II. Сувязь з Савецкімі і Партыйнымі організацыямі.

Т-ва ўвесь час імкнулася мець цесную сувязь з існуючымі ў горадзе і раёне Савецкімі і Партыйнымі організацыямі, у першую чаргу з Беларускай С.-Г. Акадэміяй. Ня глядзячы на гэта імкненьне раённае Т-ва было ігноравана праўленьнем Горацкай С-Г. Акадэміі. Члены праўленьня Акадэміі ня прымалі ніякага ўдзелу ў працы Т-ва, хоць само-ж праўленьне к дню адчыненьня Акадэміі выдала лістоўку, у якой падкрэсьліла выключна важнае значэньне краязнаўчай працы для Акадэміі: (гл. артыкул „Навукова-дасьледчая праца ў Акадэміі“). Наадварот, здавалася, што праўленьне Акадэміі ўвесь час працавала ў кірунку, варожым да галоўных працаўнікоў Т-ва.

З савецкіх устаноў Горацкі Райвыканком ва ўсіх выпадках дапамагае Т-ву. Ад яго імя па сельсаветах была распаўсюджана адозва аб краязнаўчай працы і было выказана моральнае падтрыманьне сябром Т-ва, якія вялі палеонтолёгічнае дасьледваньне ў в. Ходараўцы.

З профорганізацыямі Т-ва мае сувязь. Асабліва цесная сувязь з сэкцыяй навуковых працаўнікоў, якая дае галоўны контынгент працаздольных сяброў Т-ва. Цесная сувязь ёсьць і з працаўнікамі асьветы. Т-ва разаслала пэрсональна кожнаму настаўніку пропозыцыю аб краязнаўчай працы. Трэба адзначыць, што настаўнікі адклікнуліся на гэта. На сваіх конфэрэнцыях яны, як правіла, ставяць пытаньне аб краязнаўчай працы ці ў форме інформацыі ад Т-ва, ці ў форме інструктаваньня, ці ў форме навуковага дакладу. Канечне, настаўніцтва мала працуе па краязнаўстве, прычынай чаго зьяўляецца перагружанасьць настаўніка грамадзянскай працай, але ўжо ёсьць зародкі самастойнай краязнаўчай працы настаўнікаў. Некаторымі настаўнікамі вядуцца фэнолёгічныя назіраньні, уся слоўнікавая праца вядзецца выключна настаўнікамі, імі-ж зьбіраюцца рэчы старажытнасьці, фольклёр і г. д.

Школьныя выстаўкі, якія былі наладжаны настаўнікамі, яскрава сьведчаць аб тым, што краязнаўчы падход у школьным выкладаньні пачынае моцна прывівацца.

Пераходзячы да студэнцтва, трэба адзначыць, што ўсяго 9 студэнтаў зьяўляюцца сябрамі Т-ва. Гэта складае 0,2 % агульнага ліку студэнтаў. Некаторыя з гэтых студэнтаў даюць у Т-ва матар'ялы, робяць даклады на агульных сходах. Рэшта студэнтаў яшчэ сьпіць, не праяўляе зацікаўленасьці да краязнаўчай працы.

**III. Сувязь з іншымі краязнаўчымі організацыямі.**

Горацкае раённае Т-ва мае цесную сувязь з ЦБК Беларусі, куды адсылаюцца ўсе протоколы, справаздачы, інформацыі і матар'ялы Т-ва. ЦБК заўсёды ў курсе справы адносна дзейнасьці Горацкага Т-ва. Апрача гэтага, ЦБК мае жывую і пісьмовую сувязь з Т-вам—прысылае сваіх прадстаўнікоў для азнаямленьня з працай Т-ва, высылае інструкцыі і падручнікі, перадае некаторы матар'ял для апрацоўкі (колекцыя камароў Мазырскае, Віцебскае і Бабруйскае акруг).

Т-ва мае сувязь з ЦБК РСФСР, пасылае яму фэнолёгічныя назіраньні і іншыя матар'ялы. Наладжана рэгулярная сувязь з Аршанскім Акруговым Т-вам Краязнаўства. Апрача перапіскі і пасылкі протоколаў, члены горацкага раённага Т-ва, па даручэньні Акруговага Т-ва, рабілі хімічныя аналізы вады і зямлі і выяжджалі ў іншыя раёны Аршаншчыны для абсьледваньня месц знаходжаньня мамантаў. Сярод матар'ялаў, якія друкуюцца Аршанскім Акруговым Т-вам Краязнаўства, ёсьць матар'ялы і Горацкага раённага Т-ва. За справаздачны год Горацкае раённае Т-ва прымала ўдзел ва ўсіх раённых настаўніцкіх конфэрэнцыях, у працы 1-га Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду, 2-ой Аршанскай Акруговай Краязнаўчай Конфэрэнцыі (красавік Орша), Усебеларускага Зьезду па сельска-гаспадарчай асьвеце (ліпень, Горкі); на ўсіх азначаных зьездах і конфэрэнцыях Т-ва выступала з дакладамі.

Праца Т-ва за мінулы год вялася па пляне, але па незалежных ад Т-ва прычынах плян ня быў выкананы поўнасьцю. Толькі організацыйная праца, намечаная плянам, праведзена цалкам. На будучы год праўленьнем Т-ва падабраны ўсе матар'ялы, неабходныя для апрацоўкі пляну далейшай працы. Цэнтральным пунктам новага пляну будзе стварэньне краязнаўчага музэю ў Горках.

## На Случчыне.

23 кастрычніка г. г. у Слуцку адбылася Першая Акруговая Краязнаўчая Конфэрэнцыя, якая заслухала і абмеркавала: 1) справаздачы аб дзейнасьці Слуцкага акруговага Т-ва, Грэскага і Любаньскага раённых Т-ваў і краязнаўчага гуртку пры Пагоскай сямігодцы; 2) даклад аб задачах і мэтах краязнаўчай працы і садаклад аб чарговых заданьнях акруговага Т-ва; 3) даклад аб краязнаўчай працы і школе.

Апрача гэтага, на конфэрэнцыі было абрана новае праўленьне і рэвізійная комісія акруговага Т-ва.

Згодна справаздачы Акруговага Т-ва, яно налічвае цяпер 100 сяброў, якія працуюць у сэкцыях: прыродна-географічнай, грамадзка-экономічнай, культурна-гістарычнай, яўрэйскай, польскай і падсэкцыях: музэйнай і слоўнікавай. На раёнах організавана 4 раённыя Т-вы і 5 гуртkoў краязнаўства. Яшчэ не ва ўсіх раёнах існуюць Т-вы краязнаўства.

Праца акруговага Т-ва па сэкцыях дала ня вельмі значныя вынікі. Прыродазнаўчая сэкцыя сабрала 100 відаў расьлін Случчыны, набыла некаторыя матар'ялы па

вывучэньні расьлін і птушак акругі. Грамадзка-эканомічная сэкцыя сабрала 300 №№ песень і казак Случчыны, апрацавала кароткі нарыс акругі ў этнографічным, географічным і эканомічным стасунках. Гэты нарыс зьмешчаны ў зборніку „Случчыны“ (адзін экзэмпляр ададаслалі ў часопіс „Наш Край“). Культурна-гістарычная сэкцыя здабыла і перамалявала плян г. Слуцку ад 1780 г., узяла на вучот усе помнікі старасьветчыны, вывучыла гісторыю Слуцку і рэволюцыйны рух на Случчыне ў 1905 годзе. Музэйная падсэкцыя організавала музэй, перавезла ў яго архіў Кальвінскага касьцёлу, сабрала бібліотэку ў ліку 5.100 экз. Слоўнікавая камісія сабрала каля 1.500 слоў жывой мовы.

Конфэрэнцыя прызнала, што галоўным дасягненьнем у працы Слуцкага акруговага Т-ва краязнаўства ёсьць організацыя акруговага музэю і афармленьне раённых Т-ваў і краязнаўчых гурткоў. Недахопамі ў працы зьяўляецца: слабая популярызацыя краязнаўчай справы ў раёнах, адсутнасьць адзінага кірунку па організацыі яе, слабая ўвага краязнаўчай працы на вёсцы, слабасьць краязнаўчай працы сярод нацменшасьцяй.

Па пытаньні аб задачах і мэтах краязнаўчай працы конфэрэнцыя заслухала даклад прадстаўніка ЦБК т. Казака, паказаўшага тыя кірункі,—у якіх павінна весьціся плянавая краязнаўчая праца. Гэтыя кірункі—прыродна-географічнае вывучэньне краю, грамадзка-эканомічнае і культурна-гістарычнае. Каб вывучэньне акругі з паказаных бакоў дало вынікі, неабходна, каб Слуцкае Акруговае Т-ва: 1) популярызавала краязнаўчую працу, уцягнуўшы ў яе шырокія колы сялян, рабочых, асабліва моладзь; 2) прыняла адзіную структуру краязнаўчых організацый; 3) надала краязнаўчай працы плянавасьць і пасэзонны характар; 4) высьветліла вынікі краязнаўчай працы ў друку і прыняла шырокі ўдзел ў дэмографічным перапісе 1926 г.

Па пытаньні аб чарговых, конкрэтных заданьнях Акруговага Т-ва т. Рушкевіч азнаёміў Конфэрэнцыю з плянам працы Т-ва, які мае на ўвазе: 1) закончыць і пашырыць організацыйную працу Акруговага Т-ва; 2) сыстэматычна популярызаваць краязнаўчую справу; 3) дэталізаваць (конкрэтызаваць) працу Акруговага Т-ва. Ва ўсіх раёнах намечана скласьці краязнаўчыя Т-вы, утварыць краязнаўчыя гурткі пры сельсаветах, хатах-чытальнях, пры кожнай школе, а пры сямігодках, агульна-адукацыйных курсах, профтэхнічнай школе і школе сялянскай моладзі заснаваць моцныя краязнаўчыя гурткі і даць ім асобныя заданьні. Для популярызацыі краязнаўчай працы акруговае Т-ва: 1) па кожнай сэкцыі будзе праводзіць лекцыі і даклады для рабоча-сялянскай аўдыторыі і ў школах; 2) будзе пашыраць друкаваньне краязнаўчых матар'ялаў і прымаць актыўны ўдзел у часопісе „Наш Край“; 3) будзе папаўняць краязнаўчыя бібліотэкі раённых Т-ваў; 4) вылучыць лектарскае бюро і будзе запрашаць лектароў з цэнтру; 5) разгорне працу краязнаўчых гурткоў у школах, комсамольскіх організацыях і г. д.

Конкрэтная праца па сэкцыях наступная. Грамадзка-эканомічная сэкцыя будзе вывучаць нізавы кооператыўны апарат, прыватны гандаль, кірмашы ў Слуцку, саматужніцтва на мясцох, сельска-гаспадарчыя выстаўкі, прылады земляробства, лепшыя гаспадаркі, Савецкія гаспадаркі, колектывы, спосабы земляўпарадкаваньня і палепшаньня сельскае гаспадаркі, спосабы вырабу льну, апрацоўкі скур і г. д. Прыродна-гегорафічная сэкцыя намячае: 1) пабудову ў Слуцку мэтэоролёгічнай станцыі; 2) складаньне карт глебы, расьлінных згур-

таваньняў; 3) заснаваньне дасьледчага ботанічнага вучастку ў г. Слуцку; 4) зьбіраньне ботанічных і заолёгічных колекцый; 5) наладжваньне лекцый аб флёры, фаўне і клімаце акругі для агульных сходаў Т-ва і шырокіх мас насельніцтва і г. д. Культурна-гістарычная сэкцыя ставіць заданьнем: 1) апісаць, зарысаваць, сфотаграфаваць гістарычныя помнікі Случчыны; 2) даць апісаньне Слуцку ў XVIII ст. на аснове пляну 1780 г.; 3) усебакова апісаць мястэчкі на Случчыне; 4) даць нарыс вёскі на Случчыне ў 1905 г.; 5) сабраць весткі аб дзеячох рэволюцыйнага руху на Случчыне і г. д.

Музэйная падсэкцыя шырака разгорне працу. Будзе закончана праца па організацыі краязнаўчай бібліотэкі. Папоўненьне Акруговага Краязнаўчага Музэю будзе ісьці шляхам прысылкі матар'ялаў установамі Сельсаюзу, Народнае Асьветы, Камітэтам Партыі, Трэстам Мясцовай Прамысловасьці, Земаддзелам і г. д. Апрача гэтага, Музэйная падсэкцыя будзе дапамагаць раённым Т-вам па організацыі раённых краязнаўчых музэяў.

Плянам працы Акруговага Т-ва намечаны і агульныя заданьні для раённых т-ваў краязнаўства і конкрэтызаваная праца па Капыльскім раёне, які Акруговая Конфэрэнцыя прызнала найбольш тыповым для Случчыны.

Урэшце, у пляне працы Акруговага Т-ва паказана краязнаўчая літаратура, якую патрэбна тэрмінова набыць для Акруговага Т-ва.

Па дакладзе аб краязнаўчай працы ў школе Акруговая Конфэрэнцыя пастанавіла: 1) прасіць Акрана забясьпечыць школы літаратурай па краязнаўстве ў школах; 2) вылучыць прадстаўніка ад Акруговага Т-ва ў Мэтодычную камісію; 3) правесьці ўвязку працы школьных краязнаўчых гурткоў з працай раённых і акруговага т-ваў; 4) прызнаць неабходным організацыю краязнаўчых гурткоў пры ўсіх сямігодках гораду і раёнаў.

Новае праўленьне, якое было абрана Конфэрэнцыяй, складаецца з 9 асоб і 3 кандыдатаў, а рэвізійная камісія з 3 асоб і 1 кандыдата.

Можна спадзявацца, што пасьля Конфэрэнцыі краязнаўчая праца на Случчыне шырака разгорнецца.

## Праца этнографічнай экспэдыцыі ўлетку 1926 г. па Себескім, Невельскім і Вяліскім паветах.

12 ліпня гэтага году па даручэньні Інбелькульту, сакратар Музычнай Падсэкцыі ІБК, А. Грыневіч, паехаў у Себескі, Невельскі і Вяліскі паветы з мэтай дасьледваньня фольклёру.

Ва ўсіх гэтых пунктах разам запісана 150 народных мэлёдый песень з тэкстамі і, апрача таго, больш 20-ці варыянтаў тэксту да тых-жа мелёдый.

Запісы мэлёдый і тэксту песень рабіліся паводле таго, як яны чуліся на месцы. Запрашаліся пераважна жанчыны, якія найбольш ведаюць песень. Вялікага выбару з іх аднак ня было, бо з ростам культуры як народныя песьні, так і песнахоры хутка выводзяцца. Да рэчы сказаць, такое зьявішча наглядаецца цяпер ня толькі на блізкіх шляхох да Ленінграду і Масквы, але ўжо і ў асяродку Беларусі.

Па шляху-ж ад Себежа да в. Казлова мова крышку мяняецца, напрыклад, побач з кароткім „у" пануе скрозь мяккаэрасьць; зьяўляецца ўжо і так званае „цоканьне" разам з зьмякчэньнем суфікснага „с" (Іваньськіі, хрыстьськіі). Таксама чуваць яшчэ і двойны лік (дзьве вярсьце, тры кане) і канчатак „і" ў назоўным склоне прыметнікаў множнага ліку (парныі, малыі і г. д.).

Побач з мовай па гэтым шляху і мэлёдыі песень паволі губляюць

сувязь з мотывамі левабярэжжа Дзьвіны, на захад ад Віцебску і ад Невеля зьбліжаюцца ўжо па сваім характары да песень усходняй Віцебшчыны і, больш-менш, усёй Смаленшчыны.

Старыя абрады блізка што зусім выveліся. З народных танцаў засталася дзе-ні-дзе адна Лявоніха („перакрутка“; у Вяліскім павеце называюць „Ёлачкай“ і „Бараўцом“). Карагоды яшчэ водзяцца, але толькі на так званых „бабскіх брыксах“— жаночае сьвята ў чацьвер на масьлянку, калі жанчыны кідаюць прасьці, зьбіраюцца да аднаго якогаколечы гаспадара, прыносяць закуску, гарэлку, піва і балююць.

Сабраныя матар'ялы апрацоўваюцца цяпер А. Грыневічам.

## Краязнаўчая выстаўка.

*(Віцебск).*

У часе працы трэцяй Віцебскай Акруговай Краязнаўчай Конфэрэнцыі адбывалася выстаўка. Праца акруговага праўленьня была прадстаўлена выданьнямі, у тым ліку і надрукаванаю часткаю Віцебскага Краёвага Слоўніка. Сярод экспанатаў мясцовых краязнаўчых організацый асабліва выдатнымі былі дыяграмы Сьветазнаўчай сэкцыі, энтомолёгічныя колекцыі гуртка Віцебскага Ботанічнага Саду і Нікольскага з Радкевічам, картатэка бібліографіі Віцебшчыны „Дому Кнігі“, колекцыя набоек (крашанінных клішэ) Сураскага Раённага Таварыства, радаслоўная з 176,—яго-ж і інш. Агульнае ўражаньне ад выстаўкі здавальняючае і краязнаўчыя організацыі павінны ўзяць сабе за правіла організаваць іх у часе сваіх конфэрэнцый.

## Разгортаем працу.

**(Азяранскі гурток кр-ва, Бабруйскай акругі).**

Вясной сёлетняга году пры Азяранскім пэдагогічным гуртку з'організаваўся гурток краязнаўства, у якім прыняло шчыры ўдзел раённае настаўніцтва. Глеба для працы тут ёсьць, шмат помнікаў, курганоў (XI-XII с.) раскідана па палёх, а сама вёска распаложана каля самага гарадзішча, якое за апошнія гады зрэзана ракой Друцьцю, што злучае сяло Азяраны з Дняпром у горадзе Рагачэве. Застаўшыйся архіў пры школе цэлы з 1792 г. (гаворыць аб тым, што сяло гэта належала Кіева-Пячэрскаму манастыру. Цяпер гэты архіў забраў Рагачэўскі Пэдтэхнікум. У гэтым годзе гурток думае выдаць невялікую кніжку аб экономічным і культурным стане вёсак Азяранскага сельсавету, дзеля чаго кожны настаўнік складае гісторыю пахаджэньня той або іншай вёскі. Зьбіраецца слоўнікавы матар'ял. Наогул праца па вывучэньні свайго краю пасоўваецца, але слаба ў гэту працу ўцягнуты іншыя організацыі, як ячэйка КПБ і КСМБ.

Я. М. Савіцкі.

# БІБЛІОГРАФІЯ.

**„Известия Центрального Бюро Краеведения“** пад рэд. акад. Марра. № 8. Ленінград. 1926 г. In 16⁰. 32 стар. 2.000 экз. Цана 30 кап.

Ужо другі год выходзяць гэтыя „Известия “ЦБК РСФСР, з кожным нумарам паляпшаючыся дзякуючы шырокаму ўдзелу мейсц у вырашэньні галоўнай задачы часопісу—адбіваць бягучую краязнаўчую працу. На жаль, корэспондэнцыі з Беларусі друкуюцца вельмі рэдка, а ў гэтым нумары зусім няма. Пачынаецца нумар дужа цікавым пытаньнем—краязнаўчым перапісам па Саюзе Рэспублік, што мае правесьці ЦБК РСФСР, галоўная ўвага якога, зразумела і зьвернута на РСФСР. Усебеларускае ЦБК ужо зрабіла першыя крокі ў гэтым адносна Беларусі па сваёй уласнай ініцыятыве. Далей артыкул аб краязнаўчых зьездах констатуе, што ў РСФСР краязнаўчыя мясцовыя зьезды часамі адбываюцца бяз ведама ЦБК. У паасобных артыкулах разглядаецца пытаньне аб кальцаваньні птушак і расійскай інструкцыі аб ахове прыроды. Дзейнасьць паседжаньняў ЦБК, адбітая ў вынятках з протоколаў, сьведчыць аб вялікай зацікаўленасьці ЦБК станам справы на мясцох, які апошнімі і высьвятляецца ў корэспондэнцыях разьдзелу часопісу „На мясцох“. У разьдзеле бібліографіі зьмешчаны працы рэгістрацыі краязнаўчай літаратуры, распачатыя з першага нумару; канчаецца сшытак паведамленьнямі.

Бясспрэчна, нашы краязнаўчыя організацыі, апрача адбітку свае дзейнасьці ў беларускім друку, павінны дзяліцца сваім досьледам і дасягненьнямі і ў гэтым часопісе, для скарыстаньня яго краязнаўцамі суседняй рэспублікі, як мы часта можам пакарыстацца іх досьледам з гэтага часопісу.

К-ч.

**„Асьвета“**—часопіс Нар. Кам. Асьветы і Саюзу Працасьветы БССР. № 6. Менск 1926 г. In 16⁰. 208 стар. 2.000 экз. Цана 80 кап.

Самым цікавым і актуальным зьяўляюцца ў гэтым нумары програмы 1-4 г. г. навучаньня, выданы і асобным адбіткам. Далей з краязнаўчага погляду ня менш цікавы артыкул В. Купрэвіча „З практыкі правядзеньня краязнаўчага ўхілу, пры выкладаньні прыродазнаўства“. У ім асьветлена практыка Смалявіцкай 7-годкі ў організацыі фэнолёгічных назіраньняў і дасьледчых геолёгічных экскурсій з вучнямі старэйшых кляс 7-годкі. Аўтар зусім слушна даводзіць патрэбы спрошчваньня фэнолёгічных запісаў і карысныя вынікі вучнёўскай працы на р. Плісе. З гэтым артыкулам цікава будзе пазнаёміцца кожнаму настаўніку. Артыкул Б. Брадоцкага „Твар профшкольца Меншчыны“ мае вялікае значэньне, як вынік вывучэньня мясцовага вучня. За тое Даўгаполаў у сваёй працы „Гутаркі ў хаце-чытальні“ не падкрэсьліў таго галоўнага мэтодычнага моманту, што ўсе гутаркі ў хаце чытальні павінны апірацца на конкрэтны мясцовы матар‘ял, запас вед і ўспрыйманьняў селяніна—г. зн. на мясцовы краязнаўчы матар‘ял, плякаты з мясцовага жыцьця і д. т. п. Таксама С. Мар‘ясіна ў сваіх „Мэтодычных указаньнях да програм, якія выдаюцца Са-

юзам Белпрацасьветы“ ні словам ня ўспомніла аб краязнаўчай падрыхтоўцы настаўніка, які складае галоўны кадр краязнаўцаў і краязнаўствам цікавіцца. Гэта, мабыць, будзе ў самых праграмах, бо ня можна-ж думаць, што, напр., грамадзкая праца настаўніка ў галіне экономічнага вывучэньня краю, ня цікава для Белпрацасьветы.

У ваддзеле „На шляху перападрыхтоўкі“ адзначаецца праца некаторых акруговых курсаў па перападрыхтоўцы ў галіне краязнаўчай.

Г. Гарэцкі паставіў цікавае пытаньне „аб беларусізацыі вышэйшых навучальных установ БССР“, адказ на якое будзе ў наступным нумары.

Наогул гэты нумар даволі карысны для чытача.

К. М.

**„Голас беларуса“**—беларуская штотыднёвая газэта ў Латвіі. Год выданьня 2-і. Рыга. 1926. Рэдактар-выдавец К. Езавітаў.

**„Беларуская школа ў Латвіі“** — пэдагогічны штомесячнік, дадатак да газэты „Голас Беларуса“, № 1, Рыга, кастрычнік 1926 г. In 16⁰. 8 стар. Рэдактар-выдавец К. Езавітаў.

Цікавая газэта і часопіс прысьвечаныя абароне нацыянальна-соцыяльных праў беларускае нацменшасьці ў Латвіі. Апрача звычайнага палітычнага зьместу газэта дае вялікую інформацыю аб жыцьці Савецкай Беларусі і мае літаратурны куток, дзе практыкуюць свае сілы маладыя поэты з Латвійскай Беларусі. Творчасьць іх бадзёрая, з воляю да барацьбы. У часопісе зьмешчаны інформацыі аб сходзе сяброў Дзьвінскага Аддзелу „Т-ва Беларускіх Вучыцялёў“, аб працы Станькаўскай школы і беларускай пачатковай школе ў Люцыне. На апошняй старонцы апісваецца выпадак, калі расійскія шовіністыя, з якімі беларусам прыходзіцца вытрымліваць упартую барацьбу наогул, прымушалі беларускага сірату хадзіць у сваю школу. Невялікія, мабыць, матар‘яльныя ды і палітычныя, магчымасьці не даюць мажлівасьці разгарнуцца часопісу і газэце.

У вапошняй часамі друкаваліся казкі і іншы фольклёр, паміж іншым, матар‘ялы аднаго з краязнаўчых гурткоў, але з разглядам рэлігійнага пытаньня ў агульна-нацыянальным маштабе. Цікава-б было, каб газэта адбівала працу краязнаўчых гурткоў па вывучэньні *сваіх* мясцовасьцяй, краёў, што цалкам па сілах і газэце. М. К.

„Ziemia“—з 1922 да 1925 г. уключна месячнік, а з 1926 г.—двухтыднёвік краязнаўчы з ілюстрацыямі. Орган Польскага Таварыства Краязнаўства. Комплекты за 1922, 1923, 1924, 1925 і 1926 г.г. Выдаецца ў Варшаве.

У вапошні час нам здарылася пазнаёміцца з паказанымі комплектамі часопісу „Ziemia“, што выдаецца Польскім Таварыствам Краязнаўства, якое працуе з 1906 г. і мае свае аддзяленьні ў Вільні, Навагрудку і іншых месцах Заходняй Беларусі, якія разьвіваюцца побач з поўнаю немажлівасьцю для беларусаў організаваць свае краязнаўчыя таварыствы. Яшчэ да рэволюцыі часопіс „Ziemia“ зьмяшчаў вельмі многа гістарычных, этнографічных і іншых ілюстраваных матар‘ялаў з этнографічнай Беларусі. Ня менш іх зьмяшчалася і ў паказаных комплектах „Ziemi“. Нават больш таго—палітычны стан Польшчы выклікаў ва ўсіх колах Польшчы вялікую зацікаўленасьць да Заходняй Беларусі і нумар 5 за 1922 г. быў прысьвечаны Віленшчыне. На 40 старонках з малюнкамі зьмешчаны артыкулы: „На эміграцыі“, „Нарыс геолёгічна-морфолёгычны Вільні“, „Вільня на попеле дзеяў Літвы“, „Гаспадарчыя адносіны Віленшчыны“, „Вільня і мастацтва“, „Унівэрсытэт Віленскі“, „Паны і іх падданыя на Русі Літоўскай“ і бібліографіі сучасных выданьняў аб Вільні.

У нумары 6, 7 і 8 (патройны) за 1925 г. апісваецца Загарыньне на Палесьсі на 60 стар. з малюнкамі. Нумар зьмяшчае артыкулы: „Загарыньне“, „Аб геолёгічнай будове Загарыньскага Палесься“, „Аб крысталічных мінэралях Палесься Загарыньскага“, „Расьлінавая шата Загарыньскага Палесься“, „Паляшукі, паміж Гарынем, і Случаю, і Убарцю і Гарынем“, „Аб народнай культуры паўднёва - цэнтральнага Палесься“, „Тыпы вёскі ўсходняга Палесься“, „Выпальваньне лядаў“, „Да гісторыі гутніцтва на Палесьсі Валынскім“, „Каменныя крыжы і драўляныя харомкі на Палескіх магілках“, „Да знаёмства з дагісторыяй Палесься“ і „Нарыс дзеяў Загарыньня“.

Нумар 10-12 „Ziemi“ за той-жа 1925 год, прысьвечаны цалкам Навагрудзкаму ваяводзтву. Гэты нумар складаецца з артыкулаў аб Навагрудчыне, ахапляючы яе ня менш усебакова: „Нарыс географічны зямлі Навагрудзкай“, „Флёра зямлі Навагрудзкай“, „Навагрудчына з погляду этнографічнага“, „Нацыянальныя і адміністрацыйныя адносіны ў ваяводзтве Навагрудзкім“, „Стан гаспадарчы ваяводзтва Навагрудзкага, „Школьная справа ў ваяводзтве Навагрудзкім“, „Аб краявідзе Навагрудзкім“, „Навагрудак“, „Слонім“, „Несьвіж“, „Монумэнтальная архітэктура ў ваяводзтве Навагрудзкім“, „Як хто-небудзь будзе у Навагрудзкай старане...“, „Міцкевічаўская Навагрудчына“, багатыя мясцовым матар‘ялам „Нотаткі“. Нумар мае 94 старонкі з больш чым сотняю фотографій і прыгожую стылізаваную вокладку.

Сярод іншых артыкулаў аб Беларусі, раскіданых па паасобных нумарох „Ziemi“ ёсьць і „Музэі Віцебскія“ Б. Брэжга (№ 15-16 за 1926 год), што выехаў з БССР у Латвію.

Такі падрабязны пералік артыкулаў спэцыяльных нумароў „Ziemi“ мы зрабілі для таго, каб паказаць наколькі ўсебакова цікавіцца Польскае Т-ва Краязнаўства так цяжка здабытаю колёніяю. Звычайна-ж дзейнасьць Т-ва і яго орган „Ziemia“ носіць пераважна гуманітарны характар, будучы абапёрта не на шырокія колы грамадзянства, а на аматарскае краязнаўства.

Што асьвятленьне фактаў у памянёных артыкулах тэндэнцыйнае— даводзіць ня прыходзіцца. Даволі паказаць на канец аднаго артыкулу (№ 5 за 1922 год ст. 162): „зямля Віленская стане неадлучнаю — на вечныя часы—часткаю, што складае Рэч Паспалітую Польскую“.

У пазьнейшых нумарох толькі ў некалькіх месцах можна напаткаць артыкулы аб пажаданасьці ўдзелу шырокіх мас у краязнаўстве, як напр.: „Вёска і краязнаўства“, „Краязнаўства на шырокіх падставах народных“ і нават: „Польскае краязнаўства і войска“. Але водгуку на іх ня відаць.

Толькі соцыяльная рэволюцыя зможа вывесьці польскае краязнаўства з аматарства на шырокі шлях грамадзка-практычнага краязнаўства

М. К.

Выдавец—**Інстытут Беларускае Культуры.**
Рэдактар—**С. Плаўнік (З. Бядуля).**

# ЗЬМЕСТ.



---

Застаўкі і канцоўкі на вытворчыя тэмы зрабіў мастак *А. Тычына.*

# Што надрукавана ў часопісе „Наш Край“ за ўвесь час.

## № 1 1925 г. Кастрычнік.

*Ад рэдакцыі. Краязнаўчыя організацыі БССР. Проф. З. Жарынаў*—Краязнаўства і працоўная школа. *М. Шчакаціхін*—Фрэскі полацкага Барысаглебскага манастыра. *А. Сянкевіч*—Аграрны рух на Меншчыне ў 1905-6 г. *Проф. П. Салаўёў*—Некаторыя вывады з фэнолёгічных назіраньняў. *Проф. Васількоў*—Як зьбіраць расьліны. *Анкеты, програмы і інструкцыі:* Статут _______ Раённага Краязнаўчага Таварыства. Што рабіць раённым краязнаўчым таварыствам. Програма-інструкцыя для зьбіральнікаў беларускай музычна-этнографічнай творчасьці. Інструкцыя да зьбіраньня народнага слоўніка-тэрмінолёгічнага матар'ялу ў беларускай мове. Мінімальная програма фэнолёгічных назіраньняў. Програма апісаньня паселішчаў гарадзкога тыпу. *Хроніка.*

---

## № 2-3, 1926 г. Лістапад—Сьнежань.

*Я. Кісьлякоў*—Тып беларускай сялянскай гаспадаркі. *О. Палянская*—Аб зьменах расьліннасьці БССР у кірунку з поўначы на поўдзень. *М. Азбукін*—Нашы мястэчкі. *А. Нямцоў*—Экскурсія вучняў Асіпавіцкай сямігодкі. *Яз. Троська*—Шэсьць экскурсій па Магілеву. *Бюлетэнь надвор'я ў БССР за верасень 1925 г. Анкеты, програмы і інструкцыі:* Кароткая інструкцыя да зьбіраньня вестак аб некаторых глінах, пяскох і каменьнях Беларусі. Апытальны ліст. Програма зьбіраньня вуснае народнае творчасьці. *Бібліографія. Хроніка.*

---

## № 1 (4) 1926 г. Студзень.

*Назар Бываеўскі*—Вялікае сьвята беларускае культуры. *М. Шчакаціхін*—Дрэварыты і орнамэнт у выданьнях Скарыны. *Д. Васілеўскі*—Крыніцы мінулага Беларусі. *М. Вэйнгер*—Географічная номэнклятура ў вуснах яўрэяў. *А. Фядзюшын*—Дзяржаўны паляўнічы запаведнік БССР. *М. Зьбіткоўскі*—Аб морве і гадоўлі шаўкоўнага вусеня ў Слуцкай акрузе. *О. Палянская*—Аб удзеле краязнаўчых організацый у справе геоботанічнага дасьледваньня Беларусі. *Бюлетэнь надвор'я па БССР за кастрычнік 1925 г. З матар'ялаў, прысланых у ЦБК краязнаўчымі організацыямі*: Апісаньне Койданаўскага замку. Пахаваньне стралы. *Анкеты, програмы і інструкцыі:* Апытальны ліст. Інструкцыя да зьбіраньня беларускіх народных тэрмінаў па анатоміі жывёл. *Хроніка. Матар'ялы да гістарыч. бібліографіі Полаччыны.*

---

## № 2-3 (5-6) 1926 г. Люты—Сакавік.

*Д. Васілеўскі*—Сталецьце краязнаўчай працы на Беларусі. *М. Шчакаціхін*—Мотывы краязнаўства ў нашым сучасным мастацтве. *К. Папоў*—Сьмяротнасьць грудных дзяцей у БССР. *Н. Савіч*—Аб расьліннай

шаце Магілёўскай акругі. *О. Палянская*—Азалея понтыйская. *Проф. П. Салаўёў*—Аб вывучэньні малярыі. *Проф. Яцатнкоўскі*—Аб зьбіраньні шасьціногіх у пачатку вясны. *Матар'ялы з месц: Натальлін*—Аб зьбіраньні слоўніка жывой мовы. *Кіпель*—З матар'ялаў па народнай мэдыцыне. *Каракін*—Стружачны выраб у мястэчку Глуску, Бабр. акр. *Д. Васілеўскі*—З гісторыі Воршы. *Е. Цехановіч*—Пячорная царква і падземны ход у Варшанскім Кутэінскім манастыры. *Я. Сяргеенка*—Бабынавічы. *А. Ганжын*—Мястэчка Новабыхаў Магілеўскае акругі. *Анкеты, праграмы і інструкцыі: М. Шчакаціхін*—Спосабы зьбіраньня матар'ялаў з беларускага мастацтва. *Я. Ракаў*—Пастаноўка падлічэньня бюджэту часу беларускага селяніна. *Г. Парэчын*—Аб зьбіраньні матар'ялаў па народным звычаёвым праве. Ад Тэатральнае падсэкцыі Інстытуту Беларускае Культуры. *Хроніка. Бібліографія.*

---

## № 4-5 (7-8) 1926 г. Красавік—Май.

*Нашы чарговыя заданьні. Проф. Пераход*—Да характарыстыкі сасновых дрэвастанаў Бабруйшчыны. *Я. Тараноўскі*—Да пытаньня аб паходжаньні назваў вёсак, мястэчак, гарадоў Беларусі. *І. Сосіс*—Соцыяльны і культурны стан яўрэяў у Літве і Беларусі. *М. Зьбіткоўскі*—Аб зборы лекавых траў. *О. Палянская*—Беларускія жоўтазелі (Genista). *Бюлетэнь надвор'я на БССР за лістапад 1925 г. Матар'ялы з месц: К. Арол*—Чырвона-Зорская паперня і яе праца. *Гр. Варапаеў*—Буеўскае возера. Абсьледаваньне мікольскага кірмашу ў г. Сянно Віцебскай акругі. *Б. Федарака*—Архэолёгі павінны зьвярнуць увагу. *А. Крукоўскі*—Каменныя валы. *М. Грамыка*—Па ўсходніх раёнах БССР. *Праграмы, анкеты і інструкцыі: І. Гармізэ і Я. Ракаў*—К абследваньню нізовага коопэрацыйнага апарату. Інструкцыя для запаўненьня анкеты аб хатніх рамёствах. Парадак разбору матар'ялу экскурсій. Do ludności polskiej na Białorusi. *Хроніка. Бібліографія.*

---

## № 6-7 (9-10) 1926 г. Чэрвень—Ліпень.

*Д-р Магілеўчык*—Санітарна-гігіенічныя ўмовы хаты і двара беларускага сялянства. *Проф. А. Фядзюшын*—Да лёсу белавескага зубра. *Проф. В. Пераход*—„Ліставыя груды“ і „вольсы“ Беларусі. *М. Зьбіткоўскі* — Сям. Ericaceae — верасавыя. *М. Зьбіткоўскі*—Menyanthes trifoliata L. *В. Палянская*—Бяроза прысадзістая. *М. Грамыка*—Геолёгічныя матар'ялы і краязнаўчыя гурткі. *Зм. Даўгяла*—Крашаніна, набойка і выбойка. *Ал. Шлюбскі*—Беларуская мова арабскай транскрыпцыяй. *Бюлетэнь надвор'я ў Беларускай ССР за сьнежань 1925 году. Матар'ялы з месц: А. Кваткоўскі*—Фатыньская гаспадарка і яе значэньне. *Д. Васілеўскі*—З матар'ялаў да архэолёгічнай карты Аршанскае акругі. *Праграмы і інструкцыі:* Да ўсяго грамадзянства БССР. Аб распаўсюджаньні стронгі. *Хроніка. Бібліографія.*

---

## № 8-9 (11-12) 1926 г. Жнівень—Верасень.

*ЦБК*—Краязнаўства і школа. *А. У. Фядзюшын*—Ахова прыроды і школа. *В. І. Пераход*—Яловая „рамень“ Горацкай лясной дачы. *І. Зьбіткоўскі*— Trapa natans L. Вадзяны арэха або чортаў арэх. *І. Зьбіткоўскі*—Ваўчкі трыдзельныя. *В. Палянская*—Вольха чорная і вольха шэрая. *Праграмы, інструкцыі і анкеты*: Анкета—Прыродныя фарбы Беларусі. *Матар'ялы з месц*: Дрэваапрацоўчы завод „Комінтэрн“ у Н.-Барысаве. *С. Салаўёў*—Сьпіс птушак у ваколіцах Горак

*А. Крукоўскі*—Жалезная руда на Мазыршчыне. *Д. І. Даўгяла*—Аршанскія пячоры. *А. Крукоўскі*—Старадаўні Тураў і яго ваколіцы. *Я. Сяргеенка*– Гарадзішча пры паселішчы Бабынавічы. *Г. Л. Вінаградаў*—Сівыя сьведкі мінулага Чэрвеншчыны. *Я. Зянюк*—З кіем па раёну. *Хроніка.*

---

## № 10-11 (13-14) 1926 г. Кастрычнік—Лістапад.

*Артыкулы:* Студэнт, пазнай свой край! *М. Кіркевіч*—Перапіс насельніцтва. *Аляксандраў*—Чарговыя задачы школьнага краязнаўства. *Проф. В. І. Пераход*—Беларускія „бары ягаднікі“ і „бары верасьнікі“. *Зьбіткоўскі*—1) Ражкі. 2) Морва ў Полаччыне. *Проф. П. Салаўёў*—Шуканьне законаў пэрыодычнасьці масавага зьяўленьня кузурак. *М. Шчацыхін*—Замак у Рагачэве. *М. Ламака*—Рысы колектывізму сярод сялян. *А. В. Фядзюшын*—Яшчэ аб ахове прыроды. *Матар'ялы з месц:* Возера Пялік і яго аколіцы. Бабынаўскае і Зеляноўскае вазёры. Помнікі кампаніі 1812 г. у Барысаве. *Програмы, інструкцыі і анкеты.* Програма першапачатковага азнаямленьня з краязнаўствам. Інструкцыя для асноўных нагляданьняў над сьнегавым насьцілам, над мяцеліцамі і над узьніманьнем і замярзаньнем рэк. Ад Камісіі для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы. *Хроніка. Бібліографія.*

---

# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ

## на самую зразумелую Цэнтральную Беларускую сялянскую газэту

# „БЕЛАРУСКАЯ ВЁСКА“

**Орган ЦК КП(б.)Беларусі.**

**Выходзіць 3 разы ў тыдзень у 8 выданьнях**



**„БЕЛАРУСКАЯ ВЁСКА“ шырока асьвятляе жыццё вёскі.**

**ДВА ЮРЫСТЫ ў аддзеле „Запытаньні і адказы“ даюць адказы і парады на кожнае запытаньне і жалабы селяніна.**

**ЗЕМЛЯБУДАЎНІК Наркамзему Беларусі дае парады на зямельн. жалабы**

**АГРАНОМЫ ў аддзеле „Сельская гаспадарка“ даюць карысныя парады для гаспадара.**

**ДОКТАР, супрацоўнік „Беларускай Вёскі“, дае лячэбныя парады.**

**ВЭТЭРЫНАР радзіць, як лячыць і даглядаць скаціну.**

**„БЕЛАРУСКАЯ ВЁСКА“ мае за межамі 21 селькора, якія на мове эспэранто пішуць пра жыцьцё замежных сялян.**

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| | На 1 м. | На 3 мес. | На 6 мес. | На 1 год |
|---|---|---|---|---|
| 1 выд. газ. „Белар. Вёска“ | 15 к. | 45 к. | 90 к. | 1 р. 80 к. |
| 2 „ „ „Б. В.“ і журнал „Плуг“ | 25 к. | 75 к. | 1 р. 50 к. | 3 р. — к. |
| 3 „ „ „ і журн. „Бел. Раб. і Сялянка“ | 25 к. | 75 к. | 1 р. 50 к. | 3 р. — к. |
| 4 „ „ „ і кніжка па сельск. гаспадарцы | 25 к. | 75 к. | 1 р. 50 к. | 3 р. — к. |
| 5 „ „ „ і жур. „Бел. Піонэр“ | 25 к. | 75 к. | 1 р. 50 к. | 3 р. — к. |
| 6 „ „ „ і жур. „Маладняк“ | 55 к. | 1 р. 65 к. | 3 р. 30 к. | 6 р. 60 к. |
| 7 „ „ „ і жур. „Плуг“ і „Белар. Работніца і Сялянка“ | 35 к. | 1 р. 05 к. | 2 р. 10 к. | 4 р. 20 к. |
| 8 „ „ „ і жур. „Плуг“, „Бел. Раб. і Сялянка“, „Белар. Піонэр“ і кніжка па сельск. гаспадарцы | 55 к. | 1 р. 65 к. | 3 р. 30 к. | 6 р. 60 к. |

**Усе падпішчыкі газэты „БЕЛАРУСКАЯ ВЁСКА“ дармова атрымоўваюць штомесячна дадаткі „ЗМАГАЙСЯ З ЦЕМРАЮ“, „НА АБАРОНУ“ і два разы на месяц літаратурна-мастацкі дадатак — „ЧЫРВОНЫ СЕЙБІТ“. Хто падпішацца на „Беларускую Вёску“ на ЎВЕСЬ ГОД, той ДАРЭМНА атрымае штодзённы АДРЫЎНЫ НАСЬЦЕННЫ КАЛЯНДАР.**

Усе журналы і кніжкі, дадаткі да „Беларускай Вёскі“, выходзяць кожны м-ц і рассылаюцца падпішчыкам з наклейкай адрасоў бяз усякага затрыманьня.

**Падпісацца можна:** У вёсцы: ува ўсіх упаўнаважаных канторы „Белар. Веска“, селькораў газ. „Б. Веска“, у пісьманосцаў, у паштов. аддзяленьнях, у школах і ва ўсіх хатах-чытальнях і нардамох, а ў МЕНСКУ — у канторы газэты — Савецкая, 63.

Падпіску з грашыма да 3 руб. можна прысылаць маркамі ў заказным пісьме.

